

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

2 ЛЮТАГА 2001г. № 5/4089 КОШТ 118 РУБ.



### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Аформіць падпіску на "ЛіМ" на першае паўгоддзе 2001 года можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **600** рублёў, на тры — **1 800**. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — **1 560** рублёў, на тры — **4 680**.*

**Наш індэкс — 63856.**





# Вяртанне ў Менск

Калі Менскае замчышча на сутоку Свіслачы і Нямігі, дзе горад нарадзіўся, — гэта маленства нашай сённяшняй сталіцы, дык Верхні горад, дзе архітэктурны ансамбль сфармаваўся ў XVII—XVIII стагоддзях, увасабляе сталасць, мудрасць, годнасць.

Два апошнія стагоддзі не былі для Верхняга горада шчаслівымі. Стратаў было болей, чым здабыткаў. У 1857 годзе па загадзе расійскага імператара (менавіта так!) на плошчы знішчана ратуша, каб не вярэдзіла мінчукам душу напамінам пра вольнасці Магдэбургскага права, якімі горад валодаў з 1499 года. Каталіцкія храмы, па абліччы выразна еўрапейскія, перададзены праваслаўным і перароблены цалкам. У савецкі час шэраг манументальных пабудоў — храмавых і грамадскіх будынкаў, альбо ўвогуле знішчаны, альбо знявечаны пераробкамі. Плошчу разрэзалі па жывому шырокай дарогай на Драздзы, якая цяпер завецца праспектам Машэрава. Горадабудаўнічы ансамбль згубіў цэласнасць. Верхні горад паступова ператвараўся ў занядбаную, паміраючую ўскраіну ў двух кроках да новага "сацыялістычнага" цэнтра Мінска — Кастрычніцкай плошчы з гмахам ЦК КПБ. Тое, што мы маем на Верхнім горадзе, зараз гэта толькі аскепкі былой веліччы, былой прыгажосці.

Аднак Верхні горад і ягонае сэрца — Саборная плошча (цяпер плошча Свабоды), выжыў і адраджаецца як пасля цяжкой хваробы. Адноўлены ў былых формах шэдэўр беларускага барока касцёл Найсвяцейшай Марыі-панны, адбудоўваецца Гасцінны двор, збольшага даведзены да ладу дом-сядзіба мастака Ваньковіча, больш-менш прыстойны выгляд набылі іншыя пабудовы. Ёсць планы адраджэння ратушы і вежы з гадзіннікам побач з касцёлам Марыі. Плошчу Свабоды мінчукі ведаюць як мастацкі салон пад адкрытым небам. Калі гарадскія ўлады "перасялілі" сюды мастакоў, што раней гандлявалі сваімі творамі на праспекце Леніна, а потым — Скарыны, гэта было ўспрынята як свавольства і замах на ўсталяваную традыцыю. А зараз прызвычаіліся. Плошча аказалася надзвычай утульнай.

Верхні горад вяртае сабе ранейшы статус, зноў становіцца цэнтрам Мінска. Гэта адбываецца насуперак волі планіроўшчыкаў "савецкай горадабудаўнічай школы", што прыклалі нямала намаганняў, каб зрабіць наш горад непадобным на самога сябе. Мінск вяртаецца ў Менск. Таму што людзей цягне туды, дзе прыгожа.

**П. В.**

*Фота М. ПРУПАСА*





# КОЛА ДЗЁН

***31 студзеня і 1 лютага ў Палацы Рэспублікі праходзіла рэспубліканская нарада работнікаў культуры "Аб мерах па вырашэнні праблем развіцця культуры і мастацтваў", у працы якой удзельнічала не адна сотня людзей, жыццё якіх цесна звязана з нацыянальнай культурай. Адбыліся рабочыя сустрэчы ўдзельнікаў нарады з прадстаўнікамі міністэрстваў эканомікі, фінансаў, працы, юстыцыі, у час якіх былі вызначаны сённяшнія праблемы ў развіцці беларускай культуры і іх вырашэнне ў перспектыве. У размове ўдзельнічалі начальнікі абласных упраўленняў культуры, загадчыкі раённых аддзелаў культуры, прадстаўнікі прафсаюза, старшыні творчых саюзаў.***

***На шматлікія пытанні былі адразу дадзены адказы міністрам культуры Леанідам Гулякам, намеснікам міністра эканомікі Андрэем Турам, першым намеснікам міністра працы Валерыем Паўлавым, намеснікам міністра фінансаў Анатолем Свержам і намеснікам міністра юстыцыі Аляксандрам Петрашам.***

***Перад удзельнікамі нарады выступіў прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка.***

***Трэба спадзявацца, што два дні нарады — гэта крок да вырашэння праблем развіцця беларускай культуры і мастацтва, без якіх не толькі не быць краіне Беларусь, але і кожнаму грамадзяніну, які жыве на гэтай зямлі, што дала свету такія імёны, як Скарына, Будны, Цяпінскі, Купала, Колас, Багдановіч...***

### ПРЫСЯГА ТЫДНЯ

"Я, грамадзянін Рэспублікі Беларусь, знаходзячыся на службе ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь, прымаю прысягу і ўрачыста клянуся высока несці гонар і годнасць воіна Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, добрасумленна авалодваць вайсковай справай, быць мужным, верным і самаадданым абаронцам свайго народа, свята выконваць Канстытуцыю, законы і вайсковыя статуты. Калі ж я парушу гэтую маю ўрачыстую клятву, то няхай мяне спасцігне суровая кара і ўсеагульная пагарда народа". Гэтыя словы ў мінулую нядзелю паўтарылі каля 12 тысяч маладых салдат беларускага войска, якія прымалі прысягу на вернасць Айчыне. І трэба верыць, што сказаныя словы не паляцелі на вецер, а засталіся ў маладых душах...

### ТРАГЕДЫЯ ТЫДНЯ

У Індыі адбыўся землятрус. Эпіцэнтр знаходзіўся за некалькі кіламетраў ад горада Ахмедабад. Колькасць загінуўшых перавысіла 30 тысяч. Прыкладна столькі параненых. Але гэта толькі папярэднія звесткі, бо пад разваліннямі яшчэ знаходзяцца тысячы людзей. Па словах міністра абароны Індыі, лічба загінуўшых дасягне 100 тысяч, а пацярпелых — 200 тысяч. Не дай Бог!

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Міністр адукацыі Васіль Стражаў правёў прэс-канферэнцыю, прысвечаную стану і перспектывам развіцця беларускай адукацыйнай сістэмы. З вуснаў міністра прагучала, што сёння замежную мову вывучаюць у школах літаральна з першага года навучання ў тры разы болей дзяцей, чым у 1990 годзе. І ўжо ў бліжэйшыя 5-7 гадоў вывучаць замежную мову ў пачатковай школе будуць усе 100 працэнтаў маленькіх беларусаў. Аналізуючы сказанае, прыходзіш да думкі: "Давайце нашу спаконвеку родную беларускую мову прыраўняем да замежнай, каб **усе** нашы дзеці неўзабаве яе вывучалі..."

### ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

Міністэрства сацыяльнай абароны паведаміла, што з 1 лютага павялічыліся памеры пенсій. Мінімальная пенсія ўзрасла на 11,8 працэнта і склала 23293 рублі. Сярэдняя пенсія па ўзросце стала роўнай 43800 рублёў, максімальная — 67937 рублёў. Грошы невялікія, асабліва калі ведаць, што памер мінімальнага спажывецкага бюджэту ў цэнах мінулага снежня на кожнага чалавека складае 63933 рублі. Самі ж выдаткі на жыццё "сярэдняй" сям'і з чатырох чалавек павінны перавышаць 250 тысяч рублёў у месяц. Але ці многа такіх "багатых" сем'яў?

### ПАСТАНОВА ТЫДНЯ

У каго ёсць золата, той ізноў пабагацеў, дзякуючы пастанове Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь, якой устаноўлены новыя цэны на каштоўныя металы ў вырабах і ломе, што скупляюцца ў насельніцтва. Так, скупачная цана за адзін грам золата самай нізкай пробы — 333-й — складае 2 тысячы 920 рублёў, за адзін грам 583-й або 585-й пробы — 5 тысяч 130 рублёў, а самай высокай пробы — 958-й — 8 тысяч 401 рубель. Серабро ў вырабах і ломе самай нізкай пробы — 500-й — каштуе 74 рублі, 925-й пробы — 137 рублёў, самай высокай пробы — 960-й — 142 рублі. А ў каго ёсць плаціна, той мае магчымасць яе здаць і атрымаць за адзін грам 17 тысяч 895 рублёў. Але...

### ПЛАНЫ ТЫДНЯ

Колькі смецця ні вынось, яно не канчаецца. Але ж смецце — гэта не пустое месца. І відаць, гэта добра ведаюць у Наваполацку, дзе ў 2003 годзе пачне работу завод па перапрацоўцы смецця. Яго будаўніцтва будзе весціся за кошт крэдытных рэсурсаў. Толькі паводле папярэдніх разлікаў, штогадовы прыбытак ад дзейнасці смеццеперапрацоўчага завода будзе роўны 100 тысячам долараў. Так што смецце яшчэ нам паслужыць!

### ТАРЫФЫ ТЫДНЯ

Сучаснае жыццё цяжка ўявіць без тэлефоннай сувязі. І гэта не дзіўна, бо на вуліцы дваццаць першае стагоддзе. Аднак, як гаворыцца, хочаш жыць па-сучаснаму, то не шкадуй грошай. Як і трэба было чакаць, зноў падняліся тарыфы за карыстанне тэлефоннай сувяззю. Праўда, у сярэднім усяго на 5 працэнтаў. І цяпер абаненцкая плата за пераведзены на пагадзінную аплату тэлефон складае для насельніцтва 437 рублёў (692 рублі — для арганізацый), кошт адной хвіліны размовы — 2,14 рубля (3,24 рубля — для арганізацый). Той, хто захоча пазваніць у іншы горад у межах адной вобласці, заплаціць за адну хвіліну размовы 6 рублёў (6,8 рубля — для арганізацый), у межах краіны — 12 рублёў (13,6 рубля — для арганізацый). Не так ужо і дорага, але толькі для тых, хто ўмее коратка весці размову...

### ІНФАРМАЦЫЯ ТЫДНЯ

У друку з'явілася інфармацыя, што ў мінулую суботу вечарам на вуліцы моцна пабілі былога мастацкага кіраўніка тэатра "Вольная сцэна" Валерыя Мазынскага, які вяртаўся з лазні. Цяпер Мазынскі з сур'ёзнымі пашкоджаннямі ляжыць у хірургічным аддзяленні адной з мінскіх бальніц. Хто напаў на Мазынскага — невядома, але, па меркаванні самога пацярпелага, хутчэй за ўсё гэта былі не грабежнікі...

### МІЛАСЭРНАСЦЬ ТЫДНЯ

Ідучы па горадзе, мы звяртаем увагу не толькі на шыкоўныя іншамаркі, якія запоўнілі вуліцы і праспекты нашай сталіцы, але і на людзей, якіх прынята называць "бамжамі". Да іншамарак пацікy мы ўжо прывыклі, а вось да бяздомных прывыкнуць нельга, бо гэта нашы людзі, сярод якіх ёсць і былыя інтэлігенты. І каб як-небудзь дапамагчы "бамжам" у Мінску, па адрасе 1-ы Дражненскі завулак, д. 42, афіцыйна адкрыты дом начнога знаходжання асоб без пэўнага месца жыхарства. Словам, хай і "бамжы" спазнаюць свята ў час халоднае зімы...



ПАДЗЕІ

# Падзяка народа

## З ЮБІЛЕЙНАЙ ВЕЧАРЫНЫ Ў КУПАЛАЎСКІМ ТЭАТРЫ

Немагчыма было знайсці вольнага месца ў зале Нацыянальнага дзяржаўнага тэатра імя Купалы — столькі жадаючых было пабываць на ўрачыстым вечары з нагоды 80-годдзя народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна.

Вечарына пачалася ўрыўкам з відэафільма У. Цеслюка "Імгненні жыцця".

Слова пра Івана Шамякіна сказала в. а. старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава. З прывітальнымі прамовамі ў адрас юбіляра звярнуліся старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу В. Папоў, віцэ-прэм'ер М. Дзямчук, міністр культуры Л. Гуляка, старшыня Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта М. Паўлаў, старшыня Дзяржкамдруку М. Падгайны і іншыя. Сярод выступоўцаў былі пісьменнікі Алесь Савіцкі і Мікола Мятліцкі, народная артыстка Беларусі М. Захарэвіч, акадэмік А. Падлужны і іншыя.

Івану Шамякіну былі ўручаны ўзнагароды, граматы, падарункі і, вядома, прыгожыя букеты кветак.

**Н. К.**





Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь N 40

Аб узнагароджанні І. П. Шамякіна ордэнам Айчыны III ступені

За вялікі асабісты ўклад у развіццё беларускай мастацкай літаратуры, актыўную творчую і грамадскую дзейнасць узнагародзіць пісьменніка акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Героя Сацыялістычнай Працы Шамякіна Івана Пятровіча ордэнам Айчыны III ступені.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*26 студзеня 2001 г.*
*г. Мінск*

# Народнаму пісьменніку Беларусі, Герою Сацыялістычнай Працы, акадэміку ШАМЯКІНУ І. П.

Глыбокапаважаны Іван Пятровіч!

Прыміце самыя шчырыя і сардэчныя віншаванні з нагоды Вашага юбілею — 80-годдзя з дня нараджэння.

Я маю шчаслівую магчымасць выказаць Вам — прызнанаму майстру слова, класіку нацыянальнай літаратуры — сваю высокую павагу і ўдзячнасць за неацэнны ўклад у развіццё беларускай літаратуры і культуры.

Ваша славутая біяграфія — гэта Вашы высокамастацкія творы, якім уласцівы вострае адчуванне працэсаў грамадскага развіцця, сацыяльных і маральна-этычных праблем, паказ чалавека праз яго актыўную жыццёвую пазіцыю. Многія з іх звязаны з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны, удзельнікам якой Вы былі, пасляваеннай рэчаіснасці, сучасным жыццём.

Вас, шаноўны Іван Пятровіч, па праву называюць пісьменнікам сучаснай тэмы. Само жыццё падказвае Вам цікавыя задумкі, сюжэты, вобразы герояў. Яскравым сведчаннем гэтаму з'яўляюцца творы апошніх гадоў, дзе з болем, хваляваннем і трывогай перад чытачамі паўстаюць праблемы Чарнобыля, захавання агульначалавечых духоўных і маральных каштоўнасцей.

На працягу многіх гадоў Вы былі адным з кіраўнікоў Саюза беларускіх пісьменнікаў, плённа працавалі галоўным рэдактарам выдавецтва "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя", выбіраліся дэпутатам Вярхоўных Саветаў СССР і БССР.

Вы і сёння актыўна займаецеся творчай і грамадскай дзейнасцю, цесна звязаны з жыццём роднай Беларусі.

Вялікі дзякуй Вам, Іван Пятровіч, за школу жыцця, за Вашу мудрасць, увагу да маладых пісьменнікаў і літаратараў, за цвёрдую і паслядоўную грамадзянскую пазіцыю.

Жадаю Вам добрага здароўя, шчасця, дабрабыту і ўсяго самага найлепшага.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА**

*30 студзеня 2001 года.*

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь М. Дзямчук зацвердзіў план мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да 150-годдзя з дня нараджэння Янкі Лучыны, прапанаваны Саюзам беларускіх пісьменнікаў і Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Францыска Скарыны.

Згодна плану пройдзе ўрачысты вечар да 150-годдзя Я. Лучыны, навуковая канферэнцыя "Янка Лучына — прадвеснік Адраджэння", будзе прысвоена імя літаратара і асветніка адной з вуліц Мінска, устаноўлены надмагільны помнік на Кальварыйскіх могілках, выдадзена кніга даследаванняў, арганізаваны і праведзены 1 верасня 2001 года ўрокі, прысвечаныя Янку Лучыне і г. д.

●

Падведзены вынікі конкурсу на лепшае апавяданне, які не першы ўжо год ладзяць газета "Звязда" і Саюз беларускіх пісьменнікаў. Пераможцамі на гэты раз сталі Алесь Наварыч (1-ая прэмія), Адам Глёбус (2-я прэмія), Расціслаў Бензярук і Сяргей Грышкевіч (3-я прэмія). Акрамя традыцыйных грашовых прэмій, пераможца атрымае бясплатную пуцёўку ў Дом творчасці "Іслач".

У рэдакцыі газеты адбылася сустрэча лаўрэатаў з удзелам кіраўніцтва Саюза беларускіх пісьменнікаў.

●

50-годдзю Міхася Пазнякова быў прысвечаны чарговы ўрок у пісьменніцкай бібліятэцы, на які завіталі вучні 4-х класаў 4-й мінскай школы. Разам з Міхасём Пазняковым на сустрэчу з дзецьмі прыйшлі супрацоўнікі часопіса "Вожык", які ён цяпер узначальвае, паэты Леанід Пранчак і Уладзімір Мазго. Падчас сустрэчы Міхасю Пазнякову была ўручана Ганаровая грамата Саюза беларускіх пісьменнікаў. На сустрэчы гучалі вершы, казкі, загадкі пісьменніка. Пераможцы конкурсу загадак атрымалі прызы — кніжкі з аўтографам М. Пазнякова.

●

У вёсцы Карма Добрушскага раёна адбылася ўрачыстасці, прысвечаныя 80-годдзю народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна. Актыўны ўдзел у іх прынялі прадстаўнікі нашага творчага саюза. Сярод тых, хто казаў слова на радзіме слыннага майстра пяра, былі Навум Гальпяровіч, Уладзімір Глушакоў, Васіль Ткачоў, Ніна Шклярава і Таіса Мельчанка.

**Н. К.**

●

Ужо даўно стала нормай, што многія з тых, каго прымаюць сёння ў Саюз беларускіх пісьменнікаў, выхаванцы часопіса "Маладосць"... І яны не толькі аўтары першых апавяданняў і вершаваных падборак, надрукаваных на яго старонках. Яны — яшчэ і аўтары першых сваіх кніжак, выдадзеных у серыі "Бібліятэка часопіса "Маладосць". Кніжак, якія сведчаць і пра творчую сталасць маладых паэтаў і празаікаў, і пра высокі прафесіяналізм іх "настаўнікаў" — вядомых пісьменнікаў, супрацоўнікаў рэдакцыі гэтага слыннага літаратурнага выдання.

Менавіта разгляду мінулагодніх кніжак "Бібліятэкі часопіса "Маладосць" было прысвечана пашыранае пасяджэнне бюро секцыі прозы, на якім цікава і змястоўна расказаў аб руплівай, плённай працы калектыву часопіса па выхаванні маладых літаратараў галоўны рэдактар Генрых Далідовіч. Ён прыгадаў, у прыватнасці, як стваралася бібліятэка, закрануў надзённыя пытанні выпуску кніжак. Не сакрэт, што сёння не проста пераадольваць фінансавыя цяжкасці... І ўсё ж кніжкі выдаюцца, добрая традыцыя захоўваецца, і здольныя аўтары "Маладосці", як і раней, папаўняюць шэрагі Саюза беларускіх пісьменнікаў.

У абмеркаванні "Бібліятэкі часопіса "Маладосць" актыўны ўдзел прынялі і члены бюро секцыі, і супрацоўнікі рэдакцыі, пісьменнікі В. Праўдзін, М. Кенька, А. Масарэнка, П. Місько, Л. Леванові, Б. Пятровіч, А. Федарэнка, Я. Карукоў і іншыя, якія станоўча ацанілі выдадзеныя творы.

На чарговым пасяджэнні бюро секцыі прозы вырашана разгледзець творчасць пачаткоўцаў, у тым ліку і кніжку прозы Паўла Гаспадыніча, якая выйшла ў "Бібліятэцы часопіса "Маладосць".

**Я. ІВАНОЎ**



**ЧАСАПІС**

## *Юбілей "Парадокса"*

**Для тых, хто жыве ў Горках, ці працуе ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, 10-гадовы юбілей тэатральнай студыі "Парадокс" стаў зусім нечаканым.**

**Здавалася, зусім нядаўна мы бачылі студыйцаў на навагодніх святкаваннях, іншых шоу-прадстаўленнях, а зараз яны ўжо юбіляры. Закончылі акадэмію першыя акцёры, да якіх паспеў прывыкнуць гледач, на змену ім прыйшлі новыя, не менш таленавітыя хлопцы і дзяўчаты. І калектыў ад гэтага не страціў свайго творчага аблічча. "Парадокс" — сталы ўдзельнік, неаднаразовы пераможца і прызёр міжнародных, рэспубліканскіх і абласных фестываляў. Кожны новы спектакль — гэта тэатралізаванае свята, якое радуе.**

**У дзень творчай справаздачнай вечарыны, акцёры студыі Аксаны Крывянковай пацвердзілі, што яны невыпадкова атрымалі званне народнага калектыву. Запоўненая актавая зала Палаца культуры БДСГА з вялікім задавальненнем сустракала ўсе выхады акцёраў: ці былі гэта ўрыўкі з п'ес рэпертуару студыі, ці вясёлыя тэатральныя мініяцюры.**

**Кветкі прыхільнікаў і сяброў кіраўніку Аксане Крывянковай і лепшым студыйцам Лене Крыванос, Кастусю Семяненю, Мікалаю Міраповічу, Ірыне Семенчуковай і іншым — ці не лепшы падарунак за іх творчасць.**

**У справаздачнай вечарыне прынялі ўдзел і першыя студыйцы, ужо выпускнікі ВНУ, Віктар Нячысцік, Сяргей Турчанаў, Лена Гаўрыленя, Аляксей Бардадынаў, Вера Ліхашапка, Міла Баханава.**

**Намеснік старшыні Горацкага райвыканкама С. Ляшэнка павіншаваў юбіляраў са святам.**

**А. ПУГАЧ,**
**старшы выкладчык кафедры экановікі БДСГА, саліст народнага аматарскага калектыву**

## *"Пачынаецца ўсё з любві"*

**Літаратурна-паэтычнай кампазіцыяй "Паэзія пінскіх крыніц" вітальна расчыніла дзверы сваім наведвальнікам Пінская раённая бібліятэка імя Яўгеніі Янішчыц.**

**У чытальнай зале бібліятэкі студэнты Пінскага тэхнікума мясной і малочнай прамысловасці сустрэліся з паэтамі-землякамі Зіновіем Вагерам, Анатолем Шушко, Міколам Лаўровічам ды празаікам і журналістам Міхасём Самуйлікам, які,дарэчы, таксама прачытаў вершы, што былі напісаны ў субмарыне Паўночнага флоту ў 60-я, калі ён нёс матроскую службу падводнікам.**

**Аднак не толькі з імі! Сцэнарысткі-бібліятэкары (яны ж і выканаўцы) дарылі гасцям спатканні з вершамі паэтаў Піншчыны, якія і сягоння працягваюць радаваць сваімі творамі прыхільнікаў лірычнага слова. Чуйна ўслухоўваліся прысутныя ў радкі Наталлі Прыступы, Леаніда Крывецкага, Тамары Лазнюхі... А яшчэ чуйней — у спадчыннасць здзейсненага Алесем Бібіцкім ды Міколам Рогалем, якія заўчасна пакінулі гэты свет.**

**А над усімі лунала высокая душа "палескай ластаўкі" Яўгеніі Янішчыц, вочы ўглядаліся з партрэта.**

**Алесь ЯСЕЎ**

*г. Пінск*

## *Лікі Святых з дабрынёй і спагадай*

**З 23 студзеня па 5 лютага Палац культуры чыгуначнікаў Мінска ветліва расчыніў дзверы для унікальнай выставы народнага мастака Беларусі Тамары Багданавай.**

**Выставу арганізавалі супрацоўнікі палаца ў фае будынка, куды прыходзіць шмат людзей, каб падзівіцца незвычайнымі экспанатамі, якія нясуць у сабе духоўнасць, ачышчэнне.**

**На выставе Тамара Багданава прадставіла больш за 60 работ, прысвечаных тэме хрысціянства, выкананых аб'ёмнай вышыўкай, у якіх праз смугу стагоддзяў на нас глядзяць лікі Святых з дабрынёй і спагадай — "Айцец", "Сын", "Дух Святы", "Мінская Маці Божая", "Багародзіца", "Серафім Сароўскі", "Жыровіцкая Маці Божая", "Святая Магдаліна", "Архангел Міхаіл", "Казанская Маці Божая", "Бласлаўленне Ефрасінні", "Пачаеўская Маці Божая", "Мікола Цудатворца" і іншыя.**

Ларыса ІЎЛІЕВА



Ніл ГІЛЕВІЧ

# Культ маральных пачвараў

Грамадзяне Беларусі, якім каля 50-ці ад роду, натуральна, не могуць помніць атмасферу культу асобы Сталіна, якая добрую чвэрць веку панавала на бязмежных прасторах СССР. Ім было ўсяго па дваччатыры гады, калі ён памёр — "геніяльны стратэг рэвалюцыі", "вялікі правадыр працоўных свету", "бацька народаў", "карыфей усіх навук", "найвялікшы палкаводзец усіх часоў і эпох", "найвялікшы сябра ўсіх дзяцей" і г.д., і г.д., і г.д. Помніць не могуць, а ведаць павінны. Абавязаны ведаць! Як і ўсе людзі ў свеце. Дзеля таго, каб падобныя пачвары з'явы не паўтарыліся ў гісторыі зноў. Чым больш людзей будуць ведаць — тым больш будзе гарантый, што не паўторацца.

Пра культ Сталіна ў нас існуе агромністая, даступная рускамоўным чытачам, літаратура. Але Сталін не быў у тую культавую эпоху адзінокі. Яго сучаснікамі былі дучэ Мусаліні, фюрэр Гітлер, каўдзільё Франка, — кожны з якіх у сваёй дзяржаве быў не менш вялікі, геніяльны і ўсенародна любімы. Пра культ гэтых маральных пачвараў у нас ведаюць параўнаўча мала і ў самых агульных рысах. Прынамсі, у шырокіх масах народа.

Восенню 1993 года тагачасны прэзідэнт Балгарыі Жэлю Жэлеў, у час нашых сустрэч у Сафіі, падарыў мне на ўспамін дзве свае кнігі з мілымі маймy сэрцу аўтографамі. Адна з іх — прашумелая ў пачатку 80-х на цэлы свет манаграфія "Фашызм", за якую аўтар, доктар філасофскіх навук, прафесар, трапіў у сябе на радзіме ў доўгую і суровую няміласць. Кніга ж, адразу па выхадзе (1982), была забаронена, трэцюю, нераспраданую частку накладу ліквідавалі, бібліятэчныя экземпляры з кніжных паліц былі зняты. Спробы выдаць кнігу ў іншых сацыялістычных краінах (Венгрыя, Чэхаславакія, Польшча, Кітай) пацярпелі крах. У СССР аб яе выданні і гаворкі не магло быць. Па тых жа самых прычынах.

Менавіта гэту кнігу Жэлева я пачаў чытаць яшчэ па дарозе дадому. І пачаў, выпадкова, з сярэдзіны — з падраздзела "Аўтарытэт і культ". І быў надзвычай уражаны тым, наколькі супадалі вершаваныя панегірыкі нямецкіх паэтаў Гітлеру з опусамі гэтага ж жанру, прысвечанымі ў нас, у Савецкім Саюзе, Сталіну. Супадалі мэтай, пафасам, духам, але нямецкая культавая вершатворчасць у параўнанні з савецкай была ці не больш бяздарная.

***Мы ўсе носім у сэрцах твой вобраз,***
***усе мы ўздымаем цябе на плакатах!***
***Хайль Гітлер, з фюрэрам — па свабоду і хлеб!***

**Г. Анакер, 1933**

***Наша сэрца нямецкаму правадыру!***
***Для яго яно б'ецца ў радасці і ў муках!***
***Хай жыве Гітлер! Наша свабодная песня!***
***З Богам! Дайце Гітлеру ўсю магутнасць!***

**Л. Ігенау, 1933**

***Вядзі нас! У тваіх руках***
***Сягоння лёс мільёнаў!***

**Л. фон Шэнкендорф, 1933**

***Мы любім цябе правадыр, бо ты любіш Германію.***
***Мы змагаемся за цябе, бо ты змагаешся за Германію.***
***Мы паміраем за цябе, бо ты робіш Германію вялікай.***

**Г. Гардэр, 1936**

***У ім наша веліч: бо ён***
***не толькі наш правадыр і герой,***
***але і самы цвёрды і сціплы,***
***бо ў ім — карані нашага свету***
***і яго душа вызначае шлях зорам.***

**Б. фон Шырах, 1937**

***Ты, правадыр, ты для нас закон!***
***Мы жывём з тваім імем.***

**М. Вернер, 1940**

Такіх вершаў у перыядычным друку Германіі 30-х гадоў публікавалася незлічоная колькасць.

На культ фюрэра працавала і ўся журналістыка, і радыё, і дакументальнае кіно, і эстрада, і кнігавыданне, і мастацтва (асабліва графіка). І дзесяткі тысяч агітатараў, прапагандыстаў, лектараў. Яго кнігу-маніфест "Мая барацьба" паспелі за кароткі час выдаць агульным накладам у 6,5 мільёна паасобнікаў — з разлікам (такая ставілася задача), каб яна стала настольнай кнігай у кожнай нямецкай сям'і. Угодніцтва і падхалімства не знала граніц і межаў. Дзе толькі ні праяўляў ён — "па просьбе народа" — сваю волю, свой розум, свой геній! Арганізоўваецца свята "2000 гадоў нямецкай культуры" — галоўную ўрачыстасць адкрывае ён. Пускаецца ў эксплуатацыю першы аўтабан — стужку перарэзае ён. Закладваюцца асновы "Дома нямецкага мастацтва" — першы камень у падмурак кладзе ён. Усе нацыянальныя выставы, усе "тыдні кнігі" і іншыя вялікія культурныя мерапрыемствы — адкрывае ён. Г. Губер і А. Міллер у сваёй кнізе "Трэці рэйх" іранізуюць: "Ён разбіраўся ў сельскай гаспадарцы гэтак жа добра, як і ў тэхніцы, а ў мастацтве гэтак жа глыбока, як і ў караблебудаўніцтве".

Іранізаваць — не цяжка. Асабліва пасля таго, як трыумф людажэрца ганебна закончыўся абгарэлымі астанкамі ў двары рэйхсканцылярыі, як першы крывавы накат фашызму на культуру і цывілізацыю быў спынены і абрынуты ў бездань небыцця. Чаму я напісаў — першы? А таму, што ніхто не дае гарантый, што другога не будзе.Таму што чалавецтва, падобна, нічому не навучылася. Не засвоіла элементарны ўрок: там, дзе не ўсталяваны сапраўды дэмакратычны дзяржаўны лад, дзе няма поўнай галоснасці, поўнай для ўсіх свабоды слова, дзе суд і пракуратура не з'яўляюцца незалежнымі, дзе пануе прыхамаць і самадурства узурпатараў, — там можна чакаць якой хочаш гітлераўшчыны, сталіншчыны, палпотаўшчыны... Якой хочаш. Калі нават і не такой жахлівай, якая старэйшым людзям помніцца, — усё адно людажэрства, усё адно — кроў і смерць, пажары і разбурэнні. Вось пра што трэба думаць на парозе Новага веку і Новага тысячагоддзя.

ВЫСТАВЫ

# Замілаванне Бацькаўшчынай

У мастацкай галерэі "Золата" адкрылася персанальная выстава народнага мастака Беларусі, прафесара, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, "Чалавека XX стагоддзя" (ганаровае званне прысуджана Міжнародным Біяграфічным цэнтрам у Кембрыджы) Гаўрыіла Вашчанкі. На ёй прадстаўлены новыя творы мастака, у большасці напісаныя за мінулы год. Прыемна пераканацца, што для сапраўднага майстра нязначная велічыня залы не адбіваецца на якасці экспазіцыі і выбары твораў. Выстава запамінаецца, і найперш непрыхаваным замілаваннем беларушчынай. Гэтым прасякнуты кожны твор, замілаванне хаваецца за вядомымі пастацямі, за язычніцкімі камянямі, за знакамітымі помнікамі даўніны. Але пры гэтым карціны не ўспрымаюцца звыклымі краявідамі альбо гістарычнымі ілюстрацыямі, яны глыбейшыя.

Кожны твор Вашчанкі — знакавы, ён насычаны сімваламі беларускай мінуўшчыны. Буслы і старыя дрэвы, рэшткі помнікаў, крыжы не з'яўляюцца галоўнымі дзеючымі асобамі, але яны падкрэсліваюць сэнс. Нават сам колер яго карцін ("Крэва", "Попел купалаўскага вогнішча", "Маладзіковы час") глыбокі, цемнаваты, са сполахамі прыхаванай вогненнай яркасці, дапамагае ў асэнсаванні спрадвечнасці прыгажосці зямлі, якую ўжо колькі год апявае Гаўрыіл Вашчанка.



**Н. Ш.**

ІМПРЭЗЫ

# Сужэнства муз

Гэтая незвычайная імпрэза мела і адпаведную незвычайную падсветку, ці, па-вучонаму кажучы, прэамбулу. Зрэшты, мо гэта было простае супадзенне? Так ці інакш, а ўдзельнікі прэзентацыі новых кніг Людмілы Рублеўскай і Віктара Шніпа, якая адбылася 23 студзеня ў вядомай і ўжо, бадай што, прэстыжнай зале Чырвонага касцёла ў Мінску, спачатку папрысутнічалі на адкрыцці выставы пад назвай "Другая муза". Загадкавая назва? Як сказаць. Аўтаркі выставы — згаданая ўжо спадарыня Рублеўская, а таксама яе калежанкі па літаратурным цэху Людка Сільнова ды Марыя Вайцяшонак. Усе тры, аказваецца, яшчэ і служкі другой музы — апякункі выяўленчага мастацтва. Прысутныя з вялікай цікавасцю знаёміліся, здзіўляліся і захапляліся алейным жывапісам — першай, акварэлямі — другой і фотаімпрэсіямі — трэцяй. Гэтая нечаканая для многіх выстава яшчэ раз пацвердзіла, што талент, так званы Божы дар не бывае аднабокім і вузкім, што ён, пры жаданні і старанні яго носьбіта, здольны праяўляцца ў розных формах і відах. А галоўнае — выстава стварыла — прынамсі, паспрыяла стварэнню атмасферы даверу і шчырасці, якая адразу ж запанавала ў Дольнай зале, дзе ішла ўжо гаворка пра "чыстых", без уцёкаў у госці да другой музы, паэтаў Людмілу Рублеўскую і Віктара Шніпа, у якіх адначасова выйшлі ў бібліятэчцы часопіса "Калосьсе" новыя паэтычныя кніжкі. "Балаган" — назва зборніка вершаў спадарыні Людмілы, "Чырвоны ліхтар" — гэтак ахрысціў свой зборнік спадар Віктар. Вось яны, гэтыя кніжкі, і прэзентаваліся.

Вяла імпрэзу гаспадыня, хай будзе дазволена гэтак сказаць, Дольнай залы, кіраўнік Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зьніч" Галіна Дзягілева. Першым яна запрасіла на сцэну народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. Ніл Сымонавіч, праўда, менш за ўсё гаварыў пра новыя кніжкі гэтых двух, паядналых не толькі творчасцю, але і сямейнымі вузамі паэтаў. З прафесарскай грунтоўнасцю і паэтычнай узнёсласцю ён распрабаваў, і досыць паспяхова, "намаляваць" іх творчыя партрэты, вызначыць вытокі і характар іх паэзіі, абсягі і адметнасці таленту абодвух. Перш-наперш ён адзначыў высокі прафесіяналізм і універсальную шматграннасць творчасці Л. Рублеўскай, якая надзвычай цікава, адметна і важка сцвярджае сябе і ў паэзіі (інтэлектуальнай, выбраная ўскладнёнай, філасофскай), і ў прозе (не па-жаночы мудрай і заглыбленай, гістарычна-выверанай, іранічна-дасціпнай, іншасказальна-прытчавай), і ў крытыцы (дасведчанай, высокаэстэтычнай, прынцыповай), і ў драматургіі (таксама прафесійнай і дасканалай, выбудаванай паводле строгіх законаў мастацкасці). Гаворачы пра В. Шніпа, Н. Гілевіч адзначаў жыццёвы, надзвычай зямны вытоκ ягонай паэзіі, родны валожынскі грунт, які спеліць не важкі, умалотны колас, асабліва падкрэслівшы такую, на першы погляд не надта прыкметную асаблівасць паэтавай творчасці, як яе надзвычай выразную актуальнасць, нават злабадзённасць. У доказ гэтага Ніл Сымонавіч прачытаў некалькі вершаў В. Шніпа з яго ранейшых кніжак. Чаму не з "Чырвонага ліхтара"? Ды, напэўна, па той простай прычыне, што вершы, якія склалі акурат гэтую кніжку, усё ж не вельмі стасуюцца з Дольнаю залай, што месціцца ў святым месцы.

Цёплае слова пра Л. Рублеўскую, Л. Сільнову і М. Вайцяшонак — пісьменніц, жанчын-працаўніц і каханых — сказала Вольга Іпатава. З дасціпнай пародыяй-містыфікацыяй паводле Шніповай серыйнай "эпапеі пра сабаку і Гражадана" выступіў Анатоль Вярцінскі. Васёлы, поўны іроніі і палітычна-сацыяльна-сямейна-побытавага гумару "Гімн Сужэнскага Саюза" прачытаў Міхась Скобла. Сардэчна віталі сямейную пару паэтаў і віншавалі іх з выхадам кніжак Алесь Пісьмянкоў, Людка Сільнова і Навум Гальпяровіч.

І, вядома ж, выходзілі на сцэну самі віноўнікі ўрачыстасці — Людміла Рублеўская і Віктар Шніп, распавядалі пра сябе, чыталі вершы — ранейшыя і новыя. Аздобілі імпрэзу сваімі спевамі барды Эдуард Акулін, Кастусь Герашчанка, Віталь Чарняўскі і Ягор Касцюкоў.

**М. М.**

*“Што рабіць” — у бедных людзей была толькі чацвёртая частка каня, і таму часткі конскай сілы, якіх не хапае, яны павінны ўзяць на сябе”.*

**Глеб УСПЕНСКІ, 1888 г.**

*“Агромністая будучыня належыць трактару. Нарэшце знойдзены сродак апрацоўкі зямлі, які ў аграмаднай меры аблегчыць грамадскую апрацоўку і зробіць землеробчую працу агульнадаступнай”.*

**Пётр КРАПОТКІН, 1892 г.**

*“Калі б мы маглі даць заўтра сто тысяч першакласных трактароў, забяспечыць іх бензінам, забяспечыць іх машыністамі, то сярэдні селянін сказаў бы: “Я за камунію”.*

**Ленін, 1919 г.**

*“Пагалоўе коней у гаспадарках насельніцтва Беларусі складае сто адну тысячу галоў”.*

**Статыстычны зборнік, 2000 г.**

# Жыццё за каня

Анатоль СІЛЯНКОЎ

Чатыры вытрымкі з шырокавядомых прац — чатыры эпохі ў жыцці краіны. Чаго толькі ні пабачылі вяскоўцы за гэтыя гады і да чаго нарэшце прыйшлі сёння — у той самай апрацоўцы зямлі?

Больш за сто гадоў назад, уражаны лічбамі статыстыкі, згодна з якімі на аднаго селяніна прыходзілася толькі чвэрць каня, вядомы рускі пісьменнік Г. Успенскі паспрабаваў ажывіць статыстычныя дробы. Ён прайшоў услед за селянінам і сялянкай, што кіраваліся на сенакос разам з маленькай дачушкай на плячах, і паказаў, як нялёгка даецца ім звычайная сялянская праца без падмогі каня. А якія б уражанні выклікала ў яго наведанне сённяшняга вясковага падвор’я?

...Хата Ромы Высоцкай падступае проста да вясковай вуліцы. Адчыніш веснічкі і можаш адразу заходзіць у сенцы. Такой жа адкрытай, добразычлівай гаспадыняй была Рамуальда Іванаўна і ў другім доме, куды амаль штодня многія гады, аж пакуль яна не пайшла на адпачынак, прыводзілі вяскоўцы сваіх свавольнікаў-немаўлят. Заўсёды на людзях, заўсёды там, дзе ў некага бяда, непаладка, быў і гаспадар той хаты, слесар калгаснай фермы. Колькі выправіў паломак у розных апаратах і механізмах, якія толькі неверагодныя прыстасаванні ні прыдумваў і для кароўнікаў, і для свайго двара.

Затое і ў хаце іхняй уся мэбля — як у гарадской кватэры. У гаражы — легкавік, матацыкл. У хляве — каровы, свінні, куры. Багацейшы двор наўрад ці знойдзеш. Але ці шчаслівы?

Мы сядзім з гаспадыняй на лавачцы ля яе дома, і яна усхвалявана, адрывіста ўспамінае падзеі аднаго вясенняга ракавога дня, што крута памяняў усё яе жыццё:

— Якраз быў тыдзень пасля Вялікадня. А суседка гоніць кароў і крычыць: “Іванаўна! Калі твой паможа майму грузіць сянаж, дык тады забярэ каня. А то тут Пётра Лявонкаў хоча ўзяць...” А мы якраз збіраліся пад пару градак узараць кавалачак агарода. Пасадзіць буракі, моркву... Там у нас гара такая, ды яшчэ сухая вясна. Хацелася пасадзіць раней, пакуль зямля не высахла. Гэта было дзевятнаццатага красавіка, я добра памятую. Мой, знаеце, за тую прапанову — як за галінку ўхапіўся. Адразу на матацыкл і паляцеў... Ну, пагрузілі яны той сянаж. А там быў пляменнік Пётры. Ён паехаў і наказаў дзядзьку: Высоцкі забірае каня. Той з калом у руках прылятае туды...

— З калом у руках? — перапытваю я.

— Ну, ведаеце, я там не была... Людзі кажуць рознае... Ці стукнуў ён яго, ці за грудзі схапіў, ці штурхануў... А, можа, з расстройства так... Мой не дужа быў моцнага здароўя. Паваліўся на асфальт і ўсё...

— А хто вам сказаў?

— Адна суседка, у Мінску яна жыве. Прыбегла, кажа: “Ідзі на Бам, Казіку дрэнна!” — імем будоўлі веку вяскоўцы назвалі з пачатку яе будаўніцтва калгасную ферму. — Я паляцела туды... Там і хуткую выклікалі... А ён ужо нежывы...

— Няўжо гэтак пільна, — паварочваюся я да гаспадыні двара, — трэба быў той конь?

Жанчына засмучана схіляе галаву ўніз:

— Хай бы іх зусім не было, тых градак. Мы б не збяднелі. Яму трэба было кінуць каня, махнуць рукой на ўсё... Дык хто ж ведаў.... Ды ці нельга было дамовіцца? Палюдску... Мы ўзаралі б тут за гадзіну. Ну, паўтары. Гэта ж невялікі кавалачак агарода. І ён яшчэ паспеў бы за дзень узараць свой пляц... Дык не! Трэба ўсё насупор...

— Наогул жа, работнікам фермы, — удакладняю я, — у першую чаргу даюць каня?

— Так, канешне. Але, ведаеце, як у нас робіцца? Хто гарлаты ды нахабны, ён усё чыста апрацуе — і агарод, і дзялку ў полі. А табе ўжо... Цяжка і раней было ўзяць каня. Проста жах... Людзі сталі жорсткія, непамяркоўныя. Каб табе нашкодзіць... Адзін перад адным. Толькі мне трэба жыць. Разумееце? А мой жа быў спакойны, уважлівы да ўсіх. Не піў, не курыў, каб ён палаяўся з кім калі...

Вядома, жанчына, што так гвалтоўна пазбавілася мужа праз каня, магла ў сваіх ацэнках людзей нешта і перабольшыць. Але факты, пра якія яна гаварыла, былі відавочнымі для ўсіх у вёсцы.

— Раней мучылася з апрацоўкай агарода, — працягвала яна з болем і слязамі ў голасе, — а цяпер і зусім хоць крычы. Каня не дапросішся, аратага не знайсці. Дадуць каня — араць няма каму. Знойдзеш чалавека — не даюць каня. Ды за ўсё ж трэба плаціць, і не малыя грошы. А яшчэ сняданак, абед, вячэра. Як кажуць, з добрай чаркай і скваркай. Ужо думала: запушчу пад бур’ян. Але баюся: смяяцца людзі будуць. Хоць сілы ўжо няма. Проста не ведаю, як быць і што рабіць...

Праблема каня, апрацоўкі агарода вісіць гарбом у нашым куце над кожным вяскоўцам. Штогод вясной у вёсцы ўзгараецца сапраўдная ліхаманка. Складаецца спіс: кожны гаспадар наперад вызначае дзень, у які збіраецца садзіць бульбу, сеяць ячмень ці што іншае. Спрэчкі і лаянка непазбежныя — усе выбіраюць лепшыя тэрміны. А коней у брыгадзе толькі тры, на шэсць вёсак. Ёсць яшчэ гнедкі на дзвюх фермах, але тыя — толькі для сваіх, жывёлаводаў.

Калі ж надыходзіць гарачая пара, пачынаюцца палявыя работы, раніцай на канюшню лепш не заглядаць. Чаго там ні пачуеш! Спіс — адно, а жыццё — зусім іншае. Падышла чарга на каня, але — выпаў снег, узнялася навальніца, захварэў гаспадар... Нехта пралез без чаргі, нехта не паспеў за дзень адсеяцца. Заезджаных змардаваных коней рвуць на кавалкі.

Але найбольшыя трагедыі разыгрываюцца не на калгасніцкіх сотках. Поўны адчай і роспач пануюць на тых сядзібах, дзе людзі звязалі свой лёс з нейкім прадпрыемствам, установай. А такіх тут не менш паловы. “Вы прасіце каня там, дзе вы працавалі”, — звычайна адказвае на любыя просьбы калгасны брыгадзір. І людзі збіваюцца з ног у пошуках выйсця.

Я звычайна дамаўляюся з гаспадаром асабістага каня. Іх тут двох на ўсе вёскі, і ў кожнага свая чарга на ворыва: шмат сваякоў, добрых знаёмых, мне і блізка не падступіцца ў гарачую пару. Я прашу ўзараць агарод напрадвесні, да пачатку ўсеагульнай гарачкі. Праўда, бывае, як у апошні раз, што вясна налятае знянацку. Тады трэба пакруціцца. Гэта не кожны зразумее: на зыходзе красавік, у людзей каля хат зеленеюць усходы, а ў цябе на агародзе леташні быльнік, і ніякай надзеі на плуг.

Летась мне пашанцавала. Агарод мой невялікі, і знаёмы падвозчык кармоў з Грабёнаўшчыны Іван Пахом, як яго ўсе завуць, разам з сынам Сяргеем на фермаўскім кані выкраіў час у перапынку паміж галоўнымі заказамі, каб зрабіць і маю работу. Крыху пааруць, пойдуць вып’юць па паўкшлянкі гарэлкі. Я маўчу, нельга пакрыўдзіць сваіх дабрадзеяў.

Затое назаўтра даю волю сваім пачуццям. Ні адной баразны не было перавернутай — усе стаялі тырчком. І на кожным кроку агрэх, незасыпаны зямлёй гной. То з граблямі, то з рыдлёўкай у руках я тры дні папраўляла ворыва. Зразумела, увесь час памінаючы сваіх руплівцаў. Але тая лаянка была незласлівай. Душа мая спявала: будзе і на маім агародзе ўраджай!

Аднак не ўсім шчасціць на каня ў гарачую пару. Мае суседзі Захаравы нічога лепшага не знайшлі, як самім упрэгчыся ў плуг. Іх дзве сям’і ў адной хаце. Жывуць у горадзе, бацькоўскі агарод не запускаюць. Тры чалавекі спераду запрэжкі, самы старэйшы ззаду за плугам, адна жанчына ідзе ўслед, кідае ў баразну бульбу. Чым не ілюстрацыя да “Чвэрці каня” Глеба Успенскага? Хаця да такога не дайшоў нават дарэвалюцыйны пісьменнік. Як і да апісання смерці селяніна за каня.

Ды ці бачылі такое ў часы, калі быў вынайдзены конны плуг, а гэта адбылося, як сведчыць энцыклапедыя, у васемнаццатым стагоддзі. Памятаю, у дзяцінстве мой бацька любіў паўтараць дасціпны жарт: “Раней мы працавалі на пана, а цяпер — на сябе!” Вяскоўцы нявесела смяяліся, хоць тады было нейкае апраўданне гэтаму: вайна, разруха. Сёння людзей у запрэжцы можна ўбачыць і ў кадрах старой кінахронікі. А вось для сучасных сведкаў такія малюнкі здаюцца, пэўна, экзотыкай. Хаця — якая ж тут экзотыка?

Вось разлікі: **за апошнія дзесяць гадоў колькасць коней у калгасах і саўгасах скарацілася напалову.** У прыватнікаў іх цяпер сто адна тысяча, прыкладна столькі, колькі ў буйных гаспадарках. А жыве на вёсцы больш за тры мільёны чалавек. Трактарамі іх агароды, як правіла, не ўзорваюць. Як жа яны “ўходжваюцца”, гаворачы на мове маіх аднавяскоўцаў?

Прыбавім сюды агароднікаў і садоўнікаў, якіх таксама каля мільёна. У многіх участкі немаленькія — па дзесяць-пятнаццаць сотак. Пра іх долю рэгулярна напамінае радыёстанцыя “Маяк” словамі з рэкламнага роліка: “...А ўсе гэтыя дачныя кашмары!.. Мам! Болей не магу! Спіну ломіць!.. Гэта прынясі, тое нацягай. Няма калі нацешыцца прыродай...” Праўда, пра клопаты дачных аратых ніхто з чыноўнікаў чамусьці не ўспамінае. Відаць, для многіх усе гэтыя карлікавыя агародзікі здаюцца драбязой, не вартай ніякай увагі.

Але разгорнем статыстычны зборнік. Прадукцыі раслінаводства ў 1999 годзе было атрымана ўсімі сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі амаль на 58 мільярдаў рублёў па тагачасных цэнах, а гаспадаркамі насельніцтва (асабістыя падсобныя, калектыўныя сады і агароды, дачныя ўчасткі) — на 61 мільярд.

Яшчэ больш наглядныя дадзеныя па абласцях. Напрыклад, па Магілёўшчыне — тут даюцца разлікі па розных формах уласнасці. Дык вось, грамадзянам у вобласці выдзелена для гаспадарання 157 тысяч гектараў сенакосаў і 24,6 тысячы пашы — адпаведна палова працэнта і дзевяць сотых працэнта ад усёй плошчы. Сельскагаспадарчыя ж прадпрыемствы адхапілі сабе таго і другога 90 і 85 працэнтаў. Калі б глядзелі на тыя сялянскія надзелы касманаўты з неба, яны б іх, пэўна, і не прыкмецілі. Як не прыкмецілі прыватніцкіх гаспадарак статыстыкі з большасці абласцей, не памянуўшы іх у сваіх статзборніках.

Аднак паглядзім зблізку на вынікі працы грамадзян і прадпрыемстваў. На тых шматках зямлі ўтрымліваецца ледзь не палова ўсіх кароў і болей за дзве трэція свіней і птушак, а козы і авечкі амаль што ўсе, якія ёсць.

А калі прайсці па палях і агародах, карціна дапоўніцца яшчэ больш яркімі ўражаннямі. Валодаючы толькі 15 працэнтамі ворыва, прыватнікі вырошчваюць болей, чым калгасы і саўгасы: бульбы — у 12 разоў, гародніны — у 6, пладоў і ягад — у 9,5 раза. Толькі па збожжы і збожжабабовых яны ўступаюць першынство.

Аб чым гэта сведчыць? Гэта паказвае цану кіраўніцтва, якое не можа дастойна выкарыстаць тыя сродкі, што мае на руках — зямлю, тэхніку, перадавую тэхналогію, угнаенні, грошы.

Сказаць, што сяляне працуюць без дапамогі навукі, тэхнікі — значыць, нічога не сказаць. Чаму хлебаробы не маюць таго, чым яны карысталіся тысячы гадоў — рабочага каня? Ім жа забаранілі яго мець. Як сродак эксплуатацыі чужой працы. Але мала таго. Акрамя адкрытай забароны, селяніна паставілі ў такія ўмовы, што ён і сам не можа яго трымаць. На невялікім агародзіку не вырасціш ні аўса, ні травы для сваёй сіўкі. А калі хто і зможа яе пракарміць, то якую працу задасць ёй у сваёй карлікавай сядзібе? Узараць агарод, пару разоў паскародзіць, абагнаць бульбу — вось і ўсё. Каня можа трымаць сёння толькі той, хто будзе працаваць на ім і для сябе і па чужых заказах. А такіх гаспадароў мала.

Здзіўляешся: прынялі зямельны кодэкс, што дазваляе крыху распраміць плечы селяніну, дык і той не выконваецца: зямлі яму не дабаўляюць па-ранейшаму. У імя чаго?

Сялян прывязалі да маленькіх агародзікаў, прымусова перасялілі з хутароў, малых вёсак, загналі ў вялікія, без элементарных выгод — водаправода, ацяплення, асфальтаванай вуліцы. Прымушаюць працаваць у буйных гаспадарках, не выплачваючы нармальнай зарплаты. Але што самае дзіўнае і бязглуздае, — не даюць карыстацца сродкамі працы, акрамя як ручнымі — рыдлёўкай, віламі, матыкай. Ды і тыя зроблены па прынцыпе цяп-ляп, як для недарэкаў.

Нядаўна я пабываў у майстэрні мясцовага каваля Іосіфа Гіміка. Пакуль ішоў па бетанаванай дарожцы, не паспяваў пераскокваць поглядам з розных казачна аздобленых пабудоў — прасторнай хаты, летняй кухні, лазні, пуні, майстэрань. Я і з вуліцы не адзін раз дзівіўся: як гэта ўдаецца гаспадару трымаць усё ў такім парадку — і пабудовы прыгожыя, і пчальнік па суседстве з сядзібай, і багаты сад, і легкавая машына на двары, і матацыклы, і нават грузавік. А прайшоў па двары, завітаў у майстэрню — яшчэ болей прыбавілася павагі да гаспадара. Столькі тут розных станкоў, прыстасаванняў, электроннага абсталявання — ні ў кога столькі не бачыў.

Пакуль аглядалі гаспадарку, Іосіф Аляксандравіч расказваў пра сябе:

— Пасля вайны прыехаў з Польшчы. Тут ажаніўся, адбудаваў сядзібу. Працаваў механікам — у калгасе, у воінскай часці. На веласіпедзе ездзіў за дваццаць пяць кіламетраў...

З гаспадаром сядзібы мне даводзілася сустракацца ў мясцовай школе. Быў фестываль народных промыслаў, куды з’ехаліся кіраўнікі школ з усяго раёна, Іосіф Гімік дзяліўся вопытам. Многа чуў я пра яго і ад вяскоўцаў: лепей Юзіка, як яго ўсе завуць, ніхто не зробіць матыку.

— Так, заказаў шмат, — згаджаецца гаспадар. — Нават з дальніх вёсак прыходзяць...

— А чаму магазіннымі не карыстаюцца? — пытаю я.

— Мае ж лёгенькія! — бярэ ён у рукі трохзубку з новым чаранком. — І зручныя: чах-чах-чах! І пайшоў, пайшоў!

Я добра ведаў, як гэта — “пайшоў, пайшоў”. Побач з маім агародам не адзін год вырошчваліся калгасныя буракі — то цукровыя, то кармавыя. Летам там перабываюць усе навакольныя жанчыны: гараджанкі і сяльчанкі, старыя і малыя. Трава вырастае вышэй чалавека, а трэба зрабіць так, каб глiністае поле было як пух. У кожнай жанчыны—дзялка — некалькі радоў амаль на кіламетр. З раніцы яны сапраўды “чах-чах-чах” матыкамі, а пасля поўдня і поўзаюць па зямлі, і садзяцца, і кладуцца пластом. Пры такой працы многае залежыць ад прылады ў руках.

— Я раблю такія, якія хто хоча, — тлумачыў далей майстар. — Каму трох-, каму чатырохзубыя, каму зусім бяззубыя. Большыя, меншыя, цяжэйшыя, лягчэйшыя...

Ён асцярожна падзьмуў на сваю матычку, пагладзіў яе далонню, як дзіця ляльку. Я ўспомніў пра сваю калекцыю заржавелых матык — тая хутка зламалася, у той павывальваліся зубы, у тую лезе толькі тонкі чаранок... Для кожнай з іх рыхтаваўся праект, тэхнічнае заданне, якія абмяркоўваліся, узгадняліся...

Гаварыў майстар і пра іншыя свае клопаты — рамонт плугоў, барон, акучнікаў. У калгасе няма ніякага сельгасінвентару. Возьмеш каня, ідзі затым шукай па вёсцы тое, што табе трэба для працы. Хоць усё гэта некалі было тут. Мне сусед аднойчы расказваў са скрухай у голасе:

— Была ў мяне добрая спружыноўка. Траву выгрызала, як звер. Калі стваралі калгас, усё падчыстую забралі. І тую спружыноўку таксама. Кінулі яе на калгасным двары, яна там ляжыць, ржавее. І развальвацца ўжо пачала. Я пайшоў аднойчы, забраў яе, адрамантаваў. Цяпер усе ходзяць і просяць!

Другі сусед не можа нахваліцца сваім акучнікам:

— Я ў горадзе труб здабыў, там жа іх зварыў, атрымаўся такі лёгкі акучнік! Нават не чуваць, калі цягнеш па баразне...

У гарачую пару на акучнікі небывалы попыт. Летам іду я па Мікалаеўшчыне, апетай паэтам, гляджу, сядзяць двое за акучнікам на лавачцы, якраз насупраць пошты. Прысаджваюся побач.

— Добра папрацавалі сёння? — ківаю на акучнік са слядамі свежай раллі.

— Мы з самага досвітку на нагах... У такую спёку толькі з халадком і папрацуеш... — амаль адначасова адказваюць яны. Абодва аголеныя да пояса, з густым цёмным загарам на скуры. Прыўзняты настрой і вялізны сіняк пад вокам у маладзейшага сведчылі пра тое, што і аплату за працу яны ўжо атрымалі нядрэнную.

— А работы многа?

— Ну, ведаеце, з канём у агародзе не развернешся, — быццам апраўдваючыся, тлумачыць пажылы вясковец. — Людзі просяць, як не дапамагчы...

Няпэўны адказ сведчыў, што ім не хацелася раскрываць сакрэты свайго заробку, хоць было відавочна: працуюць яны па заказах. Стаў у баразну і пайшоў замест каня! Як тут не ўспомніць дзядзьку Якуба — так яго нярэдка называюць землякі. Шмат узнёслых радкоў прысвяціў ён зямлі, вяскоўцам, неабходнасці перамен. І, зазначаючы, што голымі рукамі зямлю не возьмеш, ён дае малюнак самага тупіковага становішча селяніна, пры якім той усклікае з адчаем:

*(Працяг на стар. 14—15)*

## "Гродзеншчына..."




**Шмат гавораць нам легенды і паданні, а многія з іх, як вядома, зместам звязаны з паходжаннем населеных пунктаў. У доктара філалагічных навук Аляксея Ненадаўца з'явілася жаданне сабраць іх разам, каб выдаць асобнымі кнігамі, прадставіўшы тым самым кожную вобласць. Так узнікла задума серыі "Мой родны кут". Паразуменне А. Ненадавец знайшоў з выдавецтвам "Беларусь", у якім у 1995 годзе і выйшла першая кніга, што называлася "Брэстчына ў легендах і паданнях". Затым была другая — "Міншчына..." "Гродзеншчына ў легендах і паданнях" — трэцяя ў згаданай бібліятэчцы. Атрымалася яна даволі аб'ёмнай ды і па колькасці назваў прадстаўнічая: можна даведацца пра паходжанне 105 населеных пунктаў Гродзенскай вобласці. А першым стаіць паданне, у якім тлумачыцца, адкуль пайшла назва Гродна.**

**Не сказаць, каб гэтае паданне вельмі арыгінальнае па змесце, але яно цікавае тым, што дае мажлівасць адчуць, як мяркуе сам народ (паданні і легенды сабраны і апрацаваны А. Ненадаўцом). У мясцінах, дзе стаіць сёння гэты абласны цэнтр, даўным даўно, калі яны былі яшчэ амаль не абжыты, з'явілася дружына. Новая мясцовасць ёй спадабалася, таму вырашылі пастулова абжываць яе: "Сталі будаваць сабе хаціны ды гаспадарчыя будыніны, а вакол, па старадаўнім вайсковым звычаі, абнеслі невялічкае пакуль што паселішча высачэзным дубовым частаколам. Калі ў каго пыталіся ў тых мясцінах, куды ён ідзе, ці адкуль вяртаецца, то звычайна казалі — "з гарадні". Пазней стаў там горад, які так і называлі — Гародня, а пазней у Гродна перайначылі".**

**У Ваўкавыска — свая гісторыя. І ў адрозненне ад гэтай — драматычная: "Даўно, за сівымі стагоддзямі ўсё гэта адбывалася. На месцы сённяшняга горада шумелі адвечныя лясы ды балоты непралазныя раскінуліся. Баяліся людзі нават заязджаць у гэты край, бо мала хто мог потым дарогу дамоў знайсці. Нядобрыя чуткі несліся па белым свеце пра гэтую зямлю. Вельмі нядобрыя. Колькі жахлівых гісторый распавядалі пра тое, што нібыта на ёй адбывалася". Лютавалі ў тамашніх мясцінах разбойнікі ды і розная нечысць вялася: "ваўкалакі-пярэваратні, крумкачы, лешакі і чэрці". Аднак асабліва дурная слава пайшла пасля таго, як разбойнікаў "аб'яднаў грозны і крыважэрны атаман Волак". Каманда ў яго падабралася гэткая ж. Асабліва вылучаўся нейкі Вісек, якога неўзабаве атаман зрабіў сваім намеснікам. Невядома, колькі б здзекаваліся яшчэ з мясцовага насельніцтва нелюдзі, калі б банду не разграміў "адважны і магутны князь Забейка". Тых, хто застаўся ў жывых, загадаў павесіць на дубе, а пасля пахаваць і ўзваліць на магілу агромністы камень: "Людзі сцвярджаюць, што з таго дня стрэлы Перуна ніколі не мінаюць гэты дуб і камень — не можа нябесны валадар нават мёртвым разбойнікам даравань іхнія страшныя зямныя грахі. Князь Забейка на месцы былога жылля рабаўнікоў пасадзіў жыць сваіх старых ужо дружыннікаў, даў ім зямлю, дазволіў займацца пчалярствам і рыбнай лоўляй... Паселішча новае, каб людзі болей не баяліся прыязджаць сюды, назвалі Волакавіскам, а з цягам часа назва змянілася і месца стала называцца Ваўкавыскам".**

**Гісторыя ж пра ўзнікненне горада Ліды — напачатку рамантычная, але таксама з трагічным завяршэннем. Сціплая дзяўчына Лідзея пакахала юнака, але і падумаць не магла, што "хлопец гэты ніякі не хлопец, а пераўвасоблены нячысцік". Ад знаёмай бабулі даведалася Лідзея, як пазбавіцца гэтага нячысціка. І папярэдзіла, што "ні ў якім разе нельга спачуваць, бо канаць ён будзе ў чалавечым абліччы. Нельга рэагаваць на ягоныя крыкі і стогны, плач ды слёзы, бо калі ў душы з'явіцца жаль да яго, то гэтая вадзіца (якой трэба апырскаць яго жытло. — М. Г.) пачне дзейнічаць і на цябе". Ды не атрымалася так у Лідзеі, як раіла бабулька, таму і патанула ў палонцы: "Калі вясной лёд узламаўся і збеглі раўчукі, то і рэчка тая абудзілася, але цяпер яе людзі звалі... Лідзеяй... Праўда, некаторыя клікалі больш ласкава — Лідзейка, таму і паселішча на высокім беразе назвалі Ліда".**

**Іншыя гісторыі таксама па-свойму цікавыя. Яны сведчаць, наколькі багатая фантазія ў народа, як ён імкнецца ўсяму даць сваё вытлумачэнне.**

**Міхась ГЕНЬКА**

КРЫТЫКА

# Нязводнасць любасці

## ЛІРЫКА КАХАННЯ НІНЫ МАЦЯШ

Лірыка кахання... Такая розная і такая падобная. Розная па характары паэтычнага самараскрыцця, па вобразна-выяўленчых сродках, па шляхах развіцця сюжэтнай лініі і г. д. А падобная жаданнем спасцігнуць ва ўсёй паўнаце і глыбіні пачуццё кахання, і гэтае жаданне кладзецца ва ўток стварэння характару лірычных герояў і гераінь любоўнай лірыкі. Сваёй дарогай прайшла праз церні да святла любові і гераіня Ніны Мацяш. У яе свая праўда жыцця і кахання, якая паўстае на старонках зборніка выбраных твораў "Паміж усмешкай і слязой. Вершы і паэмы (1962—1992)".

*Была такая буйная вясна!*
*А я жыла, жыла — не разумела,*
*Нашто мяне абдорвала яна*
*Цнатлівай чысцінёй чаромхі белай,*
*Яе агрузлых, хмельных кутасоў*
*Таемнай, ледзь улоўнаю гаркотай...*

Вясна ўскалыхвае ў душы не вядомыя раней і яшчэ не зразумелыя да канца пачуцці. Пачынае прабівацца праз друз мітусні і паўсядзённасці расточак пяшчоты і спагады да ўсяго жывога — гэтага патрабуе ўсхваляваная душэўная настроенасць на прыняцце кахання. Менавіта вясной і слых, і зрок абвострана-крытычна ўбіраюць у сябе красу прыроднага абуджэння, а затым і яго "буйства", як сказала Н. Мацяш. А таму прырода нібы вядзе гераіню Н. Мацяш за сабой, расхінаючы перад ёю свае таямніцы, напаўняе яе сэрца асалодай. Толькі вясной даецца магчымасць зліцца яе душэўнай акрыленасці з ажыўшым пасля зімовага сну наваколлем. Душа жанчыны, разбуджаная вясновым прыродным росквітам, трымціць у чаканні кахання. І яно прыходзіць у лёс гераіні Н. Мацяш з прыветнай усмешкай каханага:

*Хачу яе, нібы песні,*
*Не петай яшчэ ніколі,*
*Каб верыць заўжды ў прадвесне...*

Прырода выклікала і абвастрыла эмоцыі закаханай жанчыны, і толькі ў такім узбуджана-натхнёным стане ёй адкрылася непараўнаная ні з чым квяцістасць свету, а ўсмешка любага чалавека напоўніла пярэстасць наваколля сэнсам. Усё наўкол загаманіла, зайграла, зазіхацела ўсімі колерамі ў непаўторнай мазаіцы, якую нарадзіла каханне. Толькі каханню дадзена магчымасць ажыўляць, адушаўляць і ўзнімаць — да такой непарушнай высновы прыводзіць нас Н. Мацяш.

*О сэрца, ты такое рызыкоўнае:*
*У студзені адліга — не прадвесне.*
*Табе ж хапае промня выпадковага,*
*Каб ашукацца*
*І каб уваскрэснуць.*

"Выпадковы промень" у жыцці жанчыны — гэта тая ж усмешка каханага, яго цёплае слоўца, ласкавы пагляд, душэўная падтрымка. Здавалася б, так мала трэба, каб адчуць сябе шчаслівай, і так многа. Дабрыня, пяшчота, спагада становяцца не проста крытэрыямі сэнсу чалавечага быцця, не толькі арыенцірамі жыццёвага самаздзяйснення гераіні Н. Мацяш, яны патрэбны сёння і ў гэтае імгненне для таго, каб жыць і адчуваць сябе шчаслівай, яны неабходныя складаемыя думак і ўчынкаў асобы. А таму без дабрыні, без самаахвяравання каханне не самадастатковае. А ахвяруе гераіня многім, і ў першую чаргу днямі, гадамі адзіноты: "Толькі ледзь не кожны дзень, што згас Зноў без вас — напалавіну страчаны..."

Аднак гэтая ахвяра апраўдваецца верай — верай у каханага і ў сябе ў першую чаргу. Адзінота выклікае падвоеную ўпэўненасць ва ўласнай трывучасці і вытрымцы, якія сілкуюць і каханне, хай сабе і на адлегласці. Калі цябе кахаюць — значыць вераць у тваю сутнасць і гэтым нібы пранікаюць у стыхію твайго існавання. Вера каханага адчыняе замкі недаверу і адчужанасці, дае сілы пераадолець трывогі і прайсці праз аднастайнае, шэрае і нецікавае ў нашым жыцці. А таму і ў нечым дэкларатыўная фраза, за якой усё тая ж вера, "І пакуль Вы ёсць, Мой шлях адзін, мой шлях — наперад..." успрымаецца неабходным кампанентам сапраўднага кахання, пабудаванага на ўзаемадапамозе і ўзаемападтрымцы. Аднак шчасце гераіні Н. Мацяш не бязвоблачнае і яснае. І жыццёвыя шляхі каханых ткуцца з двух розныя утокаў, ніты на гэтых палотнах зрэдку пераплятаюцца, ствараючы пэўную блытаніну і непрадказальныя ўзоры, з-за якіх і мае сэнс гэтае перавітае дарогамі расстанняў пякельнае і адраджаючае каханне. Хаця жыццё заўсёды ўносіць свае карэктывы ў адносіны, незалежна ад мараў закаханых, расстаўляе свае акцэнты.

*На незалежнасць я не пасягаю.*
*Мне б толькі твае вочы прысягалі,*
*А будзь такі, як ёсць. Ты толькі будзь!*

У гэтых словах гучаць жаночая годнасць і роспач, вера ў свае сілы і ў той жа час залежнасць ад волі каханага, ад глыбіні яго пачуцця. І калі жанчына заяўляе: "На незалежнасць я не пасягаю...", яна нібыта супярэчыць сама сабе, бо духоўнае, душэўнае паяднанне двух людзей знішчаецца, як толькі пачынаецца непатрэбнае высвятленне прыярытэтаў і іх расстаноўка ў адносінах. А таму падобная праблема, якая ўклалася ў адну фразу, магла ўзнікнуць толькі ад няпэўнасці, недагаворанасці ў стасунках дваіх, яна як паверхневае выкладванне глыбокай душэўнай траўмы, ці нават, можна сказаць, комплексу жанчыны. А словы з верша "Зусім не жарт":

*Абяцаю пакору сваю, абяцаю —*
*Покуль воля твая*
*будзе*
*з воляй маёй*
*супадаць!*

успрымаюцца не толькі як іронія ці забава гераіні Н. Мацяш, аб чым гаворыць і назва твора, а хутчэй як праяўленне ўсё той жа гульні ў ролі. Ідзе нябачная, неўсвядомленая барацьба за ўладу над каханым, і калі гэтая ўлада не адчуваецца, узнікае жаданне замацаваць яе хаця б у славесным выяўленні сваёй волі, што і робіць Н. Мацяш. Аднак падобныя трэшчынкі ў развіцці адносін не спрыялі аб'яднанню дваіх. А таму рэальная ацэнка іх адносін, зробленая гераіняй, дазваляе вызначыцца пэўна: "Маркота з усіх маркот: Не любіш". Яго нелюбоў не ўспрымаецца беспрасветнай трагедыяй, бо першапачаткова за пабудовай адносін стаяла гэтае не- (у якасці непаўнаты) і прадвызначала характар іх развіцця. Не можа каханне-сяброўства, што ўзнікла ў большай ступені на паразуменні і ўзаемапавазе, стаць паўнавартасным без страсці. Гераіня прызнаецца: "З адным не прымірыцца мне: Што я кахаю Вас, Вы — не..." і ў гэтым прызнанні рэальнае ўсведамленне горкай праўды ўзаемаадносін. Аднак, магчыма, такі цвярозы погляд на падзеі ўласнага жыцця ў нечым таксама заканамерны, і свядома, і падсвядома жанчына ўспрымала гэтыя адносіны як дар і волю лёсу, а таму і кахане яе вырасла з удзячнасці чалавеку за прыняцце яе такой, якая ёсць. Як гаварыла гераіня Н. Мацяш з іншай нагоды, "Не рабіце мне скідак, Паверце ў мяне..." — а ў яе паверылі і больш таго — пакахалі. Але гэтае каханне-ўдзячнасць не магло стаць сапраўднай мелодыяй кахаючага сэрца. Больш прыдуманае, чым рэальнае, яно часцей раніла і мучыла і без таго збалелую душу жанчыны. А таму і просьба яе як замова ў першую чаргу самой сабе не прымаць словы падтрымкі як словы любові:

*Не гавары са мной неасцярожна,*
*Пяшчотай выпадковаю не рань.*
*...На недавер мне сіл яшчэ стае.*

З'яўляецца "недавер" да сябе, да сваёй падатлівай жаночай натуры і ўвесь час няструмнага, няроўна б'ючага ў грудзях сэрца. Жанчына жыве ў чаканні цуду, верыць у прыход у яе жыццё сапраўднага ўсеахопнага пачуцця, і "знае, сведчыць, помніць", што шчаслівай можна стаць — толькі "трэба ласцы й шчырасці няўтомна, Безаглядна й годна — на дваіх" будаваць гэтае шчасце. І тады ўсе ранейшыя "сумаванні аб пякельным поўдні", што выступае прататыпам казачнай краіны, у якой спазналі бы паяднанасць "тваё каханне і натхнёнасць мая", а таксама мары аб сустрэчы недзе там, "калі нас ужо не будзе", застануцца толькі далёкімі дзявочымі летуценнямі і абстрактнымі развагамі, якія не маюць права ўваходзіць у новае жыццё жанчыны, дзе ўладарыць цяпер каханне. І цяжка сказаць, ці ранейшыя пачуцці нашых герояў прайшлі трансфармацыю і на новым вітку адносін перараслі ў большае, чым сяброўства, ці гераіня пачала ўспрымаць наяўнае ў іншым свеце, аднак скачок у другую пачуццёва-эмацыянальную рэальнасць адбыўся:

*А прыйдзеш ты,*
*Запознены, здарожаны,*
*Шапне крывінка кожная:*
*"Харошы мой!.."*
*Пратрубіць безагляднасць раскавана!*
*Як мне прывыкнуць да сябе —*
*Каханай?*

Калі чытаеш радкі гэтага верша, адчуваеш, наколькі перамянілася гераіня Н. Мацяш, можна сказаць крыху інакш — наколькі перамяніла яе каханне. У яе пачуццях з'явілася "безагляднасць", "раскаванасць", а гэта і ёсць "адгалінаванні" страсці. Яна (страсць) кіруе цяпер і ласкавай, пяшчотнай інтанацыяй голасу паэткі. У радасці ўзаемнасці, прасякнутай салодкім дурманам, раскрылася яна сапраўдная, жывая і чулая. І раскрылася нечакана для самой жанчыны квяцістае багацце эмоцый, якімі яна можа шчодра адарыць любімага. Адчуванне сябе каханай падарыла гераіні і шчасце, і разгубленасць. Новая хваля неспазнаных раней пачуццяў і перажыванняў уварвалася ў жыццё, зрабіўшы яго цэласным, паўнавартасным. Прачнуліся ў жанчыне яе загадкавасць, прыцягальнасць, абаяльнасць, якія доўга чакалі свайго абудзіцеля. Толькі праз узаемнасць давялося даведацца пра "прадонне шчасця", пра яго непамерныя глыбіні.

*Раскоша самаго ўзнясення*
*Не дасць упасці.*
*Я толькі праз яго спазнала*
*Прадонне шчасця.*

У дадзеных радках слова "раскоша" нібы гаворыць аб незлічоных радасцях кахаючага сэрца, аб пазнанні жанчынай самых недасягальных вышынь у эмоцыях і пачуццях. І адтуль, з птушынага палёту яе шчаслівая любоў аберагае, песціць і мілуе непарыўную повязь двух сэрцаў, імя якой неразлучнасць: "Але ж і ў радасці, і ў скрусе Наяве зліты мы і ў мроі. Два целы возьме смерць, а мусіць здаволіцца душой адною..." Рэдкі дар выпаў на долю гераіні Н. Мацяш — пазнаць ва ўсёй паўнаце і глыбіні паяднанне душ, зліццё духоўнае, "калі ў жыццё маё так уварваўся — Не памяццю — маёй крывёю стаў". Навошта шукаць словы, злаваць і апраўдвацца, псаваць гэтым адзін аднаму жыццё, калі яны — "дзве істоты з адзіным сэрцам і кругазваротам", а таму і думкі, і адчуванні ў іх аднолькавыя. Гераіня Н. Мацяш свята верыць у выбранасць і бязгрэшнасць іх саюзу прад Богам і людзьмі. "Ці б нашы адзіноты нас звялі, Каб мы несумяшчальныя былі?" — задае пытанні, нібы сцверджанне паэтэса. Іх дзве душы абвенчаны часам, прасторай, вечнасцю. Прамовіўшы "гэтае вечнае слова: "Кахаю", двое людзей сталі роўнымі перад радасцямі і бедамі, перад шчасцем і няшчасцем. Адна доля паяднала іх у сусвеце.

Аднак часам і гэтая непарушная ўпэўненасць разбаўляецца хвілінамі непакою і турбот:

*Як б'ецца сэрца, родны мой!..*
*Ці хопіць нашага святла,*
*Каб і на сцежцы незямной*
*Нам стрэча дадзена была?*

Няведанне, журба з'яўляюцца ад жыццёвай мудрасці і пražжытых гадоў. Яны, аднак, не супрацьстаяць папярэдняй усхваляванай веры і не супярэчаць "нязводнасці любасці" ў адносінах каханых. Наадварот, жанчына стала больш ахоўнай, беражлівай, прасветлена-мяккай у пачуццях. І тое святло, якое яны разам запалілі на алтары кахання, цяпер хочацца пранесці не толькі праз гады, а захаваць для вечнасці. Вір страсці і пачуццёвасці, які зачараваў і зацягнуў у свае глыбіні, адыходзіць у былое. Саступае месца пяшчоце, лагоднасці, празрыстасці адносін, калі "мы, нібы два пялёстачкі, тонем У галавакружна расчыненых сонечных тонях..." Нездарма паэтэса звяртаецца да вобраза вішнёвага саду па вясне: "бялюсенькі цвет вішнёвы" абвейвае сэрца цеплынёй, ласкавасцю, ахінае мяккасцю і чысцінёю, нараджаючы ў душы і ў думках крыштальную атма-

Святлана КАЛЯДКА

сферу, праз якую правяраецца шчырасць адносін, моц і трываласць кахання. Жанчына раствараецца ў "вянчальнай плыні", успрымаючы пры гэтым вельмі ясна ўсю рэальнасць адбытага з імі. Што характэрна для гераіні Н. Мацяш — тонкае адчуванне мяжы паміж наяўным і ўяўным, паміж жаданым і рэчаісным. Хутчэй адсутнасць любові можа нарадзіць неадэкватна-балючую рэакцыю на розныя з'явы і падзеі яе жыцця, а не яе прысутнасць.

*Укрый мяне, любоў мая,*
*Хоць позіркам замілаваным,*
*Каб, зноў табой паратаваная,*
*Жыццё як ёсць прымала я.*

Як ні парадаксальна, але каханне вяртае жанчыну да самой сябе існай, сапраўднай, непадманутай: "Той час, які прасякнуты табою... — Адно ў той час бываю я жывою..." Здавалася б, закаханаму сэрцу лёгка стварыць фантазійны працяг іх незямной любові. А мы бачым, што гераіня Н. Мацяш каля любімага "супакойваецца і чысцее. Ты са мной, і не горкі мне дзень..." Каханне дорыць ураўнаважаную гармонію паміж думкамі і паводзінамі. А ўсведамленне сваёй неабходнасці нараджае светла-шчымлівую веру ў ахоўную сілу лёсу:

*Не ты мяне любіш —*
*Жыццё мяне любіць,*
*Тваёю істотай вітае — галубіць...*

Часам сваё каханне гераіня ўспрымае цудоўнай казкай, якой хутка наблізіцца фінал, і яна зноў апынецца перад рэальнасцю. А таму як малітву, у якой кожнае слова — крык абнадзеенай душы, усплёск самых таемных жаданняў, вымаўляе жанчына сваю просьбу:

*О, толькі не пакінь, не адступіся!*
*Пазнай мяне, прызнай, не абміні!*
*Не адвярніся!..*
*Больш з такім маленнем*
*Ужо няма мне да каго ісці.*

Колькі веры і пакуты, агню і трывогі, парыву і роспачы, а галоўнае — балючай сардэчнай праўды ў словах звароту да любімага чалавека. Ты — "усё на свеце: І кліч жыцця, І прага смерці..." у Ім зліліся полюсы быцця, супрацьлегласці і супярэчнасці існавання. Ён стаў "і долам, і высямі", увабраўшы ў сваёй асобе сугучча сапраўдных мужчынскіх якасцей, увасабляючы сабой ідэал мужчынскага характару. А таму і сябе гераіня Н. Мацяш імкнецца "падцягнуць" да гэтага ідэалу, перажывае — "табе я стала неабходнай, А ці зраблюся дастатковай?.." і клопат яе зразумелы. Быць роўнай абранаму мужчыне ў першую чаргу духоўна, застаючыся пры гэтым і слабой, безабароннай, і моцнай, трывучай, — нялёгкая справа. Адстойваць кожнае імгненне свайго існавання права на шчасце — яно ж не даецца аднойчы і назаўсёды. Пераадольваць жыццёвыя выпрабаванні і верыць у працяг радасных хвілін сустрэч.

*А ўсё суджанае збудзецца*
*І само,*
*хоць задавіся!*

Ва ўжытым паэтэсай у вершы "Само" слове з размоўнай лексікі свой сэнс: гэтым Н. Мацяш сцвярджае непазбежнасць у лёсе чалавека "суджанага", залежнасць жыцця асобы ад распалажэння зорачак на небе, і чалавек бяссільны што-небудзь змяніць. У гэтым "задавіся" ўвасоблена немач асобы і ўвогуле бессэнсоўнасць існага. Жыццё вяртаецца на кругі свае, і лёсам дадзена гераіні яшчэ не раз да глыбіні адчаю спасцігнуць адзіноту: "Я адна, я ўсё роўна адна, Хоць і ёсць ты ў мяне, мой абраны...". Адкуль у шчаслівай жанчыны такія змрочныя настроі? Відаць, усё ад той самай душэўнай нестабільнасці, эмацыянальных спадаў, пачуццёвага максімалізму.

*На жаль, Мацяш, нямаш, нямаш*
*на Любага надзей.*
*Ляці сама праз беды ўсцяж,*
*хоць Ён прыехаў зноў!*

Гэтым вершам завяршаецца зборнік "Паміж усмешкай і слязой", ці выпадкова? Не. І ў гэтым бачыцца пэўная асуджанасць жанчыны на шчасце, разбаўленае адзінотай: аддаючы ўсю сябе, атрымліваць рэдкія моманты паяднання. Яе жаночая натура ўсё ж падпарадкуецца мужчынскай волі і характару, і ў гэтым ёй бачыцца выратаванне душы ад хаосу і беспрасвету. У такім падпарадкаванні жанчына імкнецца адчуць павагу, падтрымку і каханне. Бо калі беды становяцца справай толькі аднаго боку — рвуцца ніты лучнасці і ўзаемаразумення, тады і залежнасць аднаго ад другога страчвае свой высокі сэнс. Застаюцца адносіны, губляючы самую галоўную сваю сутнасць — узаемнасць. Хочацца верыць, што падобная жорсткая доля абыдзе гераіню Ніны Мацяш і яе страх ("нямаш на любага надзей") застанецца прыдумкай дрэннага настрою. А шчасце не вычарпнецца пражытым і перарасце ў іншую сваю якасць і прызначэнне.

ВІНШУЕМ!

# Працягваючы справу бацькі

## Валянціне КУЛЯШОВАЙ — 65

Ужо тое, што Валянціна Куляшова — дачка народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова, шмат гаворыць. Але адначасова да многага і абавязвае. І тут смела можна сказаць, што Валянціна Аркадзьеўна годна працягвае справу бацькі. Скончыўшы філалагічны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта імя М. В. Ламаносава, яна працавала ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, у Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР. Жывучы ў Балгарыі, была настаўніцай, вучылася ў аспірантуры Сафійскага універсітэта імя К. Охрыдскага, была рэдактарам-перакладчыкам на Балгарскім радыё. Вярнуўшыся на радзіму ў 1967 годзе, з'яўлялася выкладчыкам кафедры рускай мовы Беларускага дзяржаўнага універсітэта, старшым рэдактарам на Беларускім тэлебачанні, загадчыкам творчага аддзела Рэспубліканскага Дома работнікаў мастацтва.

Літаратурнай працай займаецца з 1967 года. Перакладае з балгарскай, польскай на рускую і беларускую мовы, а таксама з беларускай на рускую. У 1983 годзе часопіс "Нёман" апублікаваў у яе перакладзе раман П. Вежынава "Весы". Пераклала на беларускую мову асобныя творы Х. Васілева, Я. Конюша, А. Сятэцкага, на рускую — Х. Дэбрэцінава, Г. Алексіева, Х. Васілева. Шырокую вядомасць атрымала літаратуразнаўчая аповесць-эсэ В. Куляшовай пра бацьку "Лясному рэху праўду раскажу..." (1989) Валянціна Аркадзьеўна — аўтар сцэнарыя дакументальнага фільма пра А. Куляшова "Край крынічны" (1972). Склала "Анталогію беларускага апавядання", што выйшла ў Балгарыі ў 1968 годзе, фотаальбом "Аркадзь Куляшоў" (1985), кнігу "Маналог" А. Куляшова (1989), Збор



твораў А. Куляшова ў двух тамах (Масква, 1989).

З 65-годдзем Вас, дарагая Валянціна Аркадзьеўна! Новых вам жыццёвых і творчых поспехаў!

УРАЖАННЕ

# Ад зоркі да зоркі

Маладзейшыя чытачы, бадай, і не ведаюць, што яшчэ гадоў дзесяць таму, каб надрукавацца ў Маскве, мала было мець талент. У вядучых саюзных выдавецтвах "Советский писатель", "Художественная литература", "Молодая гвардия" ды і ў некаторых іншых існавала свайго роду разнарадка. І гэтага няпісанага правіла заўсёды прытрымліваліся, калі вырашалі, каго паставіць у тэматычны план, а каму адмовіць. Абавязкова бралася пад увагу, каб ніводная саюзная рэспубліка не была пакрыўджана. А пасля глядзелі, каб уважыць мясцовых лаўрэатаў Дзяржаўных прэмій (не кажучы, безумоўна, пра лаўрэатаў Ленінскай прэміі і Дзяржаўнай прэміі СССР), паэтаў і празаікаў, удастоеных розных ганаровых званняў. Выбарачна падыходзілі і да маладых аўтараў. У гэтых выпадках найчасцей спрацоўвала сацыяльнае паходжанне. Прыкладна па такім прынцыпе дзейнічалі і ў рэдакцыях саюзных часопісаў. І калі галоўны рэдактар "Нового мира" Аляксандр Твардоўскі з-за сваёй прынцыповасці яшчэ мог праявіць самастойнасць, дык іншым вольнасць ніколі не даравалася.

Ды гэтая ганебная практыка даўнавата адышла ў нябыт. Цяпер, за рэдкім выключэннем (сярод пішучай браціі "прабіўных" хапала заўсёды), каб быць заўважаным у Маскве, трэба мець талент. А Масква, як вядома, слязам не верыць. Маскве падавай такія творы, мастацкім вартасцям якіх могуць пазайздросціць самыя аўтарытэтныя мэтры. А падобных твораў, на шчасце, шмат пішуць нашы землякі. Таму іх ахвотна і друкуюць у Маскве.

Адзін з іх — рускамоўны літаратар Фелікс Мысліцкі. Жыве ў Гомелі, паспеў выдаць у "Мастацкай літаратуры" кнігу "Черное солнце" з прадмовай народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, а Рыгор Іванавіч, як вядома, не толькі сам надзвя арыгінальны і таленавіты паэт, а і цудоўнейшы знаўца паэзіі. Таму Р. Барадуліна на мякіне не правядзеш. Каб ён заўважыў і падтрымаў, трэба напісаць хоць бы нешта такое, што дае падставы паверыць у тваё творчыя сілы і магчымасці. А Ф. Мысліцкі першымі сваімі вершамі засведчыў, што мастакоўскага вучнёўства ў яго па сутнасці не было. Гэта і дало падставы Р. Барадуліну сказаць пра яго спагаднае, ухвальнае слова. І не авансавае, з прыцэлам, як кажуць, на перспектыву, а поўнае шчырага захаплення, радасці ад усведамлення, што не мялеюць паэтычныя крыніцы на беларускай зямлі.

Рыгор Барадулін прадставіў Ф. Мысліцкага і чытачам часопіса "Юность", на старонках якога Ф. Мысліцкі быў упершыню апублікаваны ў восьмым нумары за 1998 год. Выступіў з ладнай, у шэсць вершаў падборкай, змешчанай пад рубрыкай, якая сама за сябе шмат гаворыць — "Строфы конца века". Р. Барадулін не пашкадаваў Ф. Мысліцкаму высокіх, але справядлівых слоў: "Феликс Мыслицкий — поэт чуткий и зоркий, поэт тревожный, поэт ищущий. Это он увидел "краснощекий воздух", "мыслящее небо над рекой", заметил, "что день моложе ночи" и как "взрослеет небо Иерусалима". Р. Барадулін працягвае сваю гаворку наступнымі словамі: "Читаешь его стихи и веришь, что это сам поэт, как и его лирический герой, "от звезды к звезде ходил и небо изучал".

У Феликса как у природного поэта, широкий жест: "...озябну и одену облака", "...и тихо тишину толкну плечом", "...я сталкивал прошлое с будущим лбами, я времени ногу сломал!". Поэзия Феликса Мыслицкого вся из сомнений и веры, из печали и радости, из туч и синевы. А поэт стремится к совершенству".

Што гэта сапраўды, так упэўнівае сама падборка. Толькі валодаючы вялікім талентам, толькі мыслячы надзвя паэтычна і гледзячы на ўсё навакол вачыма, поўнымі захаплення, можна ўбачыць, адчуць, што не проста ідзе дождж, а "соленый лунный ливень". І ад гэтага ўсведамлення лучнасці з усім зямным і не толькі зямным, а касмічным, душу напаўняе дзіўнае пачуццё і адчуванне, калі нечакана хочацца нейкіх змен. Да канца не зразумелыя пакуль і не ўсвядомленыя, яны тым больш загадкавыя. І прыцягальныя ў гэтай загадкавасці:

*У каждого есть в жизни час,*
*Когда так глянет небо в нас,*
*Что оставляет в сердце след,*
*И, забывая обо всем,*
*Мы дом свой вдруг не узнаем*
*И мчимся на внезапный свет.*

Але такое адчуванне імгненнае, бо і "покліч" адтуль, зверху, з самой загадкавасці нядоўгі — ён як нечакана з'яўляецца, гэтаксама хутка і знікае, а застаецца сама рэальнасць, будні, ад якіх нікуды не падзенешся. Застаецца разуменне, што галоўнае для кожнага з нас усё ж на зямлі. З яго радасцямі і болем, з наканаванасцю таго страшнага, ад якога няма ўратавання, бо яно таксама рэальнасць:

*И Некто сходит в нас с высот,*
*Натянет струны и поет,*
*И исчезает, и тогда*
*Нам небо кажется чужим,*
*А прах ничтожным, но своим,*
*Ведь путь из праха в прах всегда.*

Паэзія Ф. Мысліцкага — заўсёды адкрыццё. Ва ўсім звычайным, з чаго яна і нараджаецца, дзякуючы ўменню мысліць вобразамі. У іх шмат унутранай напоўненасці і змястоўнасці, яны хораша кладуцца на душу сваёй нерушавасці. Як у вершы "Ноч", у якім "раскрыв все окна, дышит дом // И выпит свет до дна", з'яўляюцца "Хищные огни" і "шорохи одни ползут и там, и тут".

А "Світязь", калі б была выдадзена анталогія рускамоўнай паэзіі Беларусі, несумненна, стала б адным з лепшых твораў у ёй. Дый, калі параўноўваць гэты верш з тым, што напісана пра славутае возера, пачынаючы ад Адама Міцкевіча і канчаючы аўтарамі, якія апявалі яго нядаўна, уражаны Міцкевічавым юбілеем, Ф. Мысліцкі будзе на вышыні:

*Не хочу возвращаться я в память уже,*
*не хочу возвращаться,*
*Только Свитязь не гаснет доселе в душе,*
*только Свитязь не гаснет.*

*Вся в светилах и в елях, окованных сном,*
*вся в светилах и елях,*
*Две луны и лодчонка с усталым веслом,*
*две луны и лодчонка.*

Наступныя дзве страфы ўзбуйненне паэтычнага малюнка і яшчэ большая настраёвасць, што сведчыць аб зітаванасці лірычнага героя з гэтым кутком, які так хораша ўвайшоў у яго душу і, ёсць упэўненасць, ніколі не пакіне яе, бо падобнае не забываецца. Яно прыходзіць аднойчы і застаецца назаўсёды, становячыся з цягам часу часткай цябе самога:

*И простор, и величье, ни мысли, ни слов,*
*и простор, и величье,*
*И дрожание звезд, и сияние снов,*
*и дрожание звезд.*

*И русалочный шорох в траве и кустах*
*и русалочных шорох,*
*И объятья, и вздохи, и небо в глазах,*
*и объятья, и вздохи.*

Дарэчы, гэты верш Ф. Мысліцкага быў змешчаны і ў часопісе "Наш современник" (N 6, 2000). З невялікімі ўдакладненнямі: "дрожание звезд" пертварылася ў іх "порхание", "вздохи" — у "трепет". А ўвогуле, з лёгкай падачы "Юности", Ф. Мысліцкі хутка стаў сваім на старонках маскоўскіх часопісаў. Прынамсі, тры яго вершы надрукаваў "Октябрь" (N 12, 1999). І гэтым разам Ф. Мысліцкі засведчыў, што ў майстэрстве можа паспаборнічаць са знакамітымі паэтамі. Але паранейшаму ён не здраджвае "Юности". Новая падборка, таксама з шасці твораў, была змешчана ў 11-12 нумарах за пазамінулы год. І прызнана адной з лепшых: поруч з іншымі аўтарамі Ф. Мысліцкі атрымаў "Приз читательских симпатий". Гэтай высокай ацэнкі ўдастойваюцца не толькі паэты, а і празаікі, публіцысты, мастакі на падставе атрыманых рэдакцыяй лістоў, адказаў на анкеты...

У пятым нумары "Юности" за 2000 год пад рубрыкай "Строфы смутных лет" прапануецца падборка вершаў Р. Барадуліна. Як вядома, яго перакладалі на рускую мову і па-ранейшаму перакладаюць многія аўтары, у тым ліку і тыя, хто з'яўляецца сапраўдным майстрам сваёй справы, але ў перастварэнні Р. Барадуліна Ф. Мысліцкім свая прывабнасць. Магчыма, ад таго, што, ашчадна ставячыся да арыгінала, ён застаецца і самім сабой. А магчыма, ад вялікай улюбёнасці ў барадулінскае слова, што з'яўляецца сведчаннем і ўдзячнасці таму, хто своечасова заўважыў цябе і падтрымаў. Магчыма... Ды што гадаць — трэба чытаць Р. Барадуліна па-руску ў перакладзе Ф. Мысліцкага. І адчуеш не меншую асалоду, чым калі ўспрымаеш прамоўленае Майстрам на роднай мове. Наколькі Ф. Мысліцкі адчуў дух паэзіі Р. Барадуліна, добра відаць па вершы, прысвечаным Генадзю Бураўкіну:

*Поэт — послевоенник, мы*
*Теперь, как два последних волка,*
*Смотри, как из крикливой тьмы*
*Стреляют в нас пока без толка!*

*Им наши шкуры на стене*
*Распять так хочется любовно,*
*Уже набиты гвозди в бревна,*
*Где бы висеть тебе и мне.*

*Мы по инерции бежим*
*И в свет еще знакомый всем,*
*Себя мы бегом успокоим,*
*Хоть мрак покажется чужим.*

Фелікс Мысліцкі на паэтычным небасхіле паспеў знайсці сваю зорку, святло якой не можа не вабіць, бо яно яркае і поўнае той вялікай сілы, што сведчыць аб яго жыццядайнасці.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

 **ЧАСАПІС**

## “Бог зусім побач”

Таіса Бондар

Бог зусім побач

Слынная пісьменніца Таіса Бондар парадавала чытачоў сваёй новай кнігай “Бо зусім побач”, якая з'явілася дзякуючы вытворчаму прадпрыемству “Лотаць”. Гэта пранікнёны роздум аб тым шляху, што пераадольваюць сёння многія колішнія атэісты, шукаючы ў гэтым складаным свеце сапраўдныя каштоўнасці, а таксама тое апірышча, дзякуючы якому можна знайсці адказ на многія пытанні, вызначыць сваё месца на зямлі, а калі глядзець шырэй, дык і паспрабаваць уявіць тое, таямнічае, а з-за сваёй загадкавасці і не адкрытасці, чаго не ўдалося пазбегнуць ні аднаму смяротнаму і да чаго — рана ці позна наблізіцца кожны з нас. І не спалохацца яго, а ўспрыняць годна, бо яно стане не толькі завяршэннем аднаго стану, адной існасці, а і пачаткам чагосьці новага, пра што цяпер нам не суджана ведаць, але яго можна ўявіць, адчуць, калі напоўніцца верай у Бога.

Кажучы словамі выдавецкай анатацыі, перад намі — “дызайн душы, своеасаблівы і штоміг непаўторны партрэт яе”, а ў кнізе яна “пераплятаецца з бачнымі толькі душы карцінамі іншых светаў і сфераў”. Адбываецца гэта дзякуючы таму, што аўтар апынулася перад неабходнасцю задумацца над сваім колішнім жыццём, з'явілася жаданне шмат у чым пераасэнсаваць яго. І адбылося гэта не само па сабе, а праз ачышчэнне, якое напаткала пісьменніцу падчас наведвання Індыі: “Пятнаццаць дзён, праведзеных у Індыі, уяўляліся казкаю нават у час іх пражывання: Настаўнік (адны завуць яго Баба Вірса Сінгх, другія — Бабаджы, трэція — Махарадж!) пазнаў, прызнаў мяне з першых жа імгненняў (яшчэ да сустрэчы на фізічным плане — у складзе групы): і сэрца маё рванулася да Яго, не прамарудзіўшы, і сэрца маё — частачка яго! — засталася каля ног Яго. Белай зіхоткай кветкаю — каля ног Настаўніка”. У кнізе ёсць і прысвячэнне: “Вялікаму Настаўніку Баба Вірса Сінгху з паклонам”.

Уражанні ад сустрэч з Настаўнікам пераплятаюцца ў кнізе з аўтарскімі запісамі, зробленымі апошнім часам і сапраўды атрымліваюцца старонкі з дзённіка, а менавіта гэтыя словы вынесены ў падзагаловак назвы. Дакладней — старонкі дзённіка душы, якая вырвалася з тлуму паўсядзённасці, пазбавілася гібельных путаў няверу, памылковых помыслаў. І ў чалавека з'явілася патрэба ачышчэння: “Шмат чужых ношак на сябе паўзвальвала? Шмат чужых даўгоў і грахоў аплачваю? Мажліва... Але ж дасюль не магу навучыцца адасабляцца ад чужога гора, ад чужога лёсу — і, значыць, нязжытыя ўсе гэтыя пачуцці, сумненні і страхі і ва мне самой, як хацелася спавядацца. Усё баранілася (А як жа любоў да людзей? Адкрытасць?), усё шукала і шукаю магчымых сяброў і аднадумцаў (Як жа адной? Самой?), а цяпер вось вымушана зноў і зноў паўтараць: ніхто табе не сябра, ніхто табе не вораг, а кожны чалавек табе настаўнік... Павінна ж некалі набрацца дастатковага вопыту! Павінна ж некалі ачысціцца душа, каб свяціць роўным і моцным святлом, не хлыпаючы ў часе кожнай новай стрэчы ці сутычкі! Іначай — не дайсці, не прайсці належнае”. “Ціхая радасць струменіцца” ад усведамлення, што ёсць магчымасць наследаваць вучэнне Настаўніка. Гэтаксама, як і ад таго, што Ён зацікавіўся далёкай і невядомай Яму краінай: “Учора папрасіў паказаць Беларусь — і нейкі час, разумеючы ўсю непатрэбнасць, усю неабавязковасць маіх тлумачэнняў, штосьці расказвала ў часе “палёту” над маёй зямлёй, паказваючы чарнобыльскую зону, Палессе з Прыпяццю, Гродзеншчыну, Браслаўскія азёры, Белавежскую пушчу... І калі ўбачанае пачало ўжо згасаць, успомніла, што не паказала Полацак, храм Ефрасінні. І мы на колькі імгненняў вярнуліся (кажу “мы”, хоць помніцца толькі адчуванні таго, што мы разам), падняліся па вузкай лесвіцы — і я паказала келлю, у якой некалі жыла... Настаўнік пажартаваў, што ў параўнанні з гэтай келляй жыву я цяпер па-каралеўску...” З таго найвялікшага паразумення, з гэткага ж прасвятлення, пра якія нядаўна і падумаць не мог, і пачынаецца шлях да веры, шлях да Бога. А ён жа, у чым і пераконвае кніга Т. Бондар, зусім побач, і, прыйшоўшы да яго, можна адчуць сябе па-сапраўднаму шчаслівым. У рэшце рэшт гэта справа кожнага, як яму быць надалей. У адным няма сумнення: з кнігай “Бог зусім побач” трэба пазнаёміцца.

Міхась ГЕНЬКА




Ала КЛЕМЯНОК



# Ты без слёз мяне плакаць вучыў...

•

Язэпу

*Над нашым лёсам чорны Ахеронт,*
*Ён паглынае памяці скарбонкі,*
*У небыццё вязе стары Харон*
*Стагоддзяў летапісныя старонкі.*
*Вадой атрутнай з Леты пояць нас*
*Пярэварутні, прагныя да ўлады,*
*І разбурае неадольны час*
*Імёны, і сядзібы, і прысады.*

*А над Зямлёй Гісторыя гудзе,*
*Звышрэактыўным лайнерам імчыцца,*
*Нам не спыніць, не павярнуць яе,*
*І застаецца — лёсу пакарыцца?*
*І застаецца — зберагчы душу,*
*Каб не баяцца плыць па Ахеронту.*
*Я памяць продкаў у сабе нашу*
*Ды берагу імёнаў пазалоту,*
*Калі надыдзе час і мне ступіць*
*У лодку раўнадушнага Харона,*
*Усё сынам пакіну, так і быць,*
*Мне — толькі голас памінальны звона;*
*Мне толькі сумны, светлы успамін*
*Пра тых, хто не пускаў мяне да Леты.*
*Няхай мяне даруе кожны сын —*
*Я не аддам ім гэты сум мой светлы.*

## Сябру

*Пагавары са мной на роднай мове,*
*Не лайся, не цурайся, не журыся,*
*А цёплай прастатой*
*у кожным слове*
*Пяшчотна мне да сэрца*
*дакраніся.*
*Дай водар мне адчуць бароў і пушчаў,*
*Пахучае паветра сенажаці,*
*Дзе сонечныя промні*
*колас лушчаць,*
*Дзе клікае дадому голас маці.*
*Пагавары са мной*
*на мове роднай, —*
*Такой квяцістай,*
*срэбна-галасістай,*
*Няхай непапулярнай*
*і немоднай,*
*Але затое годнаю і чыстай.*
*Пагавары са мною,*
*мілы дружа,*
*Ялеем родных слоў лячы мне раны...*
*Няхай навокал вар'яцее сцюжа —*
*Нас ахінула дзіўная нірвана.*

## Апошняя восень

*Апошняя восень дваццатага веку:*
*Халодныя ночы, трывожныя дні,*
*Хаваецца сонца за хмараў павекі,*
*За вокнамі вецер шапоча — засні,*
*І нейкія цені мяне ахінаюць...*
*Так хочацца жыць,*
*калі сілы знікаюць.*

## На дзяды

*Запалю надвячоркам*
*грамнічную свечку,*
*Ўсе куты у кватэры ёй паражагнаю.*
*Сёння варта падумаць,*
*успомніць аб вечным,*
*Сёння прыйдуць жаданыя госці —*
*я знаю.*
*За сталом сабяруцца мае успаміны,*
*Памяць продкаў —*
*і памяць жывая аб продках*
*Сёння самыя важныя ў свеце навіны*
*Нам заменяць з куфэрка бабулі знаходкі.*
*Саматканы абрус*
*са стала звесіць крылы,*
*Перапечкі на ім ды кілішачкі з квасам.*
*Хай закруціць віхор нас*
*прыемны і мілы,*
*Сёння з вечнасцю мы размаўляем*
*сам-насам.*
*А за шыбамі першага снегу пушынкі*
*З чорнай бездані неба ляцяць, як анёлы,*
*Ды па свечцы грамнічнай*
*збягаюць слязінкі*
*Мо па нас — па жывых,*
*мо па іх — па памёрлых.*

## Верасень

*Жоўтым крылом мяне восень*
*рудая жагнае,*
*Шэры туман свае ветразі сушыць*
*над полем.*
*Там, за туманамі, лета маё дагарае,*
*Восень у вогнішча шчодра*
*падкідвае голле.*

*Сум і спакой над зямлёй уладараць.*
*А з неба*
*Зорным дажджом пераспелым*
*ляцяць Леаніды.*
*Недзе на хвоях успыхваюць*
*ніткачкі срэбра*
*У брыльянтавых росах*
*з далоняў Планіды.*

*Лес, здратаваны за лета, спакою чакае,*
*Кветкай пунцовай блішчыць пры дарозе*
*рабіна.*
*Верасень вогненны*
*шустрай вавёркай знікае,*
*Скача, страсаючы лісце і срэбра*
*з галінаў.*

•

*Ты без слёз мяне плакаць вучыў —*
*Як цымбалаў празрыстыя гулі:*
*Ды музыка няўрымслівы быў,*
*І сяброўкі мяне не пачулі.*

*Ты вучыў мяне плакаць без слёз,*
*Як у траўні квяцістым зязюлі,*
*Ды вятрыска мой голас панёс —*
*Мае дзеткі мяне не пачулі.*

*Я умею праз слёзы спяваць,*
*Я скрозь слёзы смяяцца умею.*
*Просіш ты мае слёзы хаваць.*
*Я магла б*
*Толькі сэрцам счарсцвею.*

## Ідылія

*Ляглі на поле снежныя аблокі*
*І паглынулі небасхіл далёкі,*
*У шэры колер свет пафарбавалі,*
*Дзе я пісала вершы-пастаралі.*
*Прапалі раптам фарбы, пахі, гукі,*
*Апалі у бяссіллі мае рукі,*
*У вязніцы бясколернай, бязгучнай*
*Душа таксама стала нейкай штучнай.*
*Абмежавана-мёртвая прастора —*
*Няма эмоцый, радасці і гора.*
*Які спакой, ідылія якая*
*У прымітыўным свеце узнікае!..*

Марыя ПАНКОВА

# Асенняе

•

*Сыплюцца,*
*сыплюцца вершы.*
*Сыплюцца вершы ў грудкі.*
*Лісце мае*
*найсвятлейшае,*
*Асеннія жар-радкі.*

*Хто іх збірае? Восень?*
*Хто іх, як вецер, — з душы?*
*І мама мая ў іх галосіць,*
*І бацька пляце ў іх кашы.*

*І я ў іх — сама, нібыта*
*Страшнай бураю збіта.*
*— Мілы, не наступі!*
*— Штучна як! Чуеш? — Спі!..*
*...Спі, душа, засынай,*
*Слоў чужых не кранай...*

•

*Мой самы неспазнаны,*
*Самотны, у глушы!*
*Ты там —*
*дзе ўсе туманы,*
*Ты там — дзе ні душы.*
*Ніколі не сустрэцца,*
*Ніколі не абняць.*
*Як зорку — тваё сэрца*
*Далоні мае спяць...*

•

*Полымя арабін...*
*Ліст жураўліны злятае.*
*Самаю сумнай з жанчын —*
*Я ў гаі.*

*Вусны мае адцвілі,*
*Сэрца маё адгарэла.*
*А не было любві*
*Такой, як хацела...*

•

*Я сёння ўспомніла пра Вас:*
*Кранула песня.*
*О, як жа з радыё Вы ўчас,*
*Ваш голас весні!*

*“Я памятаю вечар той...”*
*Хачу даслухаць!*
*Нібы дыхнула ў твар вясной.*
*І знoўку — скруха.*

*“Я памятаю вечар той...”*
*Там не мая хусціна,*
*Але — азвалася вярбой*
*Ва мне ЖАНЧЫНА!*

•

*Міма і міма хтосьці.*
*Няма ўжо маёй маладосці.*
*Зажураную бабуляй*
*Песню сваю пачула.*
*Можа, й цікавай будзе*
*Не сёння, дык заўтра людзям.*
*Жураўкай нямога гаю*
*Самотна спяваю...*

•

*Нялюдскі боль,*
*нялюдскі жах,*
*Нялюдскае ўсё гора.*
*І палыном мой шлях прапах,*
*Паслаўся Чорным ўзорам.*
*Прыстою ціха пад сасной —*
*Ні гуку і ні зыку.*
*Такое ўражанне: з гарой*
*Змагаюся вялікай.*
*І як Сізіф, туды-сюды*
*Качу й качу свой камень.*
*...Якія страшныя сляды*
*Пакінуў ты на памяць!*

•

*Не папросіш ужо ні вады,*
*ні хлеба,*
*Проста так мяне не гукнеш.*
*Можа, вoблачкам ты на небе,*
*Можа, птушкай там плывеш.*
*Сэрца ціхае — як старонка*
*Перад бураю ў грозны час.*
*Як ты ў воблаках там, мой горкі.*
*І ці помніш ты там пра нас?*

•

*Гэта здзек, жахлівы здзек*
*Над слязой маёю.*
*О, які ж ты, чалавек!*
*О, з якой душою!*
*Судзіш там — дзе б памаўчаць.*
*Там, дзе плакаць трэба.*
*...У вачах маіх — пячаць*
*Твайго жалю, неба!*

ПРОЗА

## Беверлі Хілз

— Я ведаў, што ў цябе ёсць шанц пераадолець бар'ер, прарвацца да нас. Такія, як ты, пазначаны з самага зачацця, але толькі адзін з мільёна ўсведамляе, як факт, наша існаванне, жыве і памірае разам з намі. А калі па праўдзе, дык, бадай, не памірае ніколі. За год дамагчыся таго, на што іншым патрэбна дваццаць! Значыць, ты народжаны для сапраўднай гульні, бітвы, жыцця, трагедыі. І ўсё гэта будзе табе дадзена. Але для пачатку, каб зрушыць сітуацыю, заключым дамову. Здзелка табе падасца дзіўнай, падазронай, нават вар'яцкай, ды без яе не абысціся — яна акуне цябе ў наша, сапраўднае, жыццё. Бачу, задумаўся. Узніклі пытанні? Задавай, толькі — расслабся, не напружвайся...

— А што тут напружвацца?! Усё ясна, як белы дзень. Я пісаў апавяданне і на пэўным этапе ўвайшоў у яго. Ступіў за

— Багатым — гэта добра. А мой забойца яшчэ не нарадзіўся: я ведаў бы - мяркую, разумееш - пра яго існаванне. І купіць мяне цяжка, хутчэй за ўсё — немажліва. Але багацце павялічвае твой шанц перамагчы ў гульні. Такім чынам, просьба пачута і прынята: багацце. Цяпер — канкрэтна. Пачнём з лота нумар адзін. Дзе будзем жыць? Віла? Замак? Што-небудзь сціплейшае?

— Замак?! Крый Божа! Хопіць з мяне аднаго прывіду! Няхай будзе віла...

— Дзе?

— Беверлі Хілз, калі на тое пайшло. Чуў, там весела...

— Такі карціць сёе-тое сказаць пра твой выбар, асабліва наконт "весела", але — прамаўчу. На чым будзем ездзіць?

— Гуляць дык гуляць! "Ролс-Ройс", "Бентлі", "Ламбарджыні" — што-небудзь з гэтых стайняў.

— Тачкі прыстойныя. А як наконт яхты?

— Цалкам "за". Мара маленства.

— Дарагая, ты часам не ведаеш, чым твой тоўсты кітаец сёння ўвечары частаваць нас будзе? — паварнуў пісьменнік галаву да жонкі — яна якраз выходзіла з басейна.

— Ну, пачынаецца! — адказала слоўкам яшчэ з таго, даўнейшага жыцця.

"Любая сэрцу фраза, — пасміхнуўся пісьменнік. — Добрая. Знаёмая. Родная".

— Не бяры да галавы: мы зробім усё, каб ты не адгадаў. Сюрпрыз! — засмяялася жонка, махнула рукою, апырскала, паглядзела пяшчотна — кахала.

"Весела, — зазначыў пісьменнік. — Асабліва мне. Ноччу прылятала першая ластаўка. Я ляжаў з жонкаю, удосталь нацешыўшыся яе — маім! — малочным целам, гладзіў салодкае, роднае, падатлівае плячо, быў шчаслівы, спачываў.

Яна папрасіла:

— Мілы, памасіруй мне яшчэ грудзі, калі ласка.

Але, акурат гэтак і сказала!

Леанід МАРАКОЎ

# ДВА АПАВЯДАННІ



З НІЗКІ "LET IT BE"

грань між рэальнасцю і фантазіяй. Звіхнуўся. Лясnуўся. Звар'яцеў. Хоць разважаю, здаецца, лагічна правільна, слушна. Ці не? Хіба можа быць, каб нехта ўвайшоў, пранікнуў у сваё апавяданне, ужыўся ў яго, зліўся з яго героямі персанажамі? Адказваю: можа, калі гэта — сон. Значыць, я сплю. І няма пытанняў. Толькі холад чамусьці працінае...

— Малайчына! Дрыжыш, а прымусіў сябе і —змагаешся, разважаеш, робіш высновы. Сапраўдны прафесіянал, логік. Усё правільна. Я задаволены. Ты — адзін з абраных, адзін з лепшых, і невыпадкова тут апынуўся. А цяпер слухай і запамінай. Не глядзі на мяне і не гадай: што будзе далей, навошта ты тут і з якой мэтаю? Скажу, усё скажу. Але — не адразу. Не так гэта проста. Толькі не хвалюйся, супакойся. Вы гаворыце — і тут я цалкам згодны — не такі страшны чорт, як яго малююць. Карацей, забіваць цябе ніхто не збіраецца. Нашая мэта якраз адваротная: падоўжыць тваё новае — нашае — жыццё ("Нашае? — тарганулася думка ў пісьменніка. — Не разумею"). Але, але, падоўжыць, нават калі ты будзеш супраціўляцца, чаго нельга выключыць. Чаму? Пасля даведаешся. Паўтараю — не ўсё адразу. З ходу і ў нас не вельмі атрымліваецца... Такім чынам, здзелка. Першая і апошняя. Ты гаворыш, чаго хочаш, а я выконваю твае жаданні. Але калі ўжо ты здагадаўся, хто перад табою, дык, мусіць, разумееш, што д'ябал задарма не працуе. Плату, пэўную частку твайго цела — ціха-ціха, не спяшайся адмаўляцца, потым усё зразумееш! — я прызначу сам, зыходзячы з маштабнасці тваіх просьбаў Цела таго, хто прарваўся да нас, каштуе дорага, таму не трэба залішняй сціпласці. Калі ласка, кажы...

— Я б сказаў, што не маю ніякіх жаданняў, абы не бачыць таго, хто іх навязвае і сам жа выконвае, — гэта значыць, цябе. Зараз галоўнае — прачнуцца і...

— Зайздросная логіка! — перапыніў д'ябал пісьменніка. — Аднак ты памыляешся. Гэта — не сон. Ты сапраўды бачыш перад сабою Антыбога. І табе лепш не траціць марна сілы, не ўпарціцца, а што-небудзь заказаць. Урэшце, каб вырвацца адсюль, гэтага абавязкова трэба захацець і вельмі моцна. Вельмі! Чуеш? Паўтараю: загадваеш жаданне і атрымліваеш шанц. Як бачыш, мы прайшліся па крузе. Табе гэта трэба? Ты ж ніколі марна час не траціў. Не трац і цяпер! Даходліва тлумачу?

— Куды ўжо лепей, — уздыхнуў пісьменнік. Хваляванне замінала яму сабрацца з думкамі. "Даскакаўся! Дапісаўся! Дапяў да ісціны! Да самага яе донца, да адваротнага боку. Я — на другім баку. У іншым вымярэнні. Трэба нешта рабіць, неяк выбірацца. Не апускаць рук, трымаць вуха востра, думаць..." Услых прадоўжыў: — Усё зразумела, і з цікавасці — што будзе далей? — адкажу: я хачу быць багатым, гэткім багатым, каб купіць таго, хто ўзяўся б забіць цябе. Калі такога ва ўсім свеце не знойдзецца, дык — купіць цябе самога...

— Збудзецца мара. Рахунак у банку?

— Без абмежаванняў.

— Арганізуем. Гэта мы ўмеем. Адзін такім багаццем будзеш цешыцца?

— З сям'ёю.

— Дакладней.

— Ну, як належыць: жонка, дачка, сын...

— Узорны татка! Чаго яшчэ хочаш, святы чалавек?

— Сам ведаеш, што да гэтага прыкладаецца...

— Няма праблем. І гэта ўсё? Што ж, плата — рука!

— Якая рука?

— Не якая, а чыя. Твая, чыя ж яшчэ! За клопаты я мушу атрымаць тваю руку. Правую. Па-мойму, гэта справядліва.

— Руку? Ці не зашмат хочаш?

— А ты? Беверлі Хілз, віла, яхта, "Ламбарджыні"...

— Добра, — махнуў правай рукою пісьменнік, быццам загадзя развітваючыся з ёю. — Чорт з табою!

— А ты жартаўнік, — пасміхнуўся задаволены д'ябал. — "Чорт з табою!" у нашым выпадку гучыць нават пікантна.

— Знаю, — прыжмурыў вочы пісьменнік. — Але давай так: спачатку выконваеш жаданне, а пасля...

— А ты перастрахоўшчык, — пахітаў галавою д'ябал. — Я па драбязе не падманваю. Ты мяне крыўдзіш. Расчароўваеш. Слабы ты, аднак, чалавеча... Добра, закругляемся. Гэта ўсё?

— Усё, усё, каб цябе! Каб ты палаў зыркім полымем!

— Во гэта па-нашаму! — пацёр рукі д'ябал. — Зазлаваў! Завёўся. Баец! Будзе з цябе толк. Разумнік. Напаследак хачу спытаць: ты ведаеш, што ў свеце самае ўсемагутнае? Няпростае пытанне? Адразу не можаш адказаць? Падумай, напружся! Не ведаеш? Дык знай — бясплатна, заўваж, даю інфармацыю: самы ўсемагутны — час. Аднак жа гульня перамагае і яго. Гульня — гэта жыццё, правільней, тое, адкуль, з чаго яно бярэ пачатак. Калі-небудзь ты гэта зразумееш. А цяпер парадую цябе маім пажаданнем: да няхуткай сустрэчы! Бывай!

— Падлюга! Каб ты...

— Ты так кампліментамі не кідайся, яшчэ паспееш даць волю эмоцыям. Беражы сілы, братка... — сказаў д'ябал, ахутаў пісьменніка пахам серы і знік.

Беверлі Хілз — гара. Вечар. Лёгкі брыз лянотна пагладжвае акіян.

"Бадай, мая яхта самая прыгожая, — падумаў пісьменнік, трымаючы руку, як брыль ад сонца, над вачамі. — Славутая Беверлі Хілз! Самая багатая ў свеце. Не падкачалі і суседзі. Джэк Нікалсан, Марлен Брандо — зорная кампанія! Вясёлыя, непрадказальныя, загадкавыя. Нядаўна па-суседску ў непераможную Аль-Катрас зазірнуў. Для нас, па ўсім, мясцінка. Аль Капонэ... зноў жа Трэба памянуць бедалагу. Жартую — не мая тэма. Я больш па філасофскай часці. Таямніцы таго жыцця спасцігаю. Адчуваю, хутка дафіласофствуюся..."

Я замёр, жахнуўся, глядзеў: грудзі ўздрыгвалі, смочкі набухлі, варушыліся, жылі. Мая рука па-ранейшаму гладзіла жончына плячо. Аднекуль знутры голас: "А як жа ты думаў? Ведай, браток, калі адсякаюць руку, на яе месцы заўсёды вырастае другая, новая, чужая, нябачная — мая. А грудзі ў тваёй жонкі што трэба, на біс! Даўно такіх пругкіх не мацаў. Нават завёўся па старой памяці. Малайчына, хвалю, цудоўны выбар..."

— Мілы, сёння мы з кітайцам гатуем табе нешта адмысловае, — перапыніла той голас любімая. — За такую ноч грэх не аддзячыць. Так ты мяне ніколі не лашчыў! Я ўзлятала і лунала, падала ў бездань і зноў вярталася ў нябёсы! І так бясконца, бясконца, вечна... Вельмі ўдзячная табе, мілы! Як я кахаю цябе! Якая я шчаслівая! Дурніца! Уяўляеш, хачу зноў нарадзіць табе малое. Хачу зноў! Хачу цябе! Хачу...

"Смяецца, — жахнуўся пісьменнік. — "Я шчаслівая... Хачу зноў... Хачу нарадзіць..." Ад каго? Ад д'ябла?! Ад сатаны?! Жах! Рука не мая! Дзіця — не маё. Можа, і я — не я? Не! Лухта! Часовае вар'яцтва! Вынікі скачка з гразі ў князі! Прыехалі! Стоп! Не ныць! Не паддавацца! Працаваць! — загадаў ён сабе. — Пісаць, працаваць, аддаваць даўгі. З кашмарамі пасля разбяруся.

У "Нью-Йорк таймс" абяцаў даслаць апавяданне сёння ўвечары. Прасілі што-небудзь новае. Запэўніў, што абавязкова атрымаюць.

Працаваць і яшчэ раз працаваць! Не кіснуць! Не расслабляцца! Выканаць абяцанне!"

Пісьменнік сеў за камп'ютэр, пачаў дыктаваць. Разумнай машыне рука не патрэбна. Машына паслухмяна выводзіла на дысплеі надыктаваны тэкст. Гаварылася-пісалася лёгка, натхнёна, хутка. "Эфект пераменых месца? — спытаў сам сябе. — Можа быць. Хоць у гэтым плюс..."

Праз шэсць гадзін, пасля трох шліфовак-рэдагаванняў, націснуў клавішу друку. З прынтэра папаўзла папера з тэкстам. Прачытаў, каб праверыць, ці не падманным было адчуванне ўдачы. "Нармальна, — заспакоіў сябе. — Атрымалася..."

Не марудзіў: час, нервы разбэрсаныя ўшчэнт, трэба паспець. Паслаў па інтэрнэтаўскай пошце. Курыў, адганяючы дымам благія думкі, чакаў: абяцалі адказаць адразу. Праз дваццаць хвілін камп'ютэр паведаміў: пошта, прыміце, прыміце...

Прыняў. Прачытаў:

*"Шаноўны пане... Вы, пэўна, памыліліся і прыслалі не сваё апавяданне. Прыйшла нейкая графаманская лухта. Рука, без аніякіх сумненняў, не Ваша. Раім выклікаць спецыяліста па камп'ютэрах. Чакаем Вашых апавяданняў. Можа быць, ёсць працяг цыкла, які Вы друкавалі ў Германіі? З павагаю — рэдактар аддзела... Подпіс... Дата — 15.4.200г. Час... — гадзін..., хвілін... "*

"Што ж я такое паслаў? — пісьменнік скіраваў курсор на скрынку перадачы паведамленняў. Памылкі не было - файл той. Адкрыў, прачытаў першыя радкі. — Лухта! Суцэльная лухта! Нешта з галавою? Перагрэўся? Напэўна. Спякота неймаверная..." — Адшмаргнуў шторы, пераключыў кандыцыянер на "HI COOL". Націснуў кнопку лямпы, што асвятляе клавіятуру. Угледзеўся ў чорнасіні фон манітора. У думках разбегся, рыхтуючыся скочыць. Скочыў. Прадыктаваў першыя радкі. І далей, далей. Пайшло. Захапіла. Па другім крузе. Зноў хутка, лёгка. Хваляваўся, але спыніцца не мог. Паплыў. Адчуваў сябе ў роднай стыхіі.

Зайшла жонка:

— Мілы, ты хутка? Я знемаглася. Чакаю не дачакаюся паўтору ўчарашняй казачнай начы. Ты быў у ёй галоўны чараўнік...

"Зноў смяецца, — паглядзеў на жонку пісьменнік. — Шчаслівая. "Галоўны чараўнік!" Галоўны цяпер — не я!" — абурыўся ён, але жонцы адказаў мякка:

— Харошая мая, зараз скончу і прыйду. Крыху засталося. Добра?

— Чакаю, чакаю, чакаю! Абяцай: калі раптам засну, дык абавязкова разбудзіш. Але пастараюся дачакацца. Кожная ноч з табою цяпер — як...

Жонка пайшла, і пісьменнік не пачуў яе апошніх слоў.

"Дзякуй Богу, час яшчэ ёсць, — падумаў ён. — У "Таймс" будуць чакаць да паўночы. Пісаць! Тэрмінова! Не падвесці! Другі раз не пацвердзіць клас — самазабойства! Другі раз — не выпадковасць..."

І пісьменнік зноў нагаворваў, жэстыкуляваў, шаптаў. Працавалася зноў падазрона лёгка.

— І чорт з ім! — мацюкнуўся. — Ух ты, каго ўспомніў! — Спахмурнеў: — Ды не, то быў сон. Вядома ж, сон! Дом на Беверлі Хілз пасля трох гадоў паспяховай работы ў Еўропе я купіў сам. Гэта што, таксама сон?

Пісаць! Пісаць! Не ўхіляцца!

Неўзабаве прадыктаваў фінальныя радкі. Канцоўка спадабалася: арыгінальнасцю, нечаканасцю. "Нармальна, — сказаў сабе, як заўсёды. — Паглядзім, што адкажуць гэтым разам, паглядзім..."

Адказ прыйшоў праз пяць хвілін:

*"Шаноўны пане... Нам усё ж здаецца, што раніцай Вам неабходна выклікаць спецыяліста па камп'ютэрах. Зноў прыйшло нейкае глупства. Мяркуйце самі: ці ж магла Ваша рука напісаць такі фінал? Ваша рука напісала б нешта на галаву вышэйшае за гэтую бязглуздзіцу. Успомніце, напрыклад, фінал з "Траіх": жонка бяжыць на сустрэчу да палюбоўніка адразу, як толькі было засведчана самазабойства мужа.*

*"...Яна не ведала, што, аддаляючыся ад морга, няўхільна набліжаецца да яго. Не, да мяне! Да нас! І яна кінулася бегчы. Хутчэй! Даун чакае!*

*І яна пабегла па прамой, якая была кругам...*

*Яна не ведала, што рэшту ночы правядзе побач са мною.*

*Яна не ведала.*

*Let it be![1].*

*— Прыгожая пара,— ухмыльнуўся паталагаанатам, уваходзячы скальпелем у маё цела.*

*Ускрываць каханую яму не было патрэбы..."*

*Вось гэта — Вы! Тут усё напісана Вашай рукою! Чыста. Дынамічна. Экспрэсіўна. Двайны, нават трайны сэнс — і разам з тым нічога лішняга. Ваша рука. Ваша*

*Яшчэ раз раім звярнуцца ў бліжэйшую фірму па рамонце камп'ютэраў. З пашанаю — рэдактар аддзела... Подпіс..."*

— Сапраўды перагрэўся, — паклаў руку на лоб пісьменнік. — Хопіць! На сёння — усё. Спаць! Адпачываць. Раніцай пабачым, што да чаго. Свежая галава — палова поспеху...

Ён прайшоў у спальню. Жонка, бессаромна голая, ляжала пад кандыцыянерам. "Дзіўна, — сцепануў ён плячыма. — Заўсёды баялася холаду, не вынасіла тэмпературы ніжэй за трыццаць і ніколі не раскрывалася. А тут ляжыць сабе ў патоку халоднага паветра і яшчэ ўсміхаецца ад асалоды і задавальнення". На жончыных грудзях беглі-перакочваліся хвалепадобныя дрыжыкі. Пісьменнік замёр. Цела прыўзнялося, выгнулася, затрымцела, зноў апусцілася на пасцель. Жонка прашаптала:

(Працяг на стар. 14—15)

[1] *Няхай будзе так! (англ.)*

## Аб'ядналіся таленты

**Адной з цікавых падзей мінулага года стаўся канцэрт Маладзечанскага сімфанічнага аркестра ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Адметнасць у тым, што калектыў пад кіраўніцтвам заслужанага работніка культуры Беларусі Рыгора Сарокі не ўпершыню прадстаўляў сваё выканальніцкае майстэрства сталічнаму слухачу. У шосты раз сімфанічны аркестр прывёз новую канцэртную праграму, якой прывабіў увагу не толькі сваіх прыхільнікаў, але і многіх сур'ёзных знаўцаў музыкі.**

**Сапраўдным адкрыццём для слухачоў сталася суквецце салістаў, якія выступалі разам з калектывам. Парадаваў саліст Нацыянальнага тэатра оперы Міхаіл Жылюк. Творчае сяброўства спевака з Маладзечанскім аркестрам доўжыцца не першы год, разам ездзілі ў канцэртнае турнэ па гарадах Германіі. У яго выкананні прагучала каваціна Алека з аднайменнай оперы Рахманінава; дасведчанасць, высокі прафесіяналізм М. Жылюка быў добрым узорам для маладых вакалістаў, якія бралі ўдзел у канцэрце.**

**Прыемна, што беларускія спевакі маюць поспех і ў Расіі: Уладзіслаў Сулімскі і Раман Завадскі — студэнты Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі. Яны ўдасканальваюць сваё майстэрства ў класе прафесара Мікалая Аляксеева. А пачыналі займацца вакалам у Маладзечанскім музычным вучылішчы, дзе іх выкладчыкам і вялікім сябрам быў Георгій Юрэвіч, якому малады артысты вельмі ўдзячныя.**

**Усім вядома, як складана выконваць творы з "залатой скарбонкі" сусветнага опернага мастацтва: знакамітыя нумары вымагаюць вялікай асцярожнасці і смеласці ад спевакоў. У інтэрпрэтацыі Р. Завадскага прагучала арыя Каварадосі з оперы "Тоска" Пучыні. Музыкант напоўніў трагічны маналог героя парывам, адчаем, мяцежнасцю і асаблівым драматызмам.**

**Незабыўнае ўражанне выклікаў у публікі У. Сулімскі, які выканаў арыю князя Ігара з аднайменнай оперы Барадзіна. Артыстызм дапамог спеваку дакладна стварыць велічны, мужны і, разам з тым, пяшчотны вобраз легендарнага славянскага віцязя. Горкі роздум, боль за прыгнечаны народ, туга па каханай — усё ўвасаблялася так пераканаўча, што гледачы вылучылі гэты нумар з усёй канцэртнай праграмы і доўгімі авацыямі трымалі спевака на сцэне. Да таго ж, нельга забыцца і на ўдалы "дуэт" вакаліста і аркестра, які гучаў арганічна і роўна. Многія музыканты казалі, як цікава было працаваць з Уладзіславам у час рэпетыцый, як усе разам з дырыжорам Р. Сарокам шукалі патрэбныя эмацыянальныя адценні да музыкі Барадзіна.**

**За выкананне арыі князя Ігара У. Сулімскі атрымаў спецыяльны прыз на Міжнародным конкурсе вакалістаў у Санкт-Пецярбурзе. Менавіта пасля гэтага конкурсу яго запрасілі ў Акадэмію Марыінскага тэатра, дзе Уладзіслаў выконвае вядучыя барытонавыя партыі: граф Альмавіва ў "Вяселлі Фігара", Жэрмон у "Травіяце", Яўгеній Анегін, Гразной у "Царскай нявесце", Эбн-Хакія ў "Іяланце". Такі вялікі рэпертуарны спіс вымагае ад спевака вялікай адданасці і працаздольнасці. (Дарэчы, вакалам ён пачаў займацца з 18 гадоў). Выклікае здзіўленне тое, што паводле слоў У. Сулімскага, у Акадэміі Марыінскага тэатра яскрава праяўляюць сябе на сцэне пераважна беларускія і грузінскія спевакі.**

**Сапраўднай "пярлінай" праграмы сталася выкананне Канцэрта N 23 для фартэпіяна з аркестрам Моцарта. Натхнёную лірыку твора ўпрыгожыў сваёй зусім недзіцячай ігрой Міша Ялецкі (клас С. Шпадарука). Узнёсласць, празрыстасць і філасофская глыбіня музыкі была ўвасоблена маленькім піяністам з дзівоснай чысцінёй і дакладнасцю. Моцартаўская яснасць і лёгкасць трактоўкі літаральна прымусіла аўдыторыю даслухаць апошнія ноты твора ў фантастычнай цішыні, і толькі пасля працяглай паўзы выбухнулі апладысменты.**

**У гутарцы з Мішам я даведалася, што Моцарт — адзін з любімых кампазітараў хлопчыка. Можна нават сказаць, што ён чымсьці падобны да знакамітага аўстрыйскага музыканта: першыя выканальніцкія вопыты М. Ялецкага адбыліся ў трохгадовым узросце, музыка для яго — неабходная частка жыцця. Разам з тым, Міша спрабуе сябе і ў кампазіцыі: так, на канцэрце ў філармоніі ён выканаў уласную кадэнцыю да твора Моцарта. У свае 10 гадоў М. Ялецкі стаў лаўрэатам 1-й прэміі Міжнароднага конкурсу ім. Баха ў Віцебску.**

**Варта падзякаваць калектыву Маладзечанскага сімфанічнага аркестра на чале з Р. Сарокам, які аб'яднаў цікавых маладых салістаў у новай канцэртнай праграме. Творчы дэбют на галоўнай сцэне Беларусі Р. Завадскага, У. Сулімскага і М. Ялецкага прайшоў паспяхова. Напэўна, гэтыя імёны ў будучым зоймуць адпаведнае месца ў музычнай культуры не толькі Беларусі.**

**Кацярына ПАПОВА**

*г. Маладзечна*

# Уладзімір Пракапцоў: "Візітоўцы нацыі нельга быць зашмальцаванай"

**— Уладзімір Іванавіч, хутка тры гады, як вы на пасадзе дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея. Тэрмін дастатковы, каб падвесці пэўныя вынікі вашае дзейнасці...**

— Тэрмін невялікі, да таго ж нічога рэвалюцыйнага, надзвычайнага за гэты час, дзякуй Богу, не адбылося. Я прыхільнік эвалюцыйнага працэсу, асабліва калі гаворка ідзе пра такую "кансерватыўную" галіну, як музейная справа.

Правільней было б гаварыць не пра тры гады майго дырэктарства, а пра тры гады працы музейнага калектыву. Бо калі ў нас за гэты час ёсць дасягненні, дык гэта нашы агульныя дасягненні. Калі ёсць праблемы — дык зноў жа праблемы нашыя, а не прыватная справа дырэктара Пракапцова.

**— Гэта так. Я таксама не схільны перабольшваць "ролю асобы ў гісторыі". Але менавіта ваш подпіс стаіць на ўсіх больш-менш важных паперах, што датычаць працы музея і філіялаў. У вашай кампетэнцыі перамовы з уладай і замежнымі партнёрамі. Я ўжо не кажу пра маральную адказнасць, што адпавядае вашай пасадзе.**

**Дарэчы, на вас не цісне тая акалічнасць, што вашымі папярэднікамі былі такія выдатныя асобы, як Алена Аладава і Юрый Карачун?**

— Я, безумоўна, усведамляю, што музей мае гісторыю, традыцыі, што ёсць досвед папярэднікаў. Часам, калі патрабуецца нестандартнае рашэнне, я думаю, што ў гэтай сітуацыі зрабілі б Алена Васільеўна альбо Юрый Аляксандравіч. Але, прызнацца, нейкіх асаблівых праблем я не маю. Рэч у тым, што супрацоўнікі музея выдатныя прафесійнікі, большасць з іх працуе ў гэтых сценах не адзін год, справу сваю ведаюць. У параўнанні з іншымі ўстановамі культуры ў нас вельмі нізкая плыннасць кадраў. Прытым, што заробкі, як паўсюль у бюджэтнай сферы, невысокія. Мне, як дырэктару, адносна лёгка спрыяць пераемнасці пакаленняў і захаванню традыцый. Па сутнасці, мне застаюцца функцыі каардынатара, бо справа збольшага наладжана.

**— Уладзімір Іванавіч, тры гады таму на ўваходзе ў музей змянілі шыльду. Было "Дзяржаўны мастацкі музей БССР", стала — "Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь". Падзея, нібыта не значная, але я бачу ў ёй сімвалічны сэнс.**

— Змяніць шыльду варта было б раней. БССР скончылася ў 1991-м годзе, а мы, атрымліваецца, адрэагавалі на гэта толькі ў 1998-м. Паглядзіце, дарэчы, колькі дагэтуль у Мінску, па Беларусі, увогуле шыльдаў з абрэвіятурай "БССР" і "СССР"... Шыльда і сутнасць супадаюць не заўжды. Я ж дазволю сабе сцвярджаць, што трансфармацыя "Мастацкага музея БССР" у "Нацыянальны мастацкі музей Беларусі" пачалася яшчэ да абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь і... не завершана дагэтуль. І ў гэтым няма нічога дзіўнага. Бо тое, што напачатку адбываецца ў культуры, потым здараецца ў палітыцы. Культурніцкая самадастатковасць рана ці позна спараджае і палітычны суверэнітэт.

Фактычна музей стаў Нацыянальным мастацкім у той момант, калі ў вачах грамады набыў статус галоўнай скарбніцы беларускага нацыянальнага мастацтва. Было гэта яшчэ пры БССР. Гэта я кажу пра нефармальны статус. Што ж датычыць афіцыйнага, дык ён у Дзяржаўнага мастацкага музея БССР быў, скажам, так, не вельмі акрэслены. Прыблізна, як і статус дзяржаўнага ўтварэння пад назвай "БССР": з аднаго боку — сябра ААН, ЮНЕСКА, іншых міжнародных арганізацый, суб'ект міжнароднага права, з другога — саюзная рэспубліка СССР, цалкам падначаленая Маскве.

У фондах ДММ БССР, як у кладоўцы руплівага гаспадара, было ўсяго пакрысе; усяго, што пры нагодзе "спатрэбіцца ў гаспадарцы" — і беларускае мастацтва ад старажытных часоў да нашых дзён, і рускае, і заходнееўрапейскае, і мастацтва Усходу, і "савецкае шматнацыянальнае". І хоць колькасна ў нас дамінавала мастацтва беларускае, музей у СССР быў вядомы найперш сваёю калекцыяй рускага мастацтва XIX—пачатку XX стагоддзя.

З папулярнай літаратуры савецкае пары можна было даведацца, што Дзяржаўны мастацкі музей БССР — чацвёрты па значнасці мастацкі музей Савецкага Саюза. Я не надта разумею, на чым грунтуецца гэты тэзіс, якімі крытэрыямі вызначалася тое чацвёртае месца. Але, мяркуючы па тым, што шэраг тэматычных экспазіцый (у прыватнасці, да 100-годдзя Таварыства перасоўных выстаў) мы ладзілі разам з Траццякоўскай галерэяй, Рускім музеем і Кіеўскім музеем рускага мастацтва, дык, відаць, мелася на ўвазе чацвёртая ў СССР па каштоўнасці калекцыя рускага мастацтва.

Інакш кажучы, мы ганарыліся тым, што галоўны мастацкі музей Беларусі ў вачах усесаюзнае публікі — філіял Траццякоўкі. У БССР такі статус галоўнай культурніцкай скарбніцы лічыўся нармальным, у Рэспубліцы Беларусь такое падаецца дзіўным. Прытым, што калекцыя рускага мастацтва ў нас сапраўды цудоўная, і добра, што суверэнная Беларусь мае гэты скарб.



*Уладзімір Пракапцоў (справа)*

Нацыянальны мастацкі музей — гэта найперш збор твораў нацыянальнага мастацтва. Гэта візітоўка нацыі, дзяржавы. Гэта тое, чым мае быць прадстаўлены ў свеце беларускі народ. Для нас, супрацоўнікаў музея, тэзіс "Беларусь — перадусім" мае літаральны сэнс. У гэтым кірунку мы працуем.

**— Аднак значная частка нашай культурніцкай спадчыны па розных прычынах знаходзіцца па-за межамі Рэспублікі Беларусь. У Польшчы, Летуве, Расіі, можа, яшчэ дзе. У шэрагу выпадкаў цяжка адназначна залічыць таго ці іншага творцу ў беларускі пантэон — пэўныя правы маюць на яго і суседнія народы. Дык што ж у гэтай сітуацыі будзе прапагандаваць Нацыянальны мастацкі музей?**

— Тое, што выдатныя асобы пакідаюць след не толькі ў роднай, але і ў іншых культурах, альбо тое, што ў межах калісьці адзінай культуры адбываецца нацыянальна-дзяржаўнае размежаванне (як стала, напрыклад, з культураю Вялікага Княства Літоўскага), — рэчы абсалютна натуральныя. Тое, што нашы суседзі аказаліся спрытнейшымі за нас, і сёння беларускае мастацтва экспануецца ў замежных музеях як мастацтва польскае, рускае, летувіскае, трэба ўспрымаць як факт, які адбыўся, з якім трэба лічыцца. Але нават тое, што мы захоўваем у сваіх фондах, вельмі ўражвае. На жаль, мы пакуль не маем экспазіцыйных плошчаў, каб паказаць усё гэта гледачу. Вы, мабыць, памятаеце шэраг выстаў, прысвечаных мастацтву Беларусі XII—XVII стагоддзяў. Выставы мелі выключны поспех. Нават для дасведчаных гледачоў многае было адкрыццём, па-руску кажучы, "откровением". А экспанавалася далёка не ўсё, што ёсць у фондах.

Я ўпэўнены, што па кожным перыядзе гісторыі беларускага мастацтва, па кожнай культурніцкай эпосе мы маем чым здзівіць і зацікавіць гледача. Пагатоў, з часам мяняецца погляд на мастацкую спадчыну, змяняюцца ідэйныя арыенціры і эстэтычныя акцэнты. Мы нечакана знаходзім новыя якасці ў добра вядомым, класічным, хрэстаматыйным.

**— Сапраўды. Мне давялося гартаць буклет выставы беларускага жывапісу 30—50-х гадоў, якую Нацыянальны мастацкі музей ладзіў не так даўно ў Іспаніі. Шэраг твораў былі для мяне абсалютна невядомымі...**

— У гэтым сэнсе вы — не выключэнне. Колькі разоў перапісвалася наша палітычная гісторыя, столькі ж нанова пісалася і гісторыя беларускага мастацтва. Такім чынам, шмат твораў, а сярод іх і знакавыя, сімвалічныя для свайго часу, папросту выпадалі з гісторыка-культурнай храналогіі. А калі ў нейкім тэксце страчаны асобныя словы, а то і цэлыя старонкі, ён становіцца незразумелым. Увогуле тое, што стала гісторыяй, павінна быць па-за эмоцыямі. Той жа афіцыёз часоў Расійскае імперыі альбо "сацыялістычны рэалізм" савецкай эпохі сёння мае быць прадметам гістарычнага доследу, цвярозага аналізу. Спадзяюся, калі нарэшце будзь ўзведзена прыбудова да галоўнага будынка музея і мы атрымаем дадатковую экспазіцыйную плошчу, мы здолеем прадставіць беларускае мастацтва не фрагментарна (як, на жаль, атрымліваецца зараз), а ў аб'ёме дастатковым, каб глядач адчуў логіку гістарычнага працэсу і пабачыў "стрыжнявыя" творы па кожным перыядзе.

**— А чаму ў Іспанію павезлі менавіта "сацыялістычны рэалізм"? Прынята лічыць, што на Захадзе мода на яго прайшла.**

— Мы ўлічылі жаданне іспанскага боку. Дарэчы, выстава мела поспех. Адна справа — палітычны змест твора, іншая — ягоныя мастацкія якасці. Прафесіяналізму нашых мастакоў тае пары можна пазайздросціць. Да таго ж, твор мастацтва мае каштоўнасць гістарычнага дакумента.

**— Калі мы ўжо загаварылі пра Іспанію, дык я запытаю ў вас пра замежныя сувязі музея. Выставы з фондаў Нацыянальнага мастацкага ладзіліся апошнім часам збольшага не ў сталіцах, а ў правінцыйных цэнтрах еўрапейскіх краін — Нітра ў Славакіі, Мінорка ў Іспаніі і гэтак далей. Здаецца, адзінае выключэнне — Варшава, польская сталіца (але ж, будзем шчырымі, Варшава — сталіца не першага шэрагу). Гэта таму, што мы "не цягнем" на партнёрства з Луўрам ці Прада? І яшчэ. Ці эквівалентны гэты абмен: мы ім наш "залаты фонд" — беларускі жывапіс 30—50-х гадоў старажытны іканапіс, а яны нам — выставу гравюр?**

— Удакладню: выставу гравюр Гоі. А яшчэ ў нашых сценах экспанаваліся графіка і габелены Марка Шагала, графіка Хоана Міро. Яшчэ зусім нядаўна ўявіць такое можна было ў вельмі смелых марах. Але я разумею, да добрага хутка прызвычайваешся.

Паколькі Нацыянальны мастацкі музей — гэта галоўная культурніцкая скарбніца краіны, дык у адпаведнасці са сваім рангам фармальна (падкрэсліваю — фармальна!) мы стаім у адным шэрагу з Луўрам і Прада. (Гэта тое ж, як Беларусь — такі ж сябра ААН як Злучаныя Штаты ці Германія...). Але ў нефармальнай сусветнай культурніцкай "табелі пра рангі" мы, трэба шчыра сказаць, займаем месца даволі сціплае. Але і далёка не апошняе. Калі мы сёння здолеем правільна вызначыць сваю ролю і месца, дык з часам абавязкова падымемся на колькі прыступак вышэй...

Цяпер адносна кантактаў з правінцыйнымі цэнтрамі. У сённяшнім свеце многія рэгіёны развітых краін — такія, як Шатландыя ў Брытаніі, Каталонія ў Іспаніі і гэтак далей, у культурніцкім сэнсе абсалютна самадастатковая. Ды і вялікая палітыка, у тым ліку і культурніцкая палітыка робіцца не толькі ў сталіцах. Таму нашыя кантакты з рэгіянальнымі музеямі — рэч цалкам натуральная. Але, я думаю, будзе час, калі мы наладзім супрацоўніцтва і з Луўрам, і з Прада, з музеямі Рыма і Фларэнцыі.

**— А як развіваюцца вашыя стасункі з беларускімі музеямі, у прыватнасці, з Нацыянальным музеем гісторыі і культуры, музеем старажытнабеларускага мастацтва пры Акадэміі навук, Музеем сучаснага мастацтва?**

— Калі адным словам — цывілізавана. Як і належыць прафесійнікам, што, зрэшты, робяць адну справу. Хоць праблемы, канешне ж, ёсць. Хацелася б у нашай дзейнасці пазбегнуць дублявання. Скажам, у аднаго і таго ж мастака закупляе творы наш музей і Музей сучаснага мастацтва. А калі гэту суму не палавініць, і замест дзвюх добрых карцін для двух музеяў купіць адно палатно, але шэдэўр?

**— Шэдэўр для вашай калекцыі?**

— Неабавязкова. Галоўнае, каб лепшыя творы беларускага мастацтва засталіся на радзіме. І лепей калі не ў прыватным зборы, дзе іх лёс будзе не пэўным, а ў дзяржаўнай калекцыі.

**— Уладзімір Іванавіч, як вы ставіцеся да ідэі далучэння Музея сучаснага мастацтва да Нацыянальнага мастацкага музея ў якасці структурнага падраздзялення?**

— Якая заўгодна сучаснасць рана ці позна становіцца мінуўшчынай, і самы рэвалюцыйны авангард рана ці позна становіцца класікай і займае сваё месца ў гісторыі нацыянальнага мастацтва. На маю думку, Музей сучаснага мастацтва мусіць быць пляцоўкай для творчых эксперыментаў, а наш музей павінен знаёміць гледачоў з творамі, якія вытрымалі іспыт часам. У нас розныя функцыі. Музей сучаснага мастацтва фармуе ўласную калекцыю, але, магчыма, што з часам, калі гісторыкі і мастацтвазнаўцы вызначацца з культурай, якую мы сёння называем "сучаснай", лепшыя творы гэтай калекцыі трапяць у Нацыянальны мастацкі музей. Такая перспектыва падаецца мне цалкам верагоднай. На карысць такога сцэнару ведчыць сусветны досвед.

**— Ці хутка мы пабачым новыя залы музея? Калі скончыцца даўгабуд?**

— Я наўрад ці здолею назваць канкрэтны тэрмін. Адно спадзяюся, што прыбудова ўжо недзе на стадыі завяршэння. Мы разумеем эканамічныя цяжкасці дзяржавы, але ўсё ж хацелася б, каб музей як мага хутчэй набыў аблічча, адпаведнае ягонаму статусу. Музей уваходзіць у лік аб'ектаў, якія наведваюць высокія госці, першыя асобы замежных краін. А ў нас столь у плямах вільгаці... Сорамна. Нацыянальны мастацкі музей — гэта візітоўка нацыі, а ёй нельга быць зашмальцаванай.

Пашырэнне экспазіцыйных плошчаў можна будзе без перабольшання назваць другім нараджэннем музея. Бо сёння мы можам прадставіць мастацтва нашай краіны толькі фрагментарна, а трэба — панарамна.

**— Уладзімір Іванавіч, вы сябра Саюза мастакоў, прадстаўляеце секцыю крытыкі, але ж вас ведаюць і як жывапісца. Ці застаецца ў вас пасля музейных клопатаў час на ўласную творчасць?**

— Балючае пытанне. Часу мала. Калі ён з'яўляецца, я праводжу яго ў сваёй майстэрні. Штосьці з маіх работ я выношу на суд гледачоў. Так я браў удзел у міжнародным пленэры імя Бялыніцкага-Бірулі, мой партрэт Адама Міцкевіча быў у экспазіцыі рэспубліканскай выставы да юбілею паэта. Але, як ні дзіўна, мая пасада, хоць і забірае час ад творчасці, але ж і дапамагае ёй. Тут, у музеі, я кожны дзень маю перад вачыма шэдэўры. А гэта прымушае і да сябе ставіцца з большай патрабавальнасцю.

**— Дзякуй за гутарку, Уладзімір Іванавіч. Поспехаў.**

**Гутарыў Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

МУЗЫКА

# Як мінчукі прадстаўлялі "экзатычную" краіну

## ЗГАДКІ ПРА ЧЭРВЕНЬСКІ ЦУД І ДАЎНІЯ ПРАБЛЕМЫ

***Ці можа звацца Беларусь краінай фестываляў? Чаму ж не, калі фестывальны рух набывае разгон, і ў кожную часіну года, і незалежна ад надвор'я, над намі няўгледна лунае дэвіз: "Ні дня без свята!"***

***Праўда, часцяком бывае, што арганізацыйны, эстэтычны, творчы, мастацкі, прадстаўнічы ўзровень фестываляў, нават пазначаных тытулам "міжнародны", не дазваляе трактаваць гэтыя святы інакш, чым "хатнія клопаты" ды "мясцовыя радасці". Зрабіць і ў сваёй хаце, для сябе, прыгожае годнае свята — вядома, таксама справа. І не абыякая. Ды вось каб яшчэ кампанію добрую сабраць, ды гасцей здзівіць-парадаваць, ды каб тыя сваё здзіўленне-захопленасць у вялікі свет панеслі...***

***Ат, што казаць: з міжнародным розгаласам нашых фестываляў пакуль далёка не ўсё так, як хацелася б іх арганізатарам і ўдзельнікам. Для вялікага свету Беларусь і яе прафесійнае мастацтва, на жаль, раскрываецца хутчэй дзякуючы выступленням нашых артыстаў на замежных імпрэзах, а не гэтак жаданаму, ды пакуль уяўнаму наплыву цікаўных іншаземцаў у маладую "фестывальную" краіну.***




Пісалі мы пра гэта неаднойчы — штораз, калі з'яўлялася нагода папоўніць свой досвед у фестывальным жыцці новай інфармацыяй і прыгадаць старыя праблемы. Цяпер такой нагодай сталася размова з Сяргеем БАГДАНАВЫМ, рознабакова адукаваным музыкантам, кампазітарам, гукарэжысёрам, дырыжорам.

Дзякуючы яго працы як гукарэжысёра над запісамі для CD, і не толькі беларускіх выканаўцаў, С. Багданава ведаюць спецыялісты-музыканты і ў Германіі, і ў ЗША, і ў Расіі, і ў Польшчы. Таму менавіта на ягонае імя паступіла незвычайная прапанова ад германскага прадзюсера — аднаго з арганізатараў элітарнага міжнароднага фестывалю...

**— Сяргей, падзея, да якой вам давялося спрычыніцца, адбылася мінулым летам. Але інфармацыя пра яе, мабыць, будзе для нашага чытача актуальнай, тым болей, што леташні "цуд" можа паўтарыцца ўжо ў новым годзе, стагоддзі...**

— Для мяне сапраўды была цудоўнай нечаканасцю прапанова — забяспечыць удзел беларускіх музыкантаў у прэстыжным фестывалі. Месца яго правядзення — Люксембург. Праект міжнародны, і таму на яго ажыццяўленне працуюць прадзюсеры розных краін, у тым ліку Германіі, але ўсё адбываецца пад патранажам першай асобы Люксембурга — вялікага герцага. Сярод спонсараў — багатыя сусветна вядомыя фірмы, банкі. Таму фестываль, які існуе ўжо чвэрць стагоддзя, з 1975 г., і ладкуецца кожнае лета, у сезон адпачынкаў, атрымліваецца выбітны, раскошны. Ён збірае сусветных зорак у розных жанрах сур'ёзнай музыкі, прычым праграмы адрозніваюцца непаўторнасцю, бо адно і тое ж імя другі раз у склад удзельнікаў ужо не трапляе.

На фестывалі-2000 г., напрыклад, выступаў Лонданскі філарманічны аркестр пад кіраўніцтвам Лорына Мазеля — выконвалася сімфонія Дворжака "З Новага Свету" і Сёмая бетховенская. Люксембургскі філарманічны аркестр іграў Сёмую сімфонію Малера. Быў англійскі хор, які выконваў музыку барока, "Крэмерата" Гідона Крэмера — музыку Шнітке, Моцарта, Віла-Лобаса, П'яцолы. Прыязджаў польскі маэстра — кампазітар Кшыштаф Пендэрэцкі. Далі канцэрты колішнія савецкія музыканты: скрыпач Віктар Траццякоў і віяланчэлістка Карынэ Георгіян...

**— Спіс музычных славутасцяў можна доўжыць і доўжыць, у чым я пераканалася, пагартаўшы багата ілюстраваную, шыкоўна выдадзеную праграму фестывалю. Госці выступалі ў оперы, у храмах, у тэатральных залах, у кансерваторыі. Гучалі пераважна творы акадэмічных жанраў, зрэдчас — джаз... Якім жа чынам у элітную кампанію патрапілі прадстаўнікі Беларусі?**

— Вось і я шукаў адказ на гэта пытанне... Калі мяне знайшоў германскі прадзюсер і паведаміў, што арганізатары фестывалю ў Люксембургу бяруцца фінансаваць паездку і знаходжанне нашых музыкантаў там, ён вылучыў пэўныя ўмовы. Трэба было прадставіць ад Беларусі спеўны ансамбль, складзены абавязкова з мужчынскіх галасоў, не больш за восем чалавек, з беларускім і старажытнарускім харавым рэпертуарам. Натуральна, я звярнуўся да Кірылы Насаева, мастацкага кіраўніка мужчынскага камернага хору "Унія". Але ён ад прапановы выступіць у Люксембургу адмовіўся: дзеля гэтага давялося б скараціць склад калектыву амаль утрая, перакроіваць праграму, а да ўсяго "Унія" мела на той час іншыя гастрольныя планы.

Такім чынам, я мусіў сам збіраць ансамбль мужчынскіх галасоў, з якімі ў Мінску, асабліва ў летні час, — праблема: хлопцы падаюцца на заробкі ў камерцыйныя калектывы, што маюць папулярнасць за мяжой. Гэта называецца пяюць у "казаках-мараках". Канчатковы склад сфарміраваў незадоўга да ад'езду, прычым з-за абмежаванага месца ў мікрааўтобусе мусілі скараціць ансамбль да сямі чалавек. Дзякуй Кірылу Насаеву: дапамог з рэпертуарам. Падрыхтавалі старадаўнія беларускія песняспевы ў ягонай аранжыроўцы, прынамсі, з "Супрасльскага ірмалагіёну". Дапамог нотным матэрыялам і мастацкі кіраўнік аб'яднання "Беларуская Капэла" Віктар Скорабагатаў. У нашым невялічкім калектыве былі пераважна выпускнікі дырыжорска-харавога аддзялення Акадэміі музыкі, вучылі хутка. Назву для ансамбля ўзялі "Fuga Temporum" — бег часу, бег часоў. Наша "імя" трапіла, як мы маглі заўважыць, у праграму, а вось зрабіць і выслаць фота, на жаль, не паспелі...

**— "Бег часу" апанаваў?**

— Час прыспешваў. Дарога заняла больш як 30 гадзін. Раніцай прыехалі, размясціліся ў гатэлі, паснедалі — і на рэпетыцыю ў кірху. Потым рэпеціравалі ў гатэлі, наступнай раніцай — зноў у кірсе, затым канцэрт, банкет. Пераначавалі — і паехалі. Так што вольнага часу для знаёмства з наваколлем і не было. Жылі мы на тэрыторыі Германіі, за тры мінуты хады ад гатэля пераадольвалі мост — і апыналіся ўжо ў Люксембургу. Ніякіх, нават сімвалічных, "кардонаў". Мяжу пазначаюць толькі адпаведныя дзяржаўныя сцягі ды надпісы.

Паводле ўмоў мы падрыхтавалі праграму на паўгадзіны і падзялілі яе на тры блокі. Адкрылі канцэрт 20-мінутным выступленнем: старажытныя пласты харавой музыкі, знаменныя ды дзямественныя распевы, беларускія, рускія. Потым саступілі пляцоўку сваім "суседзям" па канцэрце — в'етнамскім музыкантам. Апроч іх у кампаніі з намі былі прадстаўнікі Ізраіля і Канады. Дарэчы, усе яны былі падобныя медытацыйнасцю прадстаўленага мастацтва: в'етнамцы спявалі пад акампанемент электронікі, ізраільская музыка ўспрымалася як нешта фалькларна-дэкаратыўнае, Канаду прадстаўляла ўраджэнка Чукоткі — дэманстравала шаманскія рытуалы, з характэрнымі спевамі, з выкарыстаннем масак... Ну, а мы, апроч старажытных спеваў, выканалі яшчэ духоўныя канты і фрагменты з харавых канцэртаў, а на трэці выхад падабралі творы з салірuючымі галасамі. Зала кірхі — на 800 чалавек, агромністае памяшканне! Давялося наш ансамбль з дапамогай тэхнікі "агучыць", а калі ўся прастора гэтай царквы запоўнілася харавымі спевамі, эфект атрымаўся даволі яркі.

Так, гэты фестываль каштоўны сусветнымі зоркамі. І публіка збіраецца элітная, заможныя турысты, верх еўрапейскага грамадства. Беларускія музыканты ўпершыню патрапілі сюды і апынуліся ў адным канцэрце з кампаніяй, пагадзіцеся, экзатычнай. Але ж нам замаўлялі чамусьці не фальклор, а духоўную харавую музыку. Відаць, хацелі даведацца, **што** ёсць гэтая "экзатычная" Беларусь у плане камернай акадэмічнай творчасці. Напэўна, запрасілі нас для знаёмства, бо пакуль для заходніх дзяржаў Беларусь — малавядомая краіна.

**— Але ж такіх выпадковых знаёмстваў недастаткова, каб у хуткім часе адкрыць Захаду рознабаковую культуру Беларусі, наша багатае музычнае мастацтва...**

— Ведаеце, адкуль назва "Fuga Temporum" узялася? Я прыдумаў яе раней, і для зусім іншага праекта. У свой час на базе нашага Саюза кампазітараў я спрабаваў зладкаваць творчую лабараторыю. Ідэя была — сабраць моцных ініцыятыўных музыкантаў пад адно крыло, дапамагаць ім у гастролях, арганізаваць іх самавіты выхад на міжнародную сцэну, каб яны не разбягаліся, як цяпер вядзецца, па нейкіх дробных пунктах, не зараблялі на вуліцах замежных гарадоў... Музыканты нашы самі вінаваты, што іх прымаюць там "за дзякуй": трэба ж мець пачуццё ўласнай годнасці, патрабаваць ганарар таго ўзроўню, які прыняты для іх калег у свеце. Бо нашы музыканты — у гэтым усе пераканаліся — не горшыя за іншаземных, а мо нават і лепшыя!

**— І што ж ваша ідэя?**

— Была ідэя: займацца прадзюсерствам, запісамі, выданнем нот на базе Саюза кампазітараў. Ды аказалася, што гэта нікому непатрэбна. Трэба толькі "выбіваць" грошы, а не займацца мэтанакіраванай працай, якая ўрэшце ўзняла б і прэстыж самога саюза. Уражанне такое, што кампазітары задавальняюцца тым, што перападзе. У прадпрымальных — скіраванасць на "папсу". У астатніх — панылыя твары. Многія праблемы існуюць і не вырашаюцца яшчэ і з-за таго, што калегі элементарна не паважаюць адно аднаго. Хто бывае на канцэртах? Самі аўтары, іх сваякі ды сябры, якія на вачах у астатняй публікі пакідаюць залу адразу пасля выканання ўласнага твора. Які тут камертарый? Самі сабе яму выкапалі. А маглі б згуртавацца ў агульнай справе, ладкаваць такія жаданыя фестывалі сучаснай музыкі, рабіць іх сур'ёзнымі, цікавымі, з прыцягненнем міжнародных сіл. Праблема не ў грашах, а ў прыстойнасці арганізатараў: мусіць быць сталая і рэгулярная праца аргкамітэта фестывалю, пошукі сродкаў і творчых сіл, адбор нотнага матэрыялу... На жаль, Беларускае таварыства сучаснай музыкі не змагло захаваць сваю юрыдычную самастойнасць і мала што цяпер значыць...

**— Сяргей, вы закранулі праблему, пра якую мы так або інакш гаварылі на старонках "ЛіМа" ўвесь мінулы год. І гаворка, думаю, будзе працягвацца. Аднак, давайце, скончым пра фестываль у Люксембургу: вы дэбютавалі там і як хормайстар, і як прадзюсер. Што далей?**

— Спадзяюся на працяг кантактаў з іншаземнымі калегамі. Даслаў ім інфармацыю пра беларускія калектывы, рыхтую дэманстрацыйны CD з рознымі нашымі выканаўцамі. Падчас візіту ў Люксембург абгаварваліся перспектыўныя праекты, але пра нешта канкрэтнае казаць зарана. Трэба чакаць.

**— Магчыма, "Fuga Temporum", шматзначнае і сімвалічнае імя, будзе шчаслівым знакам новага часу ў музычным жыцці Беларусі?**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

## Летапісец краю



**Менавіта ім з'яўляецца Уладзімір Ліўшыц — дырэктар Горацкага гістарычна-этнаграфічнага музея, дацэнт кафедры маркетынга і права Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі. А яшчэ член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі па вывучэнні нацыянальных меншасцей, навуковы сакратар гэтай акадэміі, старшыня Горацкага раённага грамадскага краязнаўчага аб'яднання "Бацькаўшчына". Але больш за ўсё яго ведаюць як летапісца горацкай зямлі, Магілёўшчыны.**

**Пасля вучобы ў аспірантуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта У. Ліўшыц у 1980 годзе паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю па праблеме сацыяльных вынікаў аграпрамысловай інтэграцыі.**

**А марыў яшчэ са школы стаць краязнаўцам. І гэтай мары не здраджваў ніколі: ні тады, калі быў студэнтам гістарычнага факультэта Магілёўскага педінстытута, ні ў час працы настаўнікам Панкратаўскай сярэдняй школе, ні нават падчас службы ў арміі.**

**Аднак найбольш яго талент даследчыка-краязнаўца праявіўся ў у час працы ў БДСГА і на пасадзе дырэктара Горацкага гістарычна-этнаграфічнага музея. Ім знойдзена шмат архіўных дакументаў, якія адкрылі новыя старонкі з гісторыі Горак і раёна. Гэта ён знайшоў у дакументах гербавага аддзялення дэпартамента геральдыкі ўрадавага сената Расійскай імперыі, што ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбургу, Герб горада Горкі, а ў фондах Цэнтральнага ваенна-гістарычнага архіва Расіі — дакументальныя пацвярджэнні таго, што ў Горках тройчы быў Пётр Першы.**

**У 1984 г. сабраны Уладзімірам Майсеевічам матэрыял быў абагульнены ў кнізе "Горки. Историко-экономический очерк", якая выйшла ў выдавецтве "Беларусь", а ў 1989-м у дапоўненым варыянце было перавыдадзена ў "Полымі". Пасля было і шэраг іншых выданняў. Сярод іх найбольш значнымі з'яўляюцца "Летапіс горада Горкі" (1995), "Памяць" (1997).**

**Вялікі ўклад У. Ліўшыца ў вывучэнні і асвятленні гісторыі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Ён адзін з аўтараў некалькіх кніг аб ёй.**

**Шырокае і разнастайнае кола захапленняў Уладзіміра Майсеевіча. Сярод іх асобнае месца займае літаратуразнаўства ці, як ён сам кажа, пошукі вакол Горацкага Парнаса. Ім знойдзены цікавыя звесткі аб сувязях студэнтаў Горы-Горацкага земляробчага інстытута з Т. Шаўчэнкам, Л. Талстым, А. Чэхавым і іншымі. Ім жа адкрыты новыя факты з жыцця Я. Купалы, Я. Коласа, М. Гарэцкага і В. Каваля. Гэтыя знаходкі былі абагульнены ў брашурах "Раскопкі вакол Горацкага Парнаса" (1992), "Максім Гарэцкі — жыццё і творчасць" (1993) і іншых. А сёлета выдадзена літаратуразнаўчая кніга "Раскопкі вакол Горацкага Парнаса", у якой абагульнена 30-гадовая літаратуразнаўчая праца. Усяго ў У. Ліўшыца 37 кніг, брашур, буклетаў.**

**Яшчэ адной ініцыятывай У. Ліўшыца стала правядзенне Гарэцкіх чытанняў, прысвечаных вывучэнню жыцця і творчасці М. Гарэцкага.**

**Акрамя тых здзяйсненняў, што былі адзначаны вышэй, збылося галоўнае адкрыццё ў Горках гістарычна-этнаграфічнага музея. Не без яго ўдзелу адкрыты і філіялы музея ў многіх вёсках раёна. На чарзе стварэнне ў Горках прыроднага гісторыка-літаратурнага запаведніка, на тэрыторыі акадэмгарадка, які мог бы ўвайсці ў "Залатое кола" Беларусі. Яшчэ ва Уладзіміра Майсеевіча ёсць мара мець пры музеі літаратуразнаўчы аддзел.**

**Нельга не адзначыць і такі бок яго дзейнасці, як падтрымка творчых людзей горацкай зямлі і не толькі. З яго дапамогай, па ліцэнзіі, якой валодае Горацкі аддзел культуры, надрукаваны не адзін зборнік вершаў Н. Кавалёвай, дзве кнігі вершаў С. Лоцманава. У 1995 г. выйшаў першы зборнік мастацкіх твораў "Галасы з Горацкага Парнаса".**

**А наперадзе ва Уладзіміра Майсеевіча шмат якіх задум. Верыцца, што яны абавязкова будуць здзейснены, бо У. Ліўшыц заўсёды даводзіць пачатае да канца.**

**А. ПУГАЧ,**
**старшы выкладчык Беларускай сельгасакадэміі, старшыня рады літаратурнага аб'яднання "Парнас"**

***Мікола Мушынка (Мікалай Іванавіч Мушынка) нарадзіўся 20 лютага 1936 года на Усходняй Славаччыне ў сялянскай сям'і. У 1954 годзе скончыў украінскую 11-годку ў г. Прэшаве. Сваю далейшую адукацыю працягваў на перакладчыцкім аддзяленні Інстытута рускай мовы і літаратуры ў Празе і адначасова наведваў лекцыі ўкраіністыкі вядомага прафесара Карлавага універсітэта ў Празе Івана Панькевіча.***

***З 1960 года М. Мушынка працуе ў нядаўна створаным Кабінеце народнай славеснасці пры кафедры ўкраінскай мовы і літаратуры філасофскага факультэта Прэшаўскага універсітэта, адначасова стаўшы аспірантам Пражскага Карлавага універсітэта па спецыяльнасці славянская фальклярыстыка. У 1967 абараніў званне кандыдата мастацтвазнаўства, а праз год стаў доктарам філасофіі. Пасля 1968 года М. Мушынка амаль на 20 гадоў быў адлучаны ад педагагічнай дзейнасці.***

***У 1990 годзе змог вярнуцца на кафедру ўкраінскай мовы і літаратуры ў Прэшаўскім універсітэце, дзе і працуе да гэтага часу.***

***М. Мушынка ўзначальвае Асацыяцыю ўкраіністаў Славакіі і Навуковае таварыства імя Т. Шаўчэнкі ў Славацкай Рэспубліцы.***

***Вынікам нястомнай навуковай працы М. Мушынкі з'яўляецца 48 аўтарскіх кніг, зборнікаў і брашур, звыш 1000 навуковых артыкулаў і публікацый. Яго працы выходзілі ў розных краінах свету — ЗША, Канадзе, Францыі, Германіі, Югаславіі, Чэхіі, зразумела, і на Украіне, і ў Славакіі.***

***У снежні 1997 года Мікола Мушынка быў абраны правадзейным членам Нацыянальнай акадэміі навук Украіны.***

***У 1996 годзе за вялікі асабісты ўклад у развіццё ўкраінска-славацкіх гістарычных і культурных сувязяў Мікола Мушынка ўзнагароджаны Ганаровай адзнакай прэзідэнта Украіны.***

***Прапануемы артыкул гаворыць аб разнастайнасці навукова-даследчых пошукаў шаноўнага аўтара.***

**Віталь МАСЛОЎСКІ,**
**выкладчык кафедры славістыкі Прэшаўскага універсітэта (Славакія)**

# Не чужы для беларусаў

## Іван КРАСКОЎСКІ Ў ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫМ ЖЫЦЦІ УКРАІНЫ І БЕЛАРУСІ

Імя беларускага, а разам з тым і ўкраінскага грамадскага дзеяча, гісторыка, палітыка, эканаміста Івана Ігнатавіча Краскоўскага (1880—1955) у сучаснай беларускай гістарыяграфіі бадай што невядома. Ва ўкраінскіх энцыклапедыях, выдадзеных на Захадзе, артыкулы пра яго заканчваюцца паметкай: "У 30-х гадах быў арыштаваны, яго далейшы лёс невядомы..."

У гістарыяграфічным друку Украіны апошніх гадоў імя Івана Краскоўскага часам упамінаецца, аднак яго біяграфія пасля 1930 года заставалася белай плямай. У нядаўна выдадзеным 2-томным зборніку дакументаў і матэрыялаў пра першы парламент Украінскай Народнай Рэспублікі — Украінскую Цэнтральную Раду (Кіеў, 1997 г.) прозвішча Івана Краскоўскага згадваецца ў 30-ці дакументах. У рэдакцыйных заўвагах пра яго пазначана (зноў-такі) "У 30-х гадах быў рэпрэсіраваны. На месцы даты смерці стаіць пытальнік).

Мала каму вядома, што апошнія гады жыцця І. Краскоўскі правёў у Браціславе (Славакія), дзе памёр і пахаваны.

Зараз Івана Краскоўскага ўспамінаем з нагоды 120-годдзя з дня яго нараджэння і 45-ых угодак са дня смерці.

Гэтая публікацыя грунтуецца перш за ўсё на ўспамінах яго дачкі Людмілы Краскоўскай (1904—1999), якія былі выдадзены невялікім накладам на ўкраінскай мове, архіўных крыніцах, перыядычным друку.

Іван Краскоўскі нарадзіўся 24 чэрвеня 1880 года ў вёсцы Дубучы (беларускае Падляшша на ўскраіне Белавежскай пушчы). Хаця як сын святара ў 1903 годзе ён і скончыў праваслаўную духоўную семінарыю ў Вільні, але кар'ера духоўніка яго не прыцягвала. Адразу пасля заканчэння семінарыі ажаніўся з дачкою афіцэра царскай арміі (выхадца з Украіны, ветэрынара з Каменца-Падольскага) Валянцінай Сакольскаю, якая вучылася ў прэстыжнай жаночай школе ў Вільні. У тым жа 1903 годзе І. Краскоўскі пачаў вучыцца на гісторыка-філалагічным факультэце Варшаўскага універсітэта, дзе неўзабаве прыняў удзел у рэвалюцыйным руху. У час рэвалюцыйных хваляванняў у 1905 годзе быў арыштаваны, а потым і выключаны з універсітэта. Пасля вызвалення (выхаду) з турмы працягвае вучобу на гісторыка-эканамічным факультэце Петраградскага універсітэта. Пасля заканчэння універсітэта ў 1908 годзе вяртаецца ў Вільню, дзе працуе настаўнікам гісторыі ў прыватных мужчынскіх гімназіях, у адной з якіх быў на пасадзе намесніка дырэктара. Дарэчы, у межах сваёй вучэбнай і пазашкольнай дзейнасці арганізаваў у абедзвюх гімназіях футбольныя секцыі. Былі то, не толькі першыя футбольныя каманды ў горадзе, але, мабыць, і ва ўсёй Літве. Сям'я Краскоўскіх жыла ў Вільні ў раёне АнтаКоль на Вясновай вуліцы. У 1904 годзе ў сям'і нарадзілася дачка Людміла. Яшчэ праз 6 гадоў сын Сяргей, а пазней сын Мсціслаў.

У пачатку першай сусветнай вайны, калі нямецкія войскі наблізіліся да Вільні, І. Краскоўскага мабілізавалі ў рускую армію і камандзіравалі (накіравалі) на фронт. Яго сям'я выехала да сваякоў жонкі ў г. Навахаткі Харкаўскай губерні. Пасля адступлення немцаў сям'я разам з ужо дэмабілізаваным бацькам вяртаецца ў Вільню. Іх дом, бібліятэка, іншая маёмасць былі знішчаны. Сям'я была вымушана пераехаць жыць у рабочы квартал Звярынец. Вясной 1916 года ў сувязі з ваеннымі падзеямі ўсе зноў пераехалі да дзеда ў Навахаткі, а ў восень — у Кіеў, дакладней, у яго прыгарад (прадмесце) Пушча-Водзіца.

І. Краскоўскі быў актыўным членам партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў).

Яшчэ ў час сваёй першай паездкі на Украіну (восенню 1914 г.) І. Краскоўскі наладзіў сувязі з антыцарскім украінскім палітычным рухам.

У сувязі з паражэннямі на фронце ў 1914—1915 гг. царская ўлады вымушаны былі пайсці на некаторыя ўступкі ў сваёй нацыянальнай палітыцы ў адносінах да Украіны. Прычына была яшчэ і ў тым, што на Усходнюю Украіну перахала шмат жыхароў з Галіцыі і Букавіны. У дапамогу ім летам 1915 года была створана гуманітарная арганізацыя "Таварыства дапамогі насельніцтву поўдня Расіі, пацярпеламу ад ваенных дзеянняў".

У гэты ж час свядомая частка ўкраінскай інтэлігенцыі стварыла Камітэт Паўднёва-Заходняга фронту Усерасійскага Саюза Гарадоў, які неўзабаве ўзначаліі прадстаўнікі Украіны (верхавенства ў якім неўзабаве ўзялі ў свае рукі прадстаўнікі Украіны. Сярод іх, акрамя С. Пятлюры, Д. Дарашэнкі, М. Грушэўскага, быў і Іван Краскоўскі).

І. Краскоўскі меў непасрэднае дачыненне да стварэння самастойнага аддзялення Камітэта — "Дапамога дзецям", стаўшы потым яго кіраўніком. Гэтая арганізацыя спрыяла эвакуацыі дзяцей з раёнаў ваенных дзеянняў — Заходняй Украіны. У полі грамадскай працы І. Краскоўскага былі і клопаты пра ваеннапалонных, якіх на тэрыторыі Украіны было больш як 30 тысяч. У Пушчы-Водзіцы, дзе жылі тады Краскоўскія, таксама быў лагер ваеннапалонных. Менавіта там члены сям'і пазнаёміліся з палонным славакам Марцінам. Ён часам аказваў нейкую дапамогу сям'і Краскоўскіх. То былі першыя кантакты ўкраінцаў са Славакіяй.

Дэпутат Д. Дарашэнка (1882—1951) на пасяджэнні Камітэта Украінскай Цэнтральнай Рады 24 красавіка 1917 года прапанаваў кандыдатуру І. Краскоўскага на пасаду абласнога камісара Цярнопальскай губерні, характарызуючы яго такімі словамі: "Па паходжанні ён беларус, але падтрымлівае нашу лінію, вельмі прыстойны чалавек". Кандыдатуру І. Краскоўскага безагаворачна падтрымаў і тадышні Старшыня Цэнтральнай Рады Міхайла Грушэўскі. Калі пры галасаванні гаворка зайшла пра выбар паміж І. Краскоўскім і П. Лынічэнкам, Грушэўскі акцэнтаваў: "Краскоўскі на 100% лепшы, як Лынічэнка". Неўзабаве 8 верасня 1917 года Цэнтральная Рада зацвердзіла І. Краскоўскага намеснікам генеральнага сакратара ўнутраных спраў Цэнтральнай Рады.

З тых часоў ён стаў удзельнікам усіх пасяджэнняў Рады. 13 верасня 1917 года быў прызначаны за члена гаспадарчай камісіі генеральнага сакратарыята. У верасні 1917 года І. Краскоўскі быў абраны дэлегатам на З'езд народаў Украіны ў Кіеве. Не хто іншы, як І. Краскоўскі ўжо 3 лістапада 1917 года інфармаваў генеральны сакратарыят пра катастрафічную сітуацыю на Падоллі, дзе дэзерціры і салдаты разбуралі сёлы, мястэчкі, рабавалі мясцовае насельніцтва.

На падставе IV універсалу Украінскай Цэнтральнай Рады з 22 студзеня 1918 года генеральны сакратарыят быў трансфармаваны (рэфармаваны) у Раду народных Міністраў. Такім чынам І. Краскоўскі быў прызначаны на пасаду намесніка Старшыні Рады Міністраў Украіны і Міністра ўнутраных спраў Уладзіміра Вінічэнкі. Пасля гэтага ў абавязкі яго дзейнасці ўваходзіла апрацоўка важнейшых дакументаў унутрыдзяржаўнага і міжнароднага значэння. Яшчэ перад тым 5 снежня 1917 г. У. Вінічэнка прызначыў Івана Краскоўскага (разам з І. Удавічэнкам) упаўнаважаным ад Украінскай Народнай Рэспублікі пры падпісанні Брэсцкага міру. Іх падарожжа да месца прызначэння было марным, бо немцы перапынілі курсіраванне (рух) цягнікоў (у напрамку да Брэста). Як успамінае Л. Краскоўская, бацька хутчэй быў задаволены тым, што не падпісваў той ганебны мір.

І. Краскоўскі займаў высокія дзяржаўныя пасты і вырашаў шмат важных задач.

Напрыклад, восенню 1917 года яго заданнем было ліквідаваць архіў "Саюза гарадоў..." Дзеля гэтага ён з сям'ёй пераехаў у горад Прылукі, дзе знаходзілася значная частка архіва. Там, дарэчы, ён пазнаёміўся з чэшскімі легіянерамі. Пасля выканання задання ён з сям'ёй вярнуўся ў Кіеў і далей дапамагаў украінскай уладзе.

У лістападзе 1918 г. пасля звяржэння гетманскай улады П. Скарападскага прэм'ер У. Вінічэнка прызначыў І. Краскоўскага кіраўніком аддзела Дырэкторыі Украінскай Народнай Рэспублікі. Летам 1921 года І. Краскоўскі пераехаў з Вены, дзе жыў разам з сям'ёй з вясны 1920, у Берлін, адкуль пасля трохмесячнага знаходжання ён вярнуўся ў Вільню, якая ў гэты час ужо была пад уладай Польшчы. У Вільні працаваў настаўнікам, выкладаў гісторыю Беларусі ў беларускай гімназіі. Адначасова выконваў значныя функцыі ў грамадскім жыцці беларускай абшчыны ў Літве. Быў старшынёй Беларускага народнага камітэта, сакратаром рады школ, Старшынёй Беларускага кааператыўнага саюза. Польскія ўлады, якія ўважліва сачылі за яго дзейнасцю, былі супраць такіх захадаў І. Краскоўскага. У пачатку 1922 г. І. Краскоўскі быў арыштаваны і неўзабаве ў складзе групы літоўскіх і беларускіх патрыётаў без суда дэпартаваны ў Латвію.

Летам 1922 года латышскія ўлады пасля доўгіх перамоў усё ж такі дазволілі адкрыццё беларускай гімназіі ў горадзе Даўгаўпілсе. Яе дырэктарам і стаў Іван Краскоўскі. У хуткім часе яму ўдалося аднавіць будынак пасля пажару, завезці абсталяванне і мэблю, прыдбаць розныя прылады школьнай працы, арганізаваць калектыў настаўнікаў, прыцягнуць вучняў.

Адначасова быў старшынёй Беларускага народнага камітэта ў Латвіі (Таварыства "Бацькаўшчына"). Але і тут патрыятычная дзейнасць І. Краскоўскага ўвесь час была пад пільным наглядам латышскай улады. У 1924 годзе І. Краскоўскага арыштавалі і разам з іншымі беларускімі настаўнікамі аддалі пад суд. Праз год суд усё ж прызнаў іх невінаватымі, і яны былі вызвалены з турмы. Але разам з тым І. Краскоўскага як чужынца (меў пастаяннае літоўскае грамадзянства) выслалі і з Латвіі.

У Літву ён ехаць не мог, бо там ён быў "persona non grata". Можна было падацца ў Беларусь Савецкую, але Краскоўскі накіроўваецца ў Прагу, якая ў той час станавілася цэнтрам украінскай і беларускай эміграцыі. Яшчэ ў верасні 1921 года ў Празе праходзіла беларуская народная палітычная канферэнцыя, у якой удзельнічалі вядомыя (значныя) прадстаўнікі беларускага палітычнага жыцця: прэзідэнт БНР Петра Крычэўскі, старшыня

*(Працяг на стар. 15)*

# Невядомы прэм'ер

БЫЛОЕ

***Гісторыю культуры нашай Радзімы ў недалёкім мінулым, на жаль, чысцілі, размалёўвалі і перапісвалі, з яе выкідаліся цэлыя пласты. Так вынішчаўся з памяці народа яго гонар. Калі, напрыклад, запытацца ў сённяшніх беларускіх прафесійных музыкантаў, ці вядомае для іх імя — Вячаслаў Селях, не многія адкажуць станоўча. Яшчэ менш тых, хто зможа расказаць пра ўклад В. Селяха ў развіццё нацыянальнай культуры Беларусі.***

## ВЫТОКІ

Вячаслаў Антонавіч Селях нарадзіўся 25 снежня 1885 г. у мястэчку Лагойск у сям'і сталяра. У 9-гадовым узросце пайшоў вучыцца ў мясцовую пачатковую школу, якую скончыў праз тры гады.

Настаўнік, заўважыўшы ў В. Селяха добры і моцны дыскант, прапанаваў яму далучыцца да школьнага царкоўнага хору. На працягу чатырох гадоў, аж да мутацыі голасу, Вячаслаў быў вядучым у гэтым хоры. Жывучы пры царкве, ён заўсёды ўдзельнічаў у набажэнствах як спявак-псаломшчык. Юнаком 14-15 гадоў вучыў дзяцей за настаўніка ў царкоўнай школе пісьменства вёскі Міхалова паблізу Лагойска. Вучняў было 18, з іх Вячаслаў арганізаваў трохгалосы хор, які спяваў літургіі ў царкве і школьныя дзіцячыя песні. За гэты свой хор В. Селях ад павятовага наглядальніка царкоўных школ святара В. Гарбацэвіча атрымаў першую сваю ўзнагароду — 10 рублёў.

У 1901 г. паступіў у Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю: на ўступным экзамене здзівіў камісію, праспяваўшы магутным бас-барытонам "Спасі, Госпадзі, людзі Твая". Апошнія два гады вучобы ў семінарыі В. Селях быў рэгентам у мясцовай царкве. Рэлігійнае выхаванне і веданне законаў царкоўнай музыкі з часам прывялі яго да ўласнай кампазітарскай творчасці.

Паспяхова скончыўшы семінарыю, ён пачаў працаваць настаўнікам у народнай школе ў Мегялянах (Віленская губерня). З 1906 г. працуе ў г. Лібава ў чыгуначнай школе, адначасова — рэгентам хору Чыгуначнай, а пасля Аляксееўскай царквы. Спрабуе свае сілы як спявак, выступае з хорам у свецкіх паказах. Наведвае сімфанічныя канцэрты, цікавіцца спектаклямі з удзелам выдатных оперных спевакоў, якія прыязджаюць у Лібаву. Але В. Селях мае цудоўны Богам дадзены голас і вырашае развіваць свае музычныя здольнасці.

## РОЎНЫ СЯРОД ПЕРШЫХ

Пры канцы жніўня 1910 г., апантаны жаданнем зрабіцца прафесійным оперным выканаўцам, В. Селях едзе ў Пецярбург, паступае ў клас кансерваторыі, якім кіраваў прафесар Габель. Аднак, з прычыны хваробы прафесара, перайшоў у клас выдатнага опернага спевака І. Тартакова, на вядомыя музычна-драматычныя "Курсы Рапгофа". Тут В. Селях атрымаў пастаноўку і апрацоўку свайго выдатнага голасу, вызначанага як драматычны барытон-бас.

Яшчэ студэнтам, у 1913—14 гг. ён спрабаваў выступаць на прафесійнай сцэне. У новым тады тэатры "Музыкальная Драма", дзе кіраўніком быў Лапіцкі, а дырыжорамі такія славутыя асобы, як Арбенін, Шнеефохт, выконваў спачатку ролі невялікія, другога плана, а потым і больш адказныя. На сцэне гэтага тэатра гучаў ягоны голас у операх "Кармэн", "Багема" і інш.

Скончыўшы на "выдатна" вучобу ў кансерваторыі, В. Селях узяў удзел у конкурсе-іспыце, каб трапіць у склад артыстаў імператарскага Марыінскага тэатра. Спяваць на сцэне Марыінкі, аднаго з лепшых тэатраў свету, — мара кожнага артыста! Пасля першага тура з 365 канкурэнтаў засталося 63. З іх адказная камісія на чале з вядомым і аўтарытэтным дырыжорам тэатра Э. Напраўнікам пакінула толькі дваіх: Селяха (барытон) і Лебедзеву (лірычнае сапрана). Адразу ж яму быў прызначаны дэбют у галоўнай ролі ў оперы "Князь Ігар". Паспяхова вытрымаўшы яго, што адзначаў і аўтарытэтны часопіс "Тэатр і мастацтва", В. Селях быў залічаны ў склад опернай трупы як саліст на першыя ролі.

Так, з невялічкага беларускага мястэчка Лагойска сялянскі хлопчык узняўся на мастацкі Алімп. Здавалася, што далей будуць толькі ружы. Ён спяваў як прэм'ер-барытон на сцэне Марыінкі разам са славутымі опернымі артыстамі таго часу: Шаляпіным ("Хаваншчына", "Князь Ігар", "Варожая сіла"), Смірновым ("Рыгалета", "Багема", "Манон"), Алчэўскім ("Пікавая дама", "Прарок"), Яршовым ("Кармэн", "Хаваншчына") і інш., у пастаноўках Меерхольда, Багалюбава, Лапіцкага, Аленіна, Шаляпіна, Лоскага. За 9 гадоў працы ў Марыінцы (1915—24 гг.) В. Селях выканаў больш за 25 роляў. Найбольш удалымі былі Барыс Гадуноў, князь Ігар, Рыгалета ў аднайменных операх, Шаклавіты ў "Хаваншчыне", Томскі ў "Пікавай даме", Мізгір у "Снягурачцы". Крытыкі адзначалі магутны добра падрыхтаваны голас, дакладную фразіроўку, выразную дыкцыю як адметныя рысы В. Селяха. Каб паўней развіць у сабе якасці драматычнага акцёра (бо опера перш за ўсё — музычная драма), В. Селях выступаў на працягу двух сезонаў (1916—18 гг.) у спектаклях Александрынскага драматычнага тэатра.

Неўзабаве выявіліся і арганізатарскія здольнасці В. Селяха. Праз 2 гады працы ў Марыінцы ён трапіў у лік кандыдатаў у мастацка-рэпертуарны камітэт тэатра. У 1918-м увайшоў у склад членаў СДО (Савета Дзяржаўнай Оперы) ад артыстаў-салістаў, разам з Шаляпіным, Яршовым... СДО быў вышэйшым органам самакіравання Дзяржаўнай оперы.

Не абмінулі В. Селяха і бальшавікі, якія прыйшлі да ўлады. Яны звярнулі ўвагу на яго магутныя арганізатарскія здольнасці, і наркам Луначарскі прапанаваў яму падрыхтаваць трупу з ліку артыстаў Марыінскага і Александрынскага тэатраў, для выступлення на фронце: ішла грамадзянская вайна. Практычна ўвесь сезон 1918—19 гг. В. Селях быў сярод артыстаў "на палях вайны" — на Урале, у Пермскай губерні Гатчынскім фронце. Канцэрты праходзілі часцей за ўсё на адкрытым паветры, выклікалі вялікую цікавасць і мелі выключны поспех.

## ВЯРТАННЕ НА БАЦЬКАЎШЧЫНУ

У кастрычніку 1924 г. В. Селях прыехаў у Мінск. Ён прыняў прапанову Усевалада Ігнатоўскага, які ўзначальваў тады Інстытут Беларускай Культуры (Інбелкульт), — дапамагчы маладой рэспубліцы ў падрыхтоўцы адукаваных музычна-тэатральных кадраў. У тыя часы прыцягненне беларусаў, якія рэалізавалі сябе ў Расіі, было адным з прыярытэтных кірункаў культурнай палітыкі беларускага ўрада.

Вячаслаў Селях працуе выкладчыкам опернага і харавога класаў у Мінскім музычным тэхнікуме і старшынёй музычнай падсекцыі секцыі мастацтва Інбелкульта. (Музычная падсекцыя складалася з камісіі па збіранні і вывучэнні народных песень і музыкі ды камісіі па вывучэнні беларускага народнага танца).

Вядома, немагчыма займацца адраджэннем нацыянальнай культуры, не ведаючы яе карані, вытокі. Нельга спадзявацца на тое, што з'явяцца добрыя сучасныя нацыянальныя творы, калі не будзе асэнсавання гісторыі народа, прапаганды культуры яго мінулага. І В. Селях арганізуе некалькі нарад з даволі актыўным удзелам хормайстра Тэраўскага, піяніста Ягорава, кампазітараў Аладава і Шнітмана, фалькларыста Грыневіча ды іншых спецыялістаў. Было вырашана прызначыць кіраўніком камісіі вывучэння беларускага народнага танца балетмайстра Шчарбініна, а кіраўніком камісіі "песеннай" — этнографа Прохарава. Намаганні В. Селяха і праца камісій далі плён. Былі апрацаваны шматлікія беларускія народныя песні (напрыклад, "Ой, рана на Івана", "Ой, ляцелі гусі", "А ў бары, бары", "Маладая дзяўчыванька"), агульнавядомы народны танец "Крыжачок"...

Як выкладчык музтэхнікума В. Селях сур'ёзна ставіўся да прафесійнай падрыхтоўкі спевакоў. Перадаваў класічную культуру тэатра сваім вучням, уласны досвед опернага артыста, стараўся тым самым кампенсаваць правінцыялізм на тагачаснай беларускай сцэне. Да таго ж, ён сам даволі многа выступаў у розных канцэртах і спектаклях. У рэпертуары В. Селяха былі творы Рахманінава, Шуберта, Леанкавала, Грыга, Сібеліуса ды інш. Адзін з крытыкаў, які пісаў пад псеўданімам "Строгі", прынамсі, адзначаў: "А Селях быў станоўча ва ўдары і цяжка казаць, што ў яго лепей было, бо ўсё было добра. Трагічна гучаў раманс Сібеліуса "Шчасце зноў не прыйдзе", поўны пяшчоты быў раманс Грыга "Кахаю цябе", шмат бадзёрасці было ў "Паляўнічым" Грыга і глыбозным сумам пранікальны быў "Апошні рэйс" Альнеса..." Пры гэтым В. Селях заўсёды заставаўся акцёрам. Ён імкнуўся на канцэртах не проста спяваць, але й іграць, разбураючы звыклыя стэрэатыпы "нерухомых спеваў" ля раяля.

На той час актуальнай была праблема нацыянальнай беларускай оперы. Гэта хвалявала многіх музычных дзеячаў, у прэсе ішла актыўная палеміка наконт шляхоў развіцця беларускай оперы. Меў свой погляд і В. Селях, які лічыў, што опера павінна быць, як музычная драма, за аснову трэба браць нацыянальную беларускую творчасць, мелодыю, танец і побыт. І пакуль сваёй нацыянальнай оперы яшчэ не існавала, пачынаць, лічыў В. Селях, неабходна было з перакладу вядомых класічных твораў.

Магутная працаздольнасць і арганізатарскія якасці В. Селяха дапамагалі аб'яднанню зацікаўленых творчых асоб для стварэння беларускай нацыянальнай оперы. Напачатку быў патрэбны добры харавы калектыў, без якога немагчыма існаванне оперы. У жніўні 1926 г. В. Селях арганізаваў харавы студыйны калектыў у ліку 36 асоб, куды потым увайшоў і хор У. Галубка з 30 асоб. Сам В. Селях стаў кіраўніком і лектарам калектыву, хормайстрам — Ягораў. Сучасныя даведнікі нават не змяшчаюць прозвішча В. Селяха, а кіраўніком і стваральнікам хору ў іх значыцца чамусьці Ягораў. (У 1928 г. хор быў ператвораны ў Беларускую дзяржаўную капэлу).



На здымку: артыст "МузыкальнайДрамы" (1914 г.).

Новы калектыў распачаў рэпетыцыі харавых сцэн з оперы "Русалка" А.Даргамыжскага. Яна была абрана для першай беларускай опернай пастаноўкі невыпадкова, бо адпавядала практычна ўсім патрабаванням, калі яе ўспрымаць з пункту гледжання нацыянальнай оперы. Заставалася толькі наблізіць яе, як лічыў В. Селях, да беларускага стылю жыцця і побыту, тым больш, што дзея оперы адбываецца на Дняпры, недзе паміж Смаленскам і Жлобінам. За пераклад тэксту лібрэта на беларускую мову ўзяўся артыст БДТ-1 Ф. Ждановіч. "Русалку" неабходна было перакласці так, каб рытм тэксту супаў з музычнай партытурай. Ждановіч выканаў усё належным чынам і даволі добра, як пісаў В. Селях.

На той час у Мінску было толькі два месцы, дзе рыхтавалі спевакоў-артыстаў: БДТ-1 і музтэхнікум. БДТ-1 меў ужо ў сваім рэпертуары спектаклі з узелам хору, балета і аркестра. І ў 1927 г. 14 і 15 мая на сцэне БДТ-1 (сучаснага купалаўскага) адбылася **прэм'ера першай нацыянальнай оперы на беларускай мове.** Сам В. Селях рыхтаваў оперу да прэм'еры як рэжысёр і выканаўца ролі Мельніка. Разам з ім у спектаклі спявалі: Несцярэнка — Наталля, Мацалевіч — Князь, Мартава — Княгіня, Патапаў — Сват. Дырыжорам быў Купер, сваяк вядомага дырыжора Марыінкі, дырыжор Вялікага тэатра ў Маскве, запрошаны на працу ў Мінск. "Русалка" А. Даргамыжскага была выканана цалкам, без усялякіх скарачэнняў. Спектакль набыў гістарычнае значэнне, што адзначала прэса, і выклікаў вялікую цікавасць у гледачоў.

У жніўні 1927 г. кіраўніцтва наркамата асветы (Баліцкі) прапанавала В. Селяху ўзначаліць БДТ-1. На пасадзе дырэктара тэатра В. Селях змяніў вядомага грамадскага дзеяча і пісьменніка Я. Дылу. Спачатку новы кіраўнік працаваў у тэатры і як артыст: выходзіў на сцэну, спяваў. Аднак справы адміністрацыйныя вымагалі ўсё большай увагі, і ён цалкам заняўся імі. У час дырэктарства В. Селяха ў БДТ-1 адбылося шмат станоўчых змен. Пашырыўся рэпертуар, абнавіўся склад артыстаў, павысіўся іх прафесіяналізм, тэатр увайшоў у лік лепшых калектываў СССР — побач з Маскоўскім імя Вахтангава і Грузінскім імя Руставелі. Поспех меў БДТ-1 на першай усесаюзнай Алімпіядзе тэатраў у Маскве (1930 г.), дзе В. Селях, як кіраўнік, атрымаў ад старшыні камітэта Алімпіяды Ф. Кона грамату "За вялікія мастацкія дасягненні" нацыянальнага тэатра.

Аднак з надыходам 30-х гадоў у грамадскім і палітычным жыцці краіны адбыліся вядомыя перамены. Быць патрыётам сваёй зямлі было ўжо небяспечна... Пасля трыумфу тэатра ў Маскве В. Селях быў неўзабаве зняты з пасады дырэктара БДТ-1 як "нацдэм". Бадай, яго лёс вырашыла тое, што В. Селяху неаднойчы прапаноўвалі ўступіць у шэрагі камуністычнай партыі, але той кожны раз адмаўляўся. У 1930—31 гг. ён быў загадчыкам Беларускіх драматычных курсаў, затым дырэктарам Беларускага тэатральнага тэхнікума, а таксама загадчыкам Беларускага дзяржаўнага тэхнікума сцэнічнага мастацтва. Пры яго непасрэдным удзеле былі створаны два новыя тэатры: 1-ы Беларускі Вандроўны калгасны тэатр імя Дзяржынскага і Вайсковы тэатр.

## ПАЗБАЎЛЕНЫ РАДЗІМЫ

Увосень 1933 г. В. Селях, каб не трапіць у кіпцюры НКУС, мусіў пакінуць Мінск. Ён быў абвінавачаны ў нацыяналізме, бо ў свой час, насуперак загаду Наркамасветы, не зняў з рэпертуару БДТ-1 п'есы нацыянальнага характару — "Кастусь Каліноўскі", "Каваль-ваявода" і "Над Нёманам".

Яго шлях скіраваўся ў Ленінград, адкуль пачыналася творчая кар'ера і дзе ўсё было знаёмае. Спачатку В. Селях быў намеснікам дырэктара опернай студыі імя Рымскага-Корсакава (1933—34 гг.), рэжысёрам Вандроўнай оперы Усерасійскага тэатральнага таварыства (1935—37 гг.). Потым працаваў на Украіне і зноў — у Расіі.

Вялікая Айчынная вайна заспела В. Селяха ў г. Луга (Ленінградская вобл.), дзе ён працаваў рэжысёрам у мясцовым Доме культуры. У хуткім часе фронт наблізіўся да Ленінграда, Луга была акупавана немцамі, і неўзабаве, у чэрвені 1943 г., В. Селях прыехаў у Мінск.

Горад быў зруйнаваны вайною, знясілены голадам, галечай. Уладкаваўся В. Селях на працу ў якасці кіраўніка аддзела культуры і мастацтва, пазней — кіраўніком гарадскога аддзела тэатраў. У ліпені 1944 г. Мінск быў вызвалены ад нямецкіх акупантаў. Але заставацца тут, каб працягваць працаваць — на гэта немажліва было нават спадзявацца. В. Селях падаўся на Захад. Блукаючы па свеце, ён не спыніў мастацкай дзейнасці, нават у лагерах для эмігрантаў займаўся справамі беларускай культуры і мастацтва. Прайшоў час, і В. Селях стварыў у Нямеччыне Беларускі драматычны тэатр імя У. Галубка, з трупай якога 28 сакавіка 1948 г. паставіў п'есу Т. Лебяды "Загубленае жыццё", арганізаваў хор...

## НА ЧУЖЫНЕ НАЗАЎСЁДЫ

На пачатку 1950 г. ва ўзросце 65 гадоў В. Селях назаўсёды пакідае Еўропу і пераязджае ў ЗША.

Першым часам, каб атрымаць сацыяльнае забеспячэнне, працаваў рабочым на фабрыцы. Але ўжо летам 1950 г. заснаваў на зямлі Вашынгтона Беларускую тэатральную студыю, дзе паставіў п'есу Ф. Аляхновіча "Шчаслівы муж", "Пінскую шляхту" В. Дуніна-Марцінкевіча, у якой сам выконваў ролю Куторгі, "Нясмелы жаніх", "Дажынкі" І. Кіпрук.

Пры канцы свайго жыцця ён зноў, як і ў юнацтве, працаваў рэгентам (у царкве г. Элізабэт). Пісаў царкоўную музыку. А яшчэ В. Селях арганізаваў і ўзначаліў Беларускі нацыянальны хор, які меў вялікае значэнне ў жыцці беларускай эміграцыі. У 1975 г. (у 90-гадовым узросце!) ён падрыхтаваў да выдання "Спеўнік беларускага жаўнера", у які ўвайшлі прыгожыя народныя, пабытавыя песні. Шмат музыкі для выдадзенага зборніка напісаў і гарманізаваў сам В. Селях. "Спеўнік" стаўся добрай памяццю Вячаславу Антонавічу Селяху, які аддаў усё сваё жыццё беларускай нацыянальнай культуры.

Зямны шлях яго скончыўся 8 жніўня 1976 года. Пахаваны на могілках гарадка Саўт-Рывер, Нью-Джэрсі, ЗША.

**Сяргей СЕЛЯХ,**
**унучаты пляменнік В. Селяха**

## З пашанай да спадчыны Яўхіма Карскага

**На мяжу стагоддзяў і тысячагоддзяў прыйшлася слаўная дата — 140-я ўгодкі з дня нараджэння слыннага беларускага і рускага вучонага-славіста, заснавальніка беларускай філалогіі Яўхіма Фёдаравіча Карскага. Ураджэнец Гродзеншчыны, выпускнік Нежынскага гісторыка-філалагічнага інстытута, выкладчык, а затым рэктар Варшаўскага універсітэта (1893—1910), акадэмік Акадэміі навук Расіі (1916), прафесар Петраградскага — Ленінградскага універсітэта (1916—1928), член Чэшскай акадэміі навук (1929), рэдактар часопісаў "Русский филологический вестник" і "Известия отделения русского языка и словесности Академии наук", аўтар больш як 700 навуковых прац.**

**Дзесяць гадоў таму назад па ініцыятыве загадчыка кафедры рускай мовы Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я. Купалы прафесара М. Канюшкевіч і заслужанага настаўніка Беларусі А. Цыхуна былі праведзены першыя Карскія чытанні, а з 1991 года сталі выходзіць і навуковыя матэрыялы. 7-я Карскія чытанні ў 1998 г. упершыню праходзілі ў Нежынскім педагагічным універсітэце імя М. Гогаля (Украіна), навучэнцам якога ў 1881—1885 гг. быў будучы патрыярх беларускай філалогіі. На рубяжы другога тысячагоддзя юбілейныя, восьмыя па ліку, міжнародныя Карскія чытанні пад агульнай назвай "Мова ў святле класічнай спадчыны і сучасных парадыгм" адбыліся на базе філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У чытаннях прыняло ўдзел 87 чалавек, сярод якіх 18 дактароў філалагічных і педагагічных навук, прафесараў. На двух пленарных пасяджэннях выступілі прафесары Л. Судавічэнэ (Літва), М. Усеваладава (Расія), М. Булахаў (БДПУ імя М. Танка), М. Канюшкевіч (Гродзенскі дзяржуніверсітэт), Н. Мячкоўская, А. Яновіч, Б. Норман, Л. Чумак (усе — БДУ). Удзел у чытаннях прынялі таксама навукоўцы з Польшчы і Украіны, супрацоўнікі Маскоўскага, Санкт-Пецярбургскага, Цвярскога, Нежынскага універсітэтаў. Актыўны ўдзел у працы чытанняў прыняла ўнучка акадэміка дацэнт-філолаг, Таццяна Карская, якая была ганаровым госцем рэктарата БДУ і перадала ў дар універсітэту дзве арыгінальныя фатаграфіі пачатку XX ст. Работа VIII міжнародных Карскіх чытанняў праходзіла ў чатырох секцыях: 1) функцыянальная граматыка, 2) лінгвапрагматыка і лінгвакультуралогія, 3) мова ў прасторы і часе, 4) слова ў паэтычнай карціне свету; быў праведзены таксама "круглы стол" "Я. Ф. Карскі — вучоны, рэдактар, чалавек", на якім выступілі прафесары А. Наркевіч, С. Прохарава (БДУ), І. Нешчарэт, В. Абашына (Украіна) і інш. Побач з вядомымі лінгвістамі і культуролагамі добра глядзеліся і такія пачынаючыя даследчыкі, як Н. Перавалава, А. Аўчыннікава, А. Акаева, В. Фокіна, М. Клыгіна, С. Важнік, І. Савіцкая і інш. У цэнтры дыскусій апынуліся навуковыя даклады М. Усеваладавай "Дэнататыўная і семантычная структура сказа ў межах функцыянальна-камунікатыўнай (прыкладной) мадэлі мовы (Тыповая сітуацыя і прапазіцыя)", Н. Мячкоўскай "У якой ступені розныя класы моўных феноменаў рэлевантныя для разумення культур?", Б. Нормана "Вакатыў у функцыі дзейніка ў славянскіх мовах", І. Токаравай (МДЛУ) "Этналінгвістычная традыцыя Усходу і Захаду". Кіраўнікі секцый адзначылі высокі навуковы ўзровень дакладаў і паведамленняў І. Гапоненкі, Т. Ліпскай, В. Генкіна, М. Даніловіча, А. Лапкоўскай, А. Ханскага і інш.**

**Чытанні ў БДУ праводзіліся сумесна з лінгвістамі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта. На паліграфічнай базе якога выйшаў асобны том тэзісаў і спецыяльны выпуск "Веснiка Гродзенскага універсітэта (Серыя І. Гуманітарныя навукі)". Яны ж падрыхтавалі і святочны буклет, прысвечаны асноўным вехам жыцця акад. Я. Карскага і гісторыі правядзення навуковых чытанняў. Спецыяльна да юбілейных чытанняў быў прымеркаваны і выхад з друку брашуры дацэнта Нежынскага педуніверсітэта А. Белай "Евфимий Федорович Карский (архивные материалы г. Нежин)". У кнізе упершыню прыводзіцца копіі дзвюх заяў Яўхіма Навіцкага на імя дырэктара Нежынскага гісторыка-філалагічнага інстытута — з просьбай допусціць да ўступных іспытаў і тлумачэнне адносна прозвішча "Карскі", якое было ўзята па лініі маці, паколькі яго носьбіт нарадзіўся яшчэ да шлюбу маці з Фёдарам Навіцкім. Архіўныя матэрыялы дазваляюць таксама прасачыць працэс вучобы будучага акадэміка, яго паспяховасць, цікавасць да навуковых даследаванняў.**

**VIII міжнародныя Карскія чытанні яскрава засведчылі, што творчая спадчына слыннага сына зямлі беларускай па-ранейшаму актыўна даследуецца не толькі на радзіме вучонага, але і прадстаўнікамі розных навуковых школ як у блізкім, так і далёкім замежжы.**

**Мікалай ПРЫГОДЗІЧ,**
**загадчык кафедры гісторыі беларускай мовы Белдзяржуніверсітэта**

# Жыццё за каня

*(Заканчэнне. Пачатак на стр. 5)*

***І вось жывi тут, разжывайся,***
***Хоць сам у соху запрагайся,***
***Ўпрагай і жонку на падмогу***
***З трыма малымі хлапчукамі...***

Дык ці не такое становішча перажывае сёння родная вёска паэта?

У чым пераўзышлі сваіх продкаў сучасныя сяляне, дык гэта ў спосабах язды. Цяпер ужо ніхто не носіць на плячах дзяцей, чым абураўся некалі рускі пісьменнік. Няма ла ёсць на вёсцы легкавікоў, а веласіпед — у кожным двары. Калі перафразаваць вядомы жарт пра войска польскае, то можна сказаць, што беларускае сялянства мае мала зямлі, але затое да зубоў механізавана: усе на роварах!

Сяляне штодня ставяць на сваіх веласіпедах такія сусветныя рэкорды, якія нікому і не сніліся. Састарэлая бабулька, нярэдка добрай камплекцыі, садзіцца на мужчынскі ровар і па заснежанай вуліцы праз сумёты і ледзяныя глыбы імчыць на поўнай хуткасці да сельмага. Дык гэта яшчэ што! Любы вясковец пры патрэбе перавязе на сваім двухколавым кані тры поўныя мяшкі збожжа ці іншага грузу: адзін на рулі, другі на багажніку, трэці на раме. Аднавясковец Валодзя Ждановіч мінулым летам навазіў цэлую гару дроў з лесу: прывязваў папярэчыны да руля і багажніка і на іх клаў па бярвянцу з абодвух бакоў. А, пэўна, найбольш рэкорд у гэтым паставіў Мікола Хвалей з Белькаўшчыны: на ровары ён навазіў з лесу бярвенняў на цэлую хату. Праўда, яны былі не дужа тоўстыя, але нічога, хата перажыла свайго гаспадара.

У адным уладальнікі веласіпедаў не змаглі дабіцца пэўных поспехаў: яны так і не прыстасавалі яго для апрацоўкі зямлі. Хаця з другім відам транспарту такая спроба была зроблена. У садовым таварыстве "Лясное" Мінскага раёна адзін вучоны муж з Акадэміі навук рэспублікі запрог у "Жыгулі" конны плуг і пад вясёлыя крыкі суседзяў замахнуўся галінкай:

— Но! Пайшоў!..

Нічога не атрымалася. Хуткасную тэхніку не аб'яднаеш у адной запрэжцы з састарэлым вырабам. Хаця ў жыцці вёскі яны суседнічаюць пастаянна.

Пад восень, калі пачынаецца копка бульбы, каля агародаў і дзялак збіраецца нямала легкавых машын. Якіх толькі іншамарак тут не ўбачыш! Якія паважаныя госці, сваякі састарэлых вяскоўцаў не вывальваюцца з тых кабін. Сваімі белымі пальчыкамі нярэдка з наманікюранымі пазногцямі яны вымушаны выкопваць клубні з гліністай, не заўсёды сухой зямлі. Дзядкі ж і бабулькі проста поўзаюць на каленях па баразнах. Гарадскія госці стараюцца тады не глядзець на сваіх бацькоў. Адвязуць поўныя мяшкі да хаты і хутчэй, хутчэй у горад. А ці схаваешся там ад сённяшніх вясковых рэалій?

Мы прывыклі да зняважлівых адносін да свайго сейбіта і карміцеля, па словах вядомага рускага паэта. Вялікае шчасце — усё жыццё з каровай! — так некалі іранізаваў К. Маркс. Ён яшчэ параўноўваў сялян з мехам бульбы: у які ні перасыпеш, такую форму і прымуць. Ленін таксама іранічна заўважаў, што сяляне трымаюцца на гранічным абмежаванні сваіх патрэб. Колькі памыяў выліта менш вядомымі дзеячамі на галовы тых адужваючых свой век, як лічылася, зацяты прыватнікаў. Сёння іх таксама называюць недарэкамі, няздольнымі працаваць у горадзе. А калі падумаць: чаму яны трымаюцца за свае соткі? Можа, і яны былі б не супраць пайсці ў магазін і купіць малако, моркву, яйкі — усе прадукты. А ці ёсць такі сельмаг, дзе ўсё гэта прадаецца? Не кажучы ўжо пра вясковы заробак, які мог бы дазволіць такія пакупкі.

У дваццатыя гады М. Бухарын крытыкаваў кіраўніцтва партыі за тое, што яно вярнула сялян у феадалізм. Але тады ў беларускай вёсцы было больш за мільён коней. Сёння, гледзячы на тое, як працуюць вяскоўцы, можна сказаць, што іх адкінулі ў жалезны век, калі, здаецца, былі выраблены першыя рыдлёўкі і вілы. І яшчэ адна недарэчнасць: раней праводзілася палітыка на вынішчэнне сялян, а як зразумець іх абвальнае становішча пасля таго, як узяты курс на рынак?

Уся ўвага кіраўніцтва краіны — толькі буйным гаспадаркам. А чаму б, здаецца, не запрасіць на селектарную нараду якога-небудзь дзядзьку Алеся і цётку Ганну, чаму б не запытаць у іх з усёй строгасцю:

— Ці падрыхтавалі вы да вясны свае плугі, бароны, рыдлёўкі і матыкі?

— Чаму не купляеце ні каня, ні мотаблок, хоць ужо даўно памянялася ўлада?

— Ці запасліся насеннем, гаруча-змазачным матэрыялам, без якога цяпер ні кроку нідзе не ступіш?

Вось тады, упэўнены, перад людзьмі і высветліліся б усе вясковыя праблемы, над якімі б'ецца грамадства.

З высокіх трыбун нярэдка можна пачуць абяцанне дапамагчы прыватным гаспадарам. Праўда, гучыць гэта сёння як невясёлы жарт. Сапраўды, яшчэ некалі Ленін, выступаючы на з'ездзе земляробчых камун і сельскагаспадарчых арцеляў, спасылаўся на закон, на статуты камун і арцеляў, на інструкцыі камісарыята і ўсіх органаў савецкай улады аб тым, што трэба не адмяжоўвацца ад навакольных сялян, а дапамагаць ім. Праўда, ён тут жа папярэджваў: любы закон можна абысці, нават пад выглядам яго выканання.

Дапамога бальшавікоў сялянам вялася з хітрым прыцэлам. Гэта асабліва яскрава праяўляецца сёння. Нядаўна я зайшоў на калгасную канюшню, конюх мне гаворыць:

— Праўленне прыняло пастанову: каня даваць толькі за грошы. Калгаснікам 500 рублёў, іншым — 30 тысяч.

Адзін з вяскоўцаў гэта ацаніў так:

— Я за такія тысячы нядаўна купіў пяць мяшкоў збожжа.

Думаю, бульбы можна купіць яшчэ болей. А калі браць каня тры-чатыры разы, каб апрацаваць агарод, то ці будзе сэнс наогул вырошчваць самому тую бульбу ці гародніну? Сюды можна дадаць: за гной, за насенне, за любыя калгасныя паслугі бяруцца такія ж непамерна высокія цэны.

Пра што гэта сведчыць? **Калгас не зацікаўлены ці ў дапамозе навакольным сялянам, ні ў развіцці наогул дробных адасобленых гаспадарак. Чым яны слабей, тым хутчэй прыйдуць наймацца парабкі на працу ў калгас.** Гэта відавочна.

# ДВА АПАВЯДАННІ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)*

—Яшчэ! Але, але, гэтак! Малайчына! О-о, як хораша!

"Перапрацаваўся! — уздыхнуў пісьменнік. — Два апавяданні за дзень! Сапраўды можна звар'яцець! Спаць! Зараз жа! А не — дык дурдом, міраж, блюзнерства! Пачуецца ж такое".

Лёг побач з жонкаю. Асцярожна паклаў руку на яе грудзі. З-пад далоні выслізнула нешта валасатае, потнае, гідкае.

— Уцякаю, уцякаю! — дыхнуў на пісьменніка жахам знаёмы голас з пахам серы. — Ты гаспадар, ты! Не хвалюйся... А грунт я падрыхтаваў. Магу і далей за цябе папрацаваць. Ты толькі скажы...

— Галюцынацыі... Усё! Я паралізаваны, дабіты, — прашаптаў пісьменнік і адключыўся.

— Мой муж самы лепшы на свеце! — разбудзіў яго пацалунак жонкі. — Ноччу ты так соладка ўвайшоў у мяне, што, здавалася, сэрца разарвецца ад шчасця. Ты волат! Як я цябе кахаю! Да бяспамяцтва кахаю...

"Чуеш, што гаворыць? "Да бяспамяцтва!" Калі ў цябе такое было?! А мяне праганяў! Няўдзячны!" — ажылі ў галаве ў пісьменніка кавалкі фраз.

Ён выплываў са сну з выразным усведамленнем, што наперадзе яго чакае нямала цікавага. "Вінчэсцер не дарэмна купіў",— падумалася ў адказ на сваё ж пытанне пра тое, што будзе рабіць далей.

— Так! Змагацца, не апускаць рук! — загадаў сабе. — Біцца да канца.

Зачыніўся ў кабінеце. Патэлефанаваў адвакату:

— Дружа, не ў службу, кінь усё і знайдзі салідную фірму па пратэзіраванні. Ніяк не прывыкну жыць без рукі. Хоць бы дзеравяку якую прычапіць. Не, дзеравяку, вядома, не трэба. Даведайся, што ў гэтай галіне ёсць найлепшае, і паведамі. Тэлефануй адразу ж. Чакаю.

Чакаць давялося вечнасць — паўгадзіны. Званок.

Адвакат гаварыў, як у гарачцы:

— Не ведаю, можа, дарэмна турбаваўся. У найлепшага і цана адпаведная. Два мільёны каштуе апошняе дасягненне канструктарска-камп'ютэрнай думкі.

— Пляваць на грошы! — перабіў яго пісьменнік. — Сёння ж аплаці!

— Гэта можаце зрабіць толькі вы асабіста. Па ўмовах дагавору, каб зняць такую суму, патрэбен ваш подпіс.

"Малайчына д'ябал: тры — нуль! — паклаў трубку пісьменнік. — Хваціка гуляеш! У адны вароты. Добра, ты мяне даняў! Пагуляем! Толькі — як цябе знайсці, каб ударыць у адказ? Дзе шукаць? Думай, думай! — загадвала свядомасць. — Ратуй сваё становішча, сям'ю, жыццё!

Галоўнае — пераадолець бар'ер! Прарыў мажлівы толькі праз апавяданне. Але апавяданні, відаць, пішуцца праваю рукою, якой няма. Інакш не атрымліваецца. Дзе ж узяць руку? Замкнёная кола. Няма выйсця! Тупік! Фініш! Канец!

Стоп! Заткніся! Размазня! Слабак! Выйсце ёсць заўсёды!

Думай, думай, думай!

Ціха!

Ёсць! Вядома ж, ёсць!

Ёсць адно апавяданне. Невядомае. Пра жонку. Яна прасіла яго не публікаваць. Як я забыўся! Зараз жа начытаю камп'ютэру. Можа, сыдзе..."

Пісьменнік прабег вачыма апошнія радкі. Узмакрэлы, паглядзеў на кандыцыянер: працуе. Пачуў знаёмы голас:

— Махлярства, мой дружа! Пайшоў на падман? Навучыўся дзейнічаць у абход?! Давай, камбінатар, што ў цябе там?

— Прапанова. Свежая. Я хачу ўвесці новыя, больш жорсткія і цікавыя правілы гульні.

— Больш цікавыя, кажаш? Цікавае і мне цікава. Давай, прыдумвай, спрабуй падмануць бацьку. Хоць, як мне здавалася, нам і так з табою сумаваць не даводзіцца. Пра вінчэсцер, скажам, усё помню. Гэта ты дарэмна. Не той метад...

— Разумею. Не, я пра іншае. Уявіў дадатковыя ўмовы. Ты шмат што мне даў. А цяпер, наадварот, — штонебудзь адбяры.

— Што, напрыклад? Нешта не падабаецца мне тваё хітраванства...

— Мне таксама далёка не ўсё падабаецца. Зрабі гэтак, каб у мяне не стала самых родных людзей — бацькоў!

— І што пасля?

— Пасля — новая гульня.

"Згаджайся, згаджайся! — заклінаў пісьменнік д'ябла. — Не будзе бацькоў — не будзе мяне і, такім чынам, скончацца кашмары..."

— Дык тут і думаць няма чаго, — адказаў д'ябал, павесялеўшы, — згодны. Гэтай прапановы я чакаў дужа доўга. Можна сказаць — усё антыжыццё!

"Ён чакаў, каб мяне не стала? — збянтэжыўся пісьменнік. — Нешта тут не так. Ды чорт з ім! Галоўнае — вырвацца!"

"Не, чорт — з табою! — ухмыльнуўся д'ябал. — Усё тут акурат правільна. А што да таго, каб вырвацца, дык — аб гэтым усе мараць..."

Ён быў у экстазе, у стане трызнення. Ён спаў сам з сабою. На ім ляжаў ён — д'ябал.

— А-а-а, — стагнаў у аргазме. Адчуў, што ўключыўся, і з прыдыханнем прашаптаў: — Я ж табе казаў: добрая здзелка, выгадная. Разумнік, малайчына. Няма бацькоў — няма цябе! Хітра прыдумаў. Але гэтак — не бывае. Лёсам табе наканавана быць у адным біяполі з жонкаю. Паколькі яе няма — ты стаў ёю. Ты — у ёй. Гэта твой лёс! Затое я цяпер — ты! Прыемныя навіны, праўда? Я — ты. Твая жонка на Беверлі Хілз з табою-д'яблам! Не плач! Добрыя навіны, добрыя... Ты ведаеш, а некалі гэтак і было! Я толькі вярнуўся ў сваё цела. Вось так! Дзякую. Wery well! Каб ты ведаў, як мне надакучыла бадзяцца па Беверлі Хілз!..

Дапамагчы абяздоленым вяскоўцам дзяржава можа самым простым шляхам, які не патрабуе ніякіх выдаткаў і на які, аднак, не ідуць палітыкі на працягу соцень гадоў. **Трэба адмяніць абмежаванні на валоданне зямлёй і на сродкі яе апрацоўкі. Сяляне тады самі сябе выцягнуць з бяды.** Іператворыць краіну ў квітнеючы край.

... У той раз на жаночым вулічным "парламенце" ўзгарэлася гаворка пра каня. Ну, які вясковец не выкажацца пра гэта!

— Трэці год нам каня не даюць, — разважліва пачала, паглядаючы на мяне, адна пажылая кабета.

Суседка яе дапоўніла больш рашуча:

— Намучыліся, нагаласіліся мы з-за яго вясной...

Трэцяя ўдакладніла:

— Пайшла званіць у Мінск. Кажу дзецям: не едзьце да мяне, няма каня. Яны супакойваюць: не хвалюйся. І праўда. Прыязджаюць на машыне з малым трактарком у кузаве.

Яшчэ адна жанчына са скрухай у голасе ўспомніла: яе сын прывёў каня з Новага Свержаня, узяў у аднаасобніка.

— У майго Сашы два вялікія трактары, — уступае ў размову Маня Супрун. — Але імі бульбу не пасадзіш. Там жа два плугі. Сёлета прыладкаваліся араць малым. Таксама цяжка. Агарод вузкі, не развернешся. Адносілі яго рукамі і аралі ў адзін бок.

Вопыт яе сына найбольш павучальны. Хто ў навакольных вёсках не ведае яе Сашу! Каму абрэзкі дошак прывязе з кааператыўнай піларамы, каму бульбу дапаможа акучыць, каму апрацуе сваёй бульбакапалкай — і гэта больш за ўсё цэніцца — дзялку ў калгасным полі. Я пытаюся ў яго маці: як яму гэта ўдаецца?

— А ён не лянуецца. Бывае, устане ў тры гадзіны ночы, пры святле фар працуе. Усім, хто просіць — і свержанскім, і кнотаўшчынскім, — выкапаў бульбу.

— А дзе набыў тэхніку?

— Усё купляў за свае грошы. Тое, што спісана ў калгасах. Адзін трактар у свайго дзядзькі купіў — у Акінчыцах. Маленькі сястра падарыла. Таксама спісаны. Я за яго авечку дала. Дакументы на мяне выпісалі — як падарунак зяця. Толькі нядаўна перапісалі на яго. Такім жа чынам набыў капалку, плугі, акучнікі — рады рабіць. Культывацыя свая. А саджалкі няма... Ды ён усю тэхніку на зубок ведае...

— Дзе ж яму далі такія веды?

— У Мар'інагорскім тэхнікуме. Пасля васьмігодкі туды паступіў. Чатыры гады вучыўся, пасля накіравалі ў райагрaпрамтэхніку. Спачатку рабіў забеспячэнцам ды кінуў: трэба было са сваёй кішэні даплачваць. Пайшоў шафёрам. На бензавозе ездзіць. Ужо дваццаць год як перайшоў. Там, у Новым Свержані, хату паставіў, сям'ёй абзавёўся. Двое дзяцей мае...

Маці пахвалілася і астатнімі дзецьмі, што пайшлі па сельскай гаспадарцы: другі сын — фельчарам, дачка бухгалтарам у калгасе, а зяць — старшыня над усімі старшынямі ў суседнім раёне. Затое саму яе "выкінулі" з калгаса, хоць і не падавала заявы. "За тое, што пайшла паштальёнкай, — тлумачыць яна. — Дык я ж калгаснікам разносіла пошту".

Вось за ўсё гэта ёй не хочуць цяпер даваць ні каня, ні дзялкі ў полі, як і яе суседкам — састарэлым адзінокім жанчынам. Спадзяюцца толькі на Сашу.

Пад закрыццё таго вясковага "парламента" мне падалося, што ён быў не пустым, усё ж падказаў вырашэнне "конскай" праблемы. Не ў прыкладзе парламенту больш высокага рангу. Падумалася: чаму б не пашырыць Сашаў вопыт? Чаму не даць магчымасць і яму, і ўсім, хто пажадае, працаваць на сялянскіх агародах не па начах і вечарах, як цяпер, а днём, разам з усімі людзьмі, не шукаць спісаную тэхніку, не купляць у нейкіх дзялкоў паліва, а набываць усё па тых жа каналах, якімі карыстаюцца буйныя гаспадаркі? Ці тут ёсць нешта надзвычайнае, звышасаблівае, ці мо стаяць нейкія непераадольныя перашкоды? Наўрад. Справа толькі за жаданнем адпаведных службовых асоб.

...На схіле дня жанчыны ўзнімаюцца са сваіх цурбанкоў і лавы.

— А памятаеце, — раптам успамінае адна з іх, ахарошваючы спадніцу, — як да нас прыязджалі нейкія з горада? Панавешвалі плакатаў і ўсё нас угаворвалі галасаваць за іх. Яны ж тады абяцалі: вельмі будзем дапамагаць вам.

— Дык Маня ж ім правільна сказала, — зазначае другая жанчына. — Дапаможаце, як кашаль хваробе!

Я смяюся, а ў іх на тварах ні ценю ўсмешкі. З паважным, самавітым выглядам, як і належыць пасля вырашальнай сходкі, яны разыходзяцца па хатах.

*Стаўбцоўскі раён*

# Святлана КЛІМКОВІЧ



Пасля працяглай хваробы памерла Святлана Міхайлаўна Клімковіч.

Святлана Клімковіч нарадзілася 28 жніўня 1935 года ў сям'і пісьменніка. Скончыла аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1958). Працавала карэктарам, літработнікам, адказным сакратаром газеты "Голас Радзімы" (1958—1970), літсупрацоўнікам газеты "Літаратура і мастацтва" (1970—1972), рэдактарам часопіса "Народная асвета" (1972—1974), рэдактарам рэдакцыі праграм для моладзі на Беларускім тэлебачанні. У 1977—1990 гг. — адказны рэдактар бюлетэня Беларускага тэатральнага аб'яднання (з 1977 г. Саюза тэатральных дзеячаў).

Пачала выступаць у друку з 1958 г. Публікавала апавяданні, нарысы, казкі, тэатральныя рэцэнзіі і артыкулы. Асобным выданнем выйшла казка "ЛаліЛаль" (1974), на аснове якой былі створаны тэле- і радыёспектаклі. Аўтар п'ес для тэатра лялек "Дар ляснога цара" (пастаўлена ў 1978), "Балада пра белую вішню" (пастаўлена ў 1984 і на Беларускім радыё ў 1988), "Казка пра цара Юрыка і каваля Рымшу" (апублікавана ў 1981), а таксама п'есы "Вясновая песня" (пастаўлена на Беларускім радыё ў 1985). Напісала лібрэта опер "Дзікае паляванне караля Стаха" (пастаўлена ў 1989) і "Францыск Скарына" (пастаўлена на Беларускім тэлебачанні ў 1990). Зрабіла пераклад з польскай мовы, рэстаўрацыю і сцэнічную рэдакцыю оперы XVIII ст. "Апалон-заканадаўца, альбо Парнас рэфармаваны" (апублікавана і пастаўлена ў 1989).

Светлы вобраз сціплай, працавітай і сумленнай пісьменніцы Святланы Клімковіч назаўсёды застанецца ў памяці і сэрцах тых, хто яе ведаў, хто з ёй разам працаваў у рэдакцыях выданняў і на тэатральнай ніве.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

# Не чужы для беларусаў

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 12)*

Кабінета Міністраў Вацлаў Ластоўскі, міністр замежных спраў Аляксандр Цвікевіч і шмат хто яшчэ. Да гэтага часу (1924 г.) урад быў у выгнанні ў Празе ўжо амаль два гады, куды пераехаў з Вільні. Тут, у Празе, існавалі беларуская арганізацыі, Беларускі архіў, бібліятэка, выходзілі часопісы, газеты, выдаваліся кнігі. У чэшскіх вышэйшых навучальных установах у той час навучалася больш як сто беларускіх студэнтаў.

У час знаходжання ў Празе Іван Краскоўскі хацеў знайсці працу ў розных месцах, але ўсюды яму адмаўлялі.

Устанавіў сувязі з савецкай гандлёвай місіяй, якая праяўляла вялікую палітычную актыўнасць, скіраваную на вяртанне эмігрантаў, прыцягненне іх да супрацоўніцтва з уладамі БССР.

І. Краскоўскаму, як спецыялісту з высокай кваліфікацыяй і багатым вопытам, паабяцалі ў выпадку вяртання амністыю за яго папярэднюю палітычную дзейнасць і высокую пасаду ў дзяржаўных органах на Беларусі.

Пасля некаторых разважанняў і пасля атрымання афіцыйнага запрашэння ад беларускіх улад Іван Краскоўскі з жонкай і двума сынамі ў 1925 годзе прыехаў у сталіцу Беларусі — горад Мінск. Дачка Людміла засталася вучыцца на археолага ў Карлавым універсітэце ў Празе.

Савецкая ўлада выканала свае абяцанні і прызначыла І. Краскоўскага да выканання высокіх дзяржаўных функцый.

У хуткім часе І. Краскоўскі стаў кіраўніком сацыяльна-культурнага аддзела Дзяржплана БССР.

Адначасова быў прызначаны на пасаду дацэнта ў Беларускім універсітэце і абраны ў члены Інстытута беларускай культуры (Інбелкулот).

У 1928 годзе стаў І. Краскоўскі навуковым супрацоўнікам Акадэміі навук Беларусі. Сваёй актыўнасцю, добрасумленнай працай і навуковай эрудыцыяй заваяваў усеагульнае прызнанне.

Яго стараннасць заўважылі ў Маскве і запрасілі працаваць ва ўсесаюзныя планавыя арганізацыі.

Як успамінала дачка Людміла, бацька з вялікай неахвотай ад'язджаў у Маскву. Як быццам бы прадбачыў, што чакае яго там. Але адмовіцца ад запрашэння не мог. Хаця і з нейкай унутранай нязгодай, але заняў пасаду кіраўніка секцыі планавання экспедыцый АН СССР ва ўсесаюзным Дзяржплане ў Маскве.

У гэтыя часы ў Савецкім Саюзе складваецца складаная палітычная сітуацыя. 1930 год наогул лічыцца ў гісторыі СССР годам спынення дэмакратычнага развіцця грамадства і разам з тым годам устанаўлення і пачатку тэрору супраць так званага буржуазнага нацыяналізму. На Украіне на лаве падсудных аказваюцца члены Саюза вызвалення Украіны (С. Яфрэмаў і інш.), а на Беларусі распачынаюцца працэсы супраць нацыянальных дэмакратаў ("нацдэмаў"). Далучылі да іх і І. Краскоўскага, арыштаваўшы яго восенню 1930 года. Следчыя органы не змаглі прад'явіць ні аднаго канкрэтнага абвінавачвання І. Краскоўскаму.

Як і тысячы іншых, ён быў высланы з Масквы на неабмежаваны час. Адбываў пакаранне ў горадзе Куйбышаве (Самара). Разам з ім паехала і жонка, якая ажно да сваёй смерці падзяляла з мужам яго цяжкі лёс. Пад наглядам савецкіх органаў бяспекі працаваў І. Краскоўскі эканамістам у абласным планавым упраўленні.

У 1937 годзе І. Краскоўскага як былога "эсэра" зноў пасадзілі ў турму. І зноў на працягу 3-х гадоў органы бяспекі, нягледзячы на ўсе іх намаганні, не змаглі прад'явіць віну І. Краскоўскаму. Ні пры якіх умовах не прызнаў сябе вінаватым. У 1940 годзе быў вызвалены з турмы і працягваў адбываць тэрмін выгнання ў Куйбышаве. Дарэчы, тады ж у 1937 годзе разам з І. Краскоўскім былі арыштаваны і яго сыны. Абодва, як стала вядома, пазней загінулі ў ГУЛАГу ў Сібіры.

У пачатку вайны, калі ў Куйбышаў былі эвакуіраваны цэнтральныя (саюзныя) органы ўлады з Масквы, І. Краскоўскага з жонкаю перавялі на пасяленне ў адну аддаленую вёску вобласці (Мелякескі раён), дзе ён працаваў настаўнікам гісторыі і геаграфіі ў сярэдняй школе. Пасля вайны яму дазволілі жыць у горадзе Мелякесе (1946—1948 гг.), дзе ён працаваў настаўнікам у 2-х сярэдніх школах і яшчэ выкладаў у інстытуце. Пазней (1948—1949 гг.) быў пераведзены ў мястэчка Шыраева, дзе меў вельмі неспрыяльныя ўмовы жыцця і працы. З-за працяглай хваробы жонкі ён не змог працаваць на поўную моц, потым быў зусім звольнены з працы настаўніка і застаўся без якіх бы то ні было сродкаў для існавання. Да таго ж яму пагражалі турмой за "прыжывальніцтва". Пасля смерці жонкі ў 1949 годзе медыцынская камісія НКУС прызнала І. Краскоўскага інвалідам і накіравала яго ў Дом інвалідаў у вёсцы Вялікая Ракаўка, дзе ў вельмі цяжкіх умовах ён пражыў 4 гады.

Дачка Людміла прадпрымала самыя розныя намаганні, каб хоць нечым, хоць трохі аблегчыць цяжкі лёс бацькі. Пачынаючы яшчэ з 1939 года, пасылала пасылкі з прадуктамі і вопраткай, грошы, пісала заявы ў розныя інстанцыі, каб дазволілі бацьку пераехаць да яе ў Браціслаў. Але ўсё было марна.

Яе намаганні і клопаты прынеслі поспех толькі пасля смерці Сталіна ў 1953 г., калі яе бацька ў вельмі цяжкім здравотным стане прыехаў жыць у Браціславу. А праз два гады — 24 жніўня 1955 г. памёр. Пахавалі яго на могілках у Славічовым удоллі. Ніхто нідзе ані словам не ўпамянуў пра смерць начыньніка ўкраінска-беларускіх грамадска-палітычных сувязяў.

**Мікола МУШЫНКА,**
**доктар філасофскіх навук,**
**акадэмік НАН Украіны**

*Славакія*

# Вяртанне

Яна зайшла ў ягоны пакой. Тут ён працаваў. Днём і ноччу ледзь чутна гудзеў камп'ютэр, амаль без перастанку, нястомна пастуквала клавіятура. Ён працаваў да сёмага поту. Спяшаўся дагнаць час, лёс, жыццё. Тут нараджаліся ягоныя героі. Простыя, адкрытыя, смелыя, гордыя і нязломныя. Не здаваўся і ён. Змагаўся, пакуль не загінуў.

Ён загінуў, але засталіся яны. Высакародныя, мужныя. Цяпер яны жывуць за яго. Памагаюць трымацца ёй. "Ты не адышоў, ты побач. Ты, я і твае героі. Мы разам", — як замову шэпча яна, калі сядае перад камп'ютэрам.

Сёння яна зноў зайшла ў ягоны пакой. Як заўсёды, час праляцеў непрыкметна. Цямнела.

— Вось і пабачыліся, — уздыхнула, прачытаўшы фінал ягонага апошняга апавядання. Навяла курсар на "кнопку" завяршэння работы.

Слёзы каціліся па твары.

— Памажы мне! — сарвалася на крык. — Дай сілы паяднацца з табою. Заўтра пабачаць свет твае творы. Героі пойдуць у людзі. Я зрабіла ўсё, што магла. Цяпер я вольная. Я прыйду да цябе. Толькі дай мне сілы...

На дысплеі з'явіўся тэкст:

*"Хутка ты сустрэнеш дзіўнага чалавека. Не адштурхоўвай яго. Не адмаўляйся, калі ён прапануе злучыць вашыя лёсы..."*

І яна паслухалася...

Гарбаты карлік з яйкападобнай галавою, зарослым да броваў тварам, маленькімі, быццам дзіцячымі, пальчыкамі набраў на клавіятуры:

*"Тата Д'ябал! На месца прыбыў, але трапіў у пастку. Сітуацыя складаная: героі блакіруюць пакой пісьменніка. Стаяць за дзвярыма і не выпускаюць мяне. Выкрылі і прапануюць абмен: маё жыццё на жыццё іхняга аўтара. Чакаю дапамогі. Прашу адказаць як мага хутчэй.*

*Ваш Звыродны".*

Д'ябал адазваўся адразу:

*"Падвёў ты мяне, сынок. Маладосць, нявопытнасць, што тут зробіш. Разумею. Давядзецца напружыцца, выцягнуць цябе з людскога балота. Цяпер — пра герояў. Скажы ім праўду: аўтара вярнуць немажліва. Героі ажылі, значыць, ён ужо ў гісторыі. Няхай яны зробяць сваё — заб'юць цябе. Я буду чакаць твайго вяртання. І не перажывай: гэта не апошняя спроба."*

Так і здарылася. Адзін з герояў уварваўся ў пакой пісьменніка і выкінуў выродка праз акно. Той не разбіўся, а, нібы свярдзёлак, увайшоў у зямлю.

Барацьба пачалася спачатку. Першая спроба аказалася для ўсіх няўдалай

Яна зноў у ягоным пакоі. Гэтым разам камп'ютэр уключыўся і загрузіўся сам.

— Што рабіць? — паглядзела, як ажывае дысплей. — Выродак знік, але, мажліва, ёсць іншыя варыянты? Памажы, зусім знебылася без цябе. Героі адзін за адным ідуць у жыццё, і хутка я застануся адна.

"Не хвалюйся! — адказаў дысплей. — Адзін з герояў ужо не наш, але гэта толькі дапамога..."

— Я веру табе. Спадзяюся, усё будзе так, як ты задумаў, — сказала яна.

"Я таксама", — засвяцілася на дысплеі, і праз секунду ён згас.

Далейшыя падзеі не задоўжыліся.

"Малайчына, д'ябал, добра прыдумаў, — пасміхнуўся, гледзячы на яе, выpадак. Ён толькі-толькі з'явіўся і адразу адчуў ейны пяшчотны радасны погляд. — Варта прыняць аблічча аднаго з герояў і — зусім іншы вынік".

Вынік быў іншы, але не той, на які карлік разлічваў.

Ператвараючыся ў героя, ён не ўлічыў, што са зменаю абалонкі мяняецца і нутро. Нутро ж яе стварае. Карлік раствраўся ў героі. Здзейсніўся план пісьменніка. Герой быў часткаю яго самога, першаю прыступкаю пранікнення, пачаткам вяртання.

— Ты ўжо тут? — спытала яна, не верачы сваім вачам.

— Добрага дня, дарагая! — ажыў пісьменнік. — Як табе спадабалася нашае апошняе апавяданне?

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай смерці нястомнага прапагандыста нацыянальнай культуры і мастацтва, старшыні Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, былога намесніка міністра культуры БССР, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь ВАНІЦКАГА Арсенія Мікалаевіча і выказвае свае спачуванні яго родным і блізкім.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне паэту Васілю ЗУЁНКУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці сястры Кацярыны Васільеўны.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае спачуванне пісьменніку КУНЦЭВІЧУ Віктару Іванавічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**

ПЕРАКЛАДЫ

# "Літва, Літва! Як сонечны прамень..."

*Авеяныя стагоддзямі беларуска-літоўскія культурныя і, у прыватнасці, літаратурныя стасункі праходзяць чарговае выпрабаванне часам і новымі абставінамі. Абнадзейваюць як багатыя традыцыі, так і яшчэ свежы ў памяці станоўчы вопыт: узаемаабмен мастацкімі перакладамі, асабістае сяброўства многіх творцаў дзвюх суседніх краін. Вопыт, пра які выразна сказаў калісь Максім Танк:*

***Літва, Літва! Як сонечны прамень***
***Звіняць у маім сэрцы твае дайны.***

*Абнадзейвае і той факт, што апошнім часам пераклады на літоўскую мову надрукаваныя раман В. Коўтун "Крыж міласэрнасці", асобныя творы В. Быкава, С. Законнікава, А. Разанава. А днямі па запрашэнні Саюза пісьменнікаў Літвы Вільнюс наведае група нашых пісьменнікаў на чале з выконваючай абавязкі старшыні СБП В. Іпатавай. У складзе дэлегацыі А. Вярцінскі, С. Законнікаў і В. Коўтун. У праграме іх знаходжання — гутаркі з літоўскімі пісьменнікамі наконт далейшага творчага ўзаемасупрацоўніцтва, у прыватнасці, абмеркаванне праспекта нумароў нашага "Полымя" і літоўскага "Metai" ("Годы"), на старонках якіх адбудзецца ўзаемны абмен публікацыямі новых перакладаў. Беларускія пісьменнікі прымуць таксама ўдзел у адкрыцці Вільнюскага кніжнага кірмашу, сустрэнуцца з настаўнікамі калектывам і прадстаўнікамі беларускай дыяспары ў беларускай сярэдняй школе імя Ф. Скарыны г. Вільнюса.*

*Ніжэй, напярэдадні падзеі (дарэчы, і напярэдадні Дня незалежнасці Літоўскай Рэспублікі) прапануецца ўвазе чытачоў падборка новых перакладаў з літоўскай паэзіі. У падборцы прадстаўлены паэты розных генерацый і розных творчых манер. Сярод іх і імя беларускай літоўкі, вядомага ў тэатральным асяроддзі рэжысёра Віргініі Тарнаўскайтэ (яна з'яўляецца зараз дырэктарам Літоўскага цэнтра культуры, адукацыі і інфармацыі ў РБ).*




## Яніна ДЗЕГУЦІТЭ

### *На далоні зямлі*

*Там, каля вербаў ніцых,*
*Каля крыніц зялёных,*
*Мяне, як зярнятка маку,*
*Трымае зямля на далонях.*

*Б'е праз зямныя пальцы*
*Кроў мая буйным струменнем,*
*Гэта мой крык прарастае*
*У глыбіню карэннем.*

*Як страшна падчас згінае*
*Ноша былога ўчынку!*
*Але заўсёды трымае*
*Зямля мяне, быццам пясчынку.*

*Здасца — што ёй жывое*
*У белы попел расцерці...*
*Там — нездарма і ў поўдзень*
*Вецер дыханнем смерці.*

*Толькі, мяне нарадзіўшы,*
*Будзеш сваёй адвечна.*
*О, утрымай няхітры*
*Набытак мой чалавечы:*

*Боль, і адчай, і каханне!*
*Каля крыніц зялёных*
*Чалавека, нібыта зорку,*
*Трымае зямля на далонях.*

### *Літве*

*Ты — маленькая. Цябе ўмясцілі б*
*Каралёў Чурлёніса далоні.*
*Ты як скібка іржанога хлеба*
*На застаўленым стале планеты.*

*На зямной адзежыне ты —*
*латка.*
*Лускавінка рыцарскіх даспехаў.*
*Пірчупіса полымя ўплялося*
*Ў стужку тваю з сіняга блакіту.*

*Кропелька іскрыстая вясёлкі,*
*Шызы ранак над раллёю чорнай,*
*Ты — бурштын задымлены,*
*дзе ў жоўтым*
*Ледзьве бачыцца крыві адценне.*

*Толькі, цёплая ў далонях родных,*
*Ты — вялізная ў любові нашай.*

*Нашым сумам*
*складзеная казка,*
*Сонечны нязгасны промень.*

## Віргінія Тарнаўскайтэ

### *Маймy дзеду*

**РАЗМОВА З ПАРТРЭТАМ**

*Прыцемак —*
*Між тым і гэтым светам*
*Шчыліна.*
*Малелькае дзіця,*
*Я стаю перад тваім партрэтам:*
*Там, па той бок шкла,*
*У часе тым.*
*Незнаёмы пан сядзіць*
*ў высокім крэсле.*

*Упакоі тым вечна набухае цвет...*

*Прыцемак —*
*Між тым і гэтым светам*
*Шчыліна.*
*Стаю перад тваім партрэтам.*
*Там, па той бок шкла,*
*У часе тым,*
*Малады фарсун сядзіць на крэсле.*
*Упакоі тым вечна набухае цвет.*

*Там, за шклом,*
*У часе іншым тым*
*Твае радасці і страсці.*
*І твой боль —*
*Ён там,*
*Па той бок шкла.*

**Пераклад Вольгі ІПАТАВАЙ**

## Міколас КАРЧАЎСКАС

### *Вершы Студзеня*

**I**

*Божа мой,*
*гэтай грымотнай ноччу,*
*Калі нянавісцю захлынаецца сэрца*
*І вочы слепіць бяссільны гнеў,*
*А ногі і рукі мае дранцвеюць,*

*Хачу ляцець у прорву ці*
*накінуць пельку,*
*Але цемра сыходзіць, знікае,*
*І рука шукае руку,*
*каб мы з'ядналіся*
*І зачалі родную сумную песню,*

*Абдымаючы неабдымную Літву*
*У сэрцы кожнага... Сэрца б'ецца!*
*Нападайце на нас,*
*баязліўцаў не знойдзеце.*
*О, Літва, ты яднаеш усіх, усіх.*

*І разаб'ецца пачварная сіла*
*Аб жывую —*
*з крыві і плоці — скалу...*
*Першыя, назаўжды*
*свабодныя людзі*
*На прамерзлы, каляны дол упалі.*

**II**

*Мы адзінокія ля дамавін*
*У пахавальнай маўклівай хадзе —*
*Студзеньскі сівер усіх праймае:*
*Як выстаім, куды пойдзем?*

*Праз нашыя душы шчымліва паўзе*
*Гэтая замаруджаная працэсія,*
*Боль навылет прабівае сэрца:*
*Што будзе з намі? Ці выстаім?*

*Мы адзінокія, калі ідзем,*
*І адзінокія, калі вяртаемся.*
*Хоць і адолелі гвалт над сабою,*
*Але няўпэўненыя ў сабе.*

*Сябе яшчэ не перамаглі,*
*Сябе яшчэ не зведалі.*

**III**

*Наш ланцуг жывы, чалавечы*
*Абняў і сціснуў Літву балюча.*
*І высокі блакіт прыслухаўся,*
*Бо званіцы спеляць трывогу...*

*Пад гэтым небам чуюцца крокі*
*Тысячагоддзя крэўнай Айчыны.*
*Ідуць і мёртвыя, і жывыя,*
*Якія вырвалі з путаў свабоду.*

*Радасць свеціцца праз слёзы,*
*Але паход наш і наш прыход —*
*Гэта не апошняе шэсце*
*І не апошняе вяртанне, —*
*За маўклівае яднанне, людзі,*
*Дараванне грахоў нам Усім будзе.*

**Пераклад Сяргея ЗАКОННІКАВА**

## Яўгеніюш АЛІШАНКА

### *Той, хто смяяўся над мёртвымі*

*Той, хто смяяўся над мёртвымі,*
*быў паміж намі, і мы*
*ці пакратаць яго рукамі,*
*ці ў пушчы кніг заблудзіцца маглі*
*разам з ім,*
*альбо нават на адзіноце,*
*каб патаемна,*
*бы ў запаволеным танцы,*
*вырваць са строяў начных яву,*
*калі...*
*нечыя вусны напяваюць*
*развітальныя гімны,*
*у нечых вачах даспявае*
*барвовы гарызонт,*
*...нечыя рукі тасуюць*
*паміж намі дні,*
*якіх, дарэчы,*
*заўжды так няшмат.*

*Той, хто смяяўся над мёртвымі,*
*быў адным з нас, але мы*
*не разгледзелі,*
*не распазналі,*
*каб патрабаваць для яго смерці*
*ў Вярхоўным Судзе,*
*альбо адрачыся таемна, бо*
*гэтак верылі ў веру,*
*хаця і жылі на працэнты*
*жыццяў чужых*
*і чакалі,*
*так чакалі залевы,*
*што змывае дарогі ілжы,*
*каб не вярнулася тое,*
*што бачылі ў сне,*
*расплюшчаныя вочы...*

*Той, хто смяяўся*
*над мёртвымі,*
*быў разам з намі, для нас,*
*поўны, як амфара, з якой пілі мы*
*да п'янага гвалту лозунгаў*
*і ванітавання,*
*хоць не бачылі ў зрэнках*
*напою працягу ці дна...*

*Той, хто смяяўся над намі,*
*той, хто жыве паміж нас,*
*той, хто смяецца*
*над мёртвымі*
*ўчора і заўтра... Час!..*

**Пераклад Валянціны КОЎТУН**

## Рамутэ СКУЧАЙТЭ

### *Дамоў*

*Па верасах і мхах — дамоў.*
*Па шэрых камянях — дамоў.*
*Скрозь скрып глухі варот — дамоў.*
*Скрозь цесны строй дзвярэй — дамоў.*

*Дамоў — ні свет і ні зара.*
*Дамоў — спіць моцна дзетвара.*
*Дамоў — на косах свежасць рос.*
*Дамоў — як птушкі ў сінь нябёс.*

*Дамоў — не выкажаш душу.*
*Дамоў — пакуль няма дажджу.*
*Дамоў — жаўцее збажына.*
*Дамоў — азяблая, адна.*

*Дамоў — ў святле і цемнаце.*
*Дамоў — адзіны шлях вядзе.*
*Дамоў — дзе белы ткуць сувой,*
*з якім пайду ў дом вечны свой.*

## Марцэліюс МАРЦІНАЙЦІС

●

*Павядзе мяне мой садоўнік*
*У светлую поўнач чэрвеня,*
*Па вісячых ажурных мастах*
*Павядзе мяне яшчэ соннага.*

*Між зямлёю і месяцам*
*Закалышуцца воды*
*Заквітнеюць зоркі,*
*Нібы квітнеюць ліліі.*

*Я ўбачыў, як ідзе дзяўчына, —*
*Ідзе па ліліях,*
*З кветкі на кветку,*
*І як падае на месяц*
*Яе цень, празрысты, пяшчотны.*

*Будзе весці белы садоўнік*
*Па блакітных вісячых мастах,*
*Будзе весці далей і вышэй.*

*Хто ж абудзіць мяне ад сну*
*У светлую поўнач чэрвеня,*
*Калі я зайду далёка?*
*Калі стану для ўсіх незнаёмы?*

**Пераклад Анатоля ВЯРЦІНСКАГА**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЛіМ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фота-карэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856
Наклад 2865
Нумар падпісаны ў друк 1.2.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 626

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12




## Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

### У Доме літаратара

*6 лютага.* Пасяджэнне бюро секцыі літаратуры для дзяцей і юнацтва: сустрэча з літаратурнай суполкай "Купалінка" Мінскага раёна.

*7 лютага, 15.00,* бібліятэка СБП. Літаратурная сустрэча.

*8 лютага, 18.00,* Вялікая зала. Да 80-годдзя Івана Мележа.

*13 лютага, 18.00,* Вялікая зала. "Світальны подых". Паэтычная вечарына да Дня Святога Валянціна.

*15 лютага,* бібліятэка СБП, Пасяджэнне бюро секцыі паэзіі.

*15 лютага, 16.00,* бібліятэка СБП. Літаратурная сустрэча з пісьменнікам Я. Мальцам.

*27 лютага, 15.00,* Канферэнц-зала. Пасяджэнне бюро секцыі мастацкага перакладу: прэзентацыя "Анталогіі балгарскай паэзіі".

*28 лютага.* Пасяджэнне прыёмнай камісіі.